ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# САВЕЦКАЯ КРАІНА



КАСТРЫЧНІК

№ 10 (12)

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ



Кастрычнік

№ 10 (12)



МЕНСК —— 1931



# Аб выданьні „Гісторыі заводаў“

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 10-га кастрычніка 1931 году.

1. Ухваліць прапанову тав. М. Горкага і прыступіць да выданьня сэрыі зборнікаў „Гісторыя заводаў“.

Зборнікі гэтыя павінны даць малюнак разьвіцьця старых і ўзьнікненьне новых заводаў, іх ролю ў экономіцы краіны, становішча рабочых да рэволюцыі, формы і мэтоды эксплёатацыі на старых заводах барацьбу рабочых з прадпрыемцамі, бытавыя ўмовы, узьнікненьне рэволюцыйных організацый і роля кожнага заводу ў рэволюцыйным руху, роля заводу ў зьменах адносін на заводзе пасьля рэволюцыі, зьмены тыпу рабочага, ударніцтва, спаборніцтва і ўздым вытворчасьці за апошнія гады.

Да складаньня „Гісторыі заводаў“ павінны быць прыцягнуты як самі рабочыя, так і гаспадарнікі і інжынэрна-тэхнічны пэрсонал.

2. Зацьвердзіць рэдколегію „Гісторыі заводаў“ у складзе тт.: Горкі, Кагановіч Л., Постышаў, Андрэеў А. А., Енукідзе, Стэцкін, Бухарын, Пятакоў, Швэрнік, Косараў, Ціхон, Багушэўскі, Усевалад Іванаў, Авэрбах, Гронскі, Гасьцеў, Панкратаў, Мэхліс, Папоў Н., Жыга, Лебедзінскій, Калацілаў, Церахаў, Самойлаў, Сулімаў, Шумандрын, Зайцаў, Пісараў А., Крывоў, Цыперовіч, Сэйфуліна.

3. Выданьне „Гісторыі заводаў“ ускласьці на аддзел Дзяржаўнага Выдавецтва.

ЦК УсеКП(б).

---

В. Серафімаў

# Чатырнаццатая гадавіна Кастрычніка і нашы задачы

Да чатырнаццатай гадавіны Кастрычніка пролетарыят Савецкага саюзу падходзіць з вялізарнейшымі дасягненьнямі ў завяршэньні пабудовы фундаманту социялістычнай экономікі. Намечаныя плянавыя паказчыкі трэцяга рашаючага году пяцігодкі ня толькі з посьпехам выконваюцца, але і перавыконваюцца. Лёзунг рабочае клясы—пяцігодка ў чатыры гады—ударнымі тэмпамі ажыцьцяўляецца з усёй пролетарскай адказнасьцю і мае свае рэальныя вынікі па галоўнейшых паказчыках социялістычнага будаўніцтва. Пасьпяховае выкананьне плянаў прамысловасьці і своечасовы пуск „518“ забясьпечвае поўную магчымасьць організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў і на гэтай аснове колектывізацыю к канцу пяцігодкі ў асноўным закончыць.

Выходзячы з ударных тэмпаў социялістычнага будаўніцтва і дырэктыў партыі, Беларуская Акадэмія Навук карэнным чынам перабудавала сваю працу. Партыйная організацыя БАН была адным з апорных зьвеньняў у барацьбе і разгроме контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Карэнная перабудова работы БАН патрабавала новых форм працы і сыстэматычнай організаванай сувязі БАН з шырачайшымі коламі рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас і савецкай інтэлігенцыі. Перад БАН стала задача сыстэматычнага выданьня масавай навукова-популярнай літаратуры па актуальных пытаньнях социялістычнага будаўніцтва, організацыя рабочых і колгасных мас на ўдзел у навукова-дасьледчай працы.

Пройдзены год у рабоце краязнаўчых організацый быў годам барацьбы за савецкае краязнаўства. У пытаньні разгрому контррэволюцыйнай нацдэмаўскай концэпцыі ў краязнаўстве мы прарабілі вялікую працу. Праведзена шырокая праца па популярызацыі савецкага краязнаўства. Некаторыя краязнаўчыя організацыі ўключыліся ў актыўную работу раённых выканаўчых камітэтаў і бясспрэчна нясуць адказнасьць у дасьледваньні і плянаваньні народнае гаспадаркі. Мяняецца і социяльны склад краязнаўчых організацый. Расьце актыў краязнаўцаў сярод партыйцаў, комсамольцаў, рабочых, колгасьнікаў. Частка старых краязнаўцаў, стаўшых на рэйкі савецкага краязнаўства, сумленна бярэцца за працу. Аднак-жа, краязнаўчыя організацыі на сёнешні дзень ня справіліся з тымі задачамі, якія выцякаюць з дырэктыў партыі і тэмпаў социялістычнага будаўніцтва. Яшчэ і на сёньня, ня гледзячы на яскравую дырэктыву партыі аб разгортваньні краязнаўчай працы, у радзе раённых парторганізацый і работнікаў існуе недаацэнка краязнаўчай працы, як аднаго з зьвеньняў социялістычнага

будаўніцтва. Нізавыя партыйныя, савецкія і профсаюзныя організацыі ня ўключылі ў пляны сваёй опэрацыйнай работы сыстэматычнае кіраўніцтва масавай навукова-дасьледчай працай. Выданьне масавай навуковай літаратуры па розных спэцыяльных галінах нашага будаўніцтва, выданьне падручнікаў на краяведным матар'яле, шырачэйшы абмен вопытам асобных фабрык, заводаў, колгасаў, саўгасаў — зьяўлялася самым вузкім месцам у навукова-дасьледчай працы. Бясспрэчна, што такое становішча недапусьціма і патрабуе карэннай перабудовы і рашучага зруху ў разгортваньні масавай навукова-дасьледчай працы.

Організаваны масавы сэктар, з ЦБК, усімі Інстытутамі БАН, органічна зьвязаўшы сваю працу з савецкімі гаспадарчымі і грамадзкімі організацыямі пры сыстэматычным кіраўніцтве з боку парторганізацый, шырока прыцягваючы да працы навуковыя і навучальныя ўстановы, павінен опэрацыйна кіраваць масавай навукова-дасьледчай працай.

Програма дзейнічаньня масавай дасьледчай працы павінна выходзіць з пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, якія катэгорычна патрабуюць ад навукова-дасьледчых устаноў ударнай работы. Пастановы чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), прамова т. Сталіна на конфэрэнцыі гаспадарнікаў, пастанова ЦК УсеКП(б) аб тэмпах колектывізацыі — баявая програма наступленьня пролетарыяту павінна стаць баявой програмай масавага дасьледваньня ўсіх навукова-дасьледчых устаноў і організацый. Організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў, пытаньне рабочай сілы, гаспадарчага разрахунку, ліквідацыя абязьлічкі патрабуюць безадкладнай практычнай працы цэнтральных і нізавых навукова-дасьледчых зьвеньняў па ўсіх галінах як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Зьдзельшчына, спэцыялізацыя колгасаў і савгасаў, організацыя працы, новыя мэтоды і формы працы, клясавая барацьба, рабочая сіла, кармовая база і жывёлагадоўля, культурнае будаўніцтва, кадры—усё гэта павінна стаць баявой програмай кожнага раённага бюро, кожнай краязнаўчай ячэйкі, школы, колгасу, савгасу, фабрыкі, заводу.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб выдавецкай справе перад краязнаўчымі організацыямі ставіць конкрэтную задачу па вывучэньню раёнаў БССР. „Неабходна здаволіць поўнасьцю вучэбнымі прыладамі школы розных тыпаў і рашуча палепшыць якасьць вучэбных пасобій. Падручнікі для школ першай і другой ступені павінны складацца ў асноўным на краявым матар'яле“ (пастанона ЦК УсеКП(б) ад 15 жніўня 1931 г.) Гэта дырэктыва ЦК патрабуе безадкладнай ліквідацыі тэй безадказнасьці ў вывучэньні экономікі раёнаў, якая існуе да гэтага часу. Выяўленьне прыродных багацьцяў раёнаў, усебаковае вывучэньне экономікі і пэрспэктыў разьвіцьця раёнаў, складаньне экономічных характарыстак раёнаў, організацыя краязнаўчых музэяў, якія-б давалі малюнак разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, падрыхтоўка краязнаўчых падручнікаў—работа ўсёй савецкай грамадзкасьці. У раёнах, дзе маецца навуковы актыў, вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэхнікумы — павінны прыступіць безадкладна да работы па выданьню раённых краязнаўчых зборнікаў; праз асобныя зборнікі пры ЦБК мы павінны распачаць выданьне экономічных характарыстык раёнаў.

У пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе правільна зазначана аб „значным адрыве навукова-дасьледчых устаноў у галіне пэдагогікі ад практычных задач школы; ЦК УсеКП(б) прапануе Наркамасьветы союзных рэспублік згрупаваць работу адпаведных дасьледчых інстытутаў галоўным чынам на вывучэньні і аба-

гульненьні вопыту накопленнага практычнымі работнікамі школы ў асаблівасьці політэхнізацыі". Гэта пастанова патрабуе ад нас безадкладнай ліквідацыі адрыву навукова-дасьледчай працы ад школы. Праз „Савецкую Краіну", праз выданьне асобных брошур трэба організаваць шырокі абмен вопытам практычных работнікаў школы. Трэба ў плянавым парадку вызначыць рад школ розных тыпаў для дасьледваньня пастаноўкі школьнай работы, выхаваўчага процэсу школы і г. д. Гэта пастанова патрабуе і актыўнага ўдзелу саміх настаўнікаў у навукова-дасьледчай працы, сыстэматычнага аналізу сваёй працы, разгортваньня пролетарскай самакрытыкі і актыўнага ўдзелу ў друку. Інстытут Пэдагогікі БАН, прыцягнуўшы школьны актыў, павінен даць як-мага хутчэй програму па монографічнаму вывучэньню школы.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб выданьні гісторыі заводаў — баявая програма разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы на заводзе. „Да складаньня гісторыі заводаў павінны быць прыцягнуты як самі рабочыя, гэтак гаспадарнікі і інжынэрна-тэхнічны пэрсонал". Партыйныя організацыі на заводах павінны стаць на чале організацыі рабочых заводу і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу па вывучэньню гісторыі заводаў. Вакол гэтай конкрэтнай баявой програмы павінна концэнтравацца ўся навукова-дасьледчая праца, як непадзельная частка ўсяго процэсу заводу, на конкрэтных пытаньнях, высунутых у пастанове ЦК, павінна організавацца краязнаўчая ячэйка—шырокім удзелам саміх рабочых вынаходцаў і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб вывучэньні гісторыі грамадзянскай вайны — баявая задача ў разгортваньні масавай навукова-дасьледчай працы. Да гэтай працы трэба прыцягнуць „жывых удзельнікаў грамадзянскай вайны, якія павінны прыступіць да складаньня ўспамінаў, нарысаў, зарысовак, гістарычных хронік; няўмеючых апісаць—апытаць, запісаць іх апавяданьні застэнографаваць іх выступленьні на вечарох успамінаў. Неабходна прыцягнуць да пісаньня ўспамінаў тых, хто ня быў непасрэдным удзельнікам грамадзянскай вайны, але бліжэйшым чынам назіраў яе падзеі, знаходзячыся ў раёнах баёў ці працуючы ў партыйных, профэсіянальных організацыях і савецкіх установах, а таксама членаў сямей удзельнікаў грамадзянскай вайны". Пастанова ЦК і інструкцыя галоўнай рэдакцыі зьяўляюцца асноўнай програмай масавай навукова-дасьледчай працы, на выкананьне якой павінны мобілізаваць сябе ўсе краязнаўчыя організацыі.

Каротка пералічаныя пастановы ЦК УсеКП(б) з усёй рашучасьцю ставяць перад мясцовымі партыйнымі організацыямі патрэбу безадкладнай ліквідацыі прарываў у організацыі і кіраўніцтве навукова-дасьледчай працай. Дырэктыва ЦК КП(б)Б аб разгортваньні краязнаўчай працы ў раёнах зьяўляецца на сягодня актуальнай і бясспрэчна выцякае з дырэктыў ЦК УсеКП(б).

Неадкладнай задачай яшчэ і на сягодня застаецца ўтварэньне раённых бюро краязнаўства, якія-б забясьпечылі опэрацыйную працу па выкананьню дырэктыў партыі і па мобілізацыі шырачэйшых мас на іх выкананьне.

Разгортваючы работу па масавай навукова-дасьледчай працы, па шырокай організацыі савецкага краязнаўства, мы павінны рашуча разаблачаць „правыя ўстаноўкі як галоўную небясьпеку ў сучасны пэрыод („акадэмізм" у рабоце, „лібэральныя адносіны" да барацьбы з старым краязнаўствам) і супроць левых загібаў (агульнае адмаўленьне старой спадчыны „спецаедзтва" ў краязнаўстве і да г. п.)" (з паста-

новы прэзыдыуму Окрам), ні ў якім разе не паслабляючы барацьбы з нацдэмаўскім краязнаўствам.

У чатырнаццатую гадавіну Кастрычніка СССР і яго частка—БССР будуць падводзіць вынікі вялізарнейшых перамог. Кожная фабрыка, завод, савгас, колгас, школа будуць практычным штурмам адзначаць пролетарскае сьвята. Задача краязнаўчых організацый, актыўна ўдзельнічаючы ў штурме да новых перамог, зьбіраць матар'ялы па ітогах работы кожнага заводу, колгасу, савгасу—пісьмовы матар'ял, дыяграмы, экспонаты, усё, ілюстрыруючае нашы перамогі да чатырнаццатай гадавіны, павінна быць сабрана і організавана.

Чатырнаццатая гадавіна Кастрычніка ў галіне масавай навукова-дасьледчай працы павінна быць пачаткам організацыі навукова-дасьледчай працы, краязнаўчых ячэек на заводах, колгасах, савгасах, школах, організацыяй музэяў у раёнах на прадпрыемствах і колгасах.

І. Мацьвяёнак

# Напярэдадні Кастрычніка

*(Старонкі з гісторыі сялянскага руху 1917 г. на Беларусі)*

## I

Толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя вырашыла канчаткова зямельнае пытаньне, перадаўшы землі і інш. сродкі вытворчасьці ў карыстаньне працоўных мас сялянства. Яна зьнішчыла фэўдальна-буржуазнае землеўладаньне, зьмяла з твару савецкай зямлі ня толькі рэшткі прыгоньніцтва, якія яшчэ захоўваліся на вёсцы, але і асновы капіталізму ў вёсцы, якія ўжо задоўга да Кастрычніка з стымулу разьвіцьця сельскае гаспадаркі зрабіліся яго аковамі. Закончыўшы мімаходам буржуазную рэволюцыю ў вёсцы, яна ўзьвяла працоўныя сялянскія масы на новы шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі—на шлях пабудовы соцыялізму, шлях, гістарычна апраўданы ў вачох абсолютнае большасьці працоўнага сялянства практыкай соцыялістычнага будаўніцтва за 14 гадоў рэволюцыі.

Сялянства задыхалася ад „самых брыдкіх, самых несьцярпімых перажыткаў прыгоньніцкіх парадкаў на вёсцы, якія дапаўняліся ўсяўладзьдзем пана“ (Сталін). Але адно сялянства не магло павесьці рашучага змаганьня з гэтымі парадкамі. Яму патрэбны быў моцны кіраўнік і саюзьнік, рашучы і адважны настолькі, каб ня спыніць змаганьне на паўдарозе, а давесьці яго да пераможнага канца.

У пэрыод рэакцыі сялянства хісталася ад аднаго кіраўніка да другога.

Адразу, пасьля падаўленьня рэволюцыі 1905 г., сялянства трапіла было на нейкі час пад уплыў лібэральнае буржуазіі. Сталыпіншчына адчыніла перад сялянствам, якое яшчэ ня ведала дэталёва сутнасьці капіталістычнага разьвіцьця, „заманчивые дали“ буржуазна-кулацкага разьвіцьця вёскі, стварыла ілюзіі магчымасьці акулачвацца кожнаму стараннаму і працавітаму гаспадару. Але жыцьцё ў самым хуткім часе вылечыла працоўнае сялянства ад гэтае ілюзіі, а разам з тым і ад ранейшай прыхільнасьці яго да кадэцкае буржуазіі. Замест ілюзій капіталістычнага разьвіцьця ўсяго сялянства праявілася зусім адваротная тэндэнцыя „вымываньня серадняка“, ажабрачваньня і пролетарызацыі серадлякоў і беднаты. Серадняцка-бядняцкія масы сялянства пачалі адыходзіць ад лібэральнай буржуазіі на бок пролетарыяту. Пэрыод ад рэволюцыі 1905 г. да Лютаўскае рэволюцыі 1917 г. характарызуецца масавым адыходам сялянства ад кадэтаў, паваротам яго ў бок пролетарыяту і яго бальшавіцкае партыі.

Імпэрыялістычная вайна яшчэ больш абвастрыла становішча працоўных мас сялянства і выявіла клясавыя супярэчнасьці царскай Расіі ў нагляднай, усім зразумелай форме. У той час, калі сялянская гаспадарка, пазбаўленая рабочых рук, занепадала з кожным лішнім днём вайны, сялянства бачыла, як таўсьцелі і нажываліся ад вайны іх адвечныя ворагі—паны. Пашыраецца ўсё больш і больш дэзэртырства, як своеасаблівы протэст сялянства супроць імпэрыялістычнае вайны і клясавай політыкі буржуазіі. Напярэдадні лютага 1917 г. вялізныя атрады добра ўзброеных дэзэртыраў групаваліся ў прыфрантавой паласе (асабліва на Магілеўшчыне, Бабруйшчыне і Мазыршчыне) і нярэдка організоўвалі ўзброеныя сутычкі з паліцыяй і карнымі атрадамі, пасланымі супроць дэзэртыраў. Разьмясьціўшыся ў асобных вёсках са сваімі штабамі (на поўным матар'яльным утрыманьні сялянства гэтых вёсак, як напр, вёскі—Хатоўня, Іскань, Гута, Канава—на Магілеўшчыне), гэтыя атрады падбухторвалі сялянства, рэволюцыянізавалі яго. Праўда, у большасьці сваёй гэтая пропаганда была стыхійным выразам дробна-буржуазнай анархічнай бунтарскасьці, але і яна адыграла некаторую ролю ў тым, што фактычна рыхтавала сялянскія масы да Лютаўскай рэволюцыі пропагандай супроць царызму і паноў.

„Восем месяцаў—ад лютага да кастрычніка 1917 г.—сьмела могуць быць пастаўлены на адну дошку з цэлымі дзесяцігодзьдзямі звычайнага констытуцыйнага разьвіцьця, бо яны адзначаюць 8 месяцаў *рэволюцыі*. Характэрнай рысай гэтага пэрыоду зьяўляецца далейшае рэволюцыянізаваньне сялянства, яго расчараваньне ў эсэрах, *адыход* сялянства ад эсэраў, новы *паварот* сялянства ў бок *простага злучэньня* вакол пролетарыяту, як адзінай, да канца рэволюцыйнай, сілы, якая здольна прывесьці краіну да міру. Гісторыя гэтага пэрыоду ёсьць гісторыя барацьбы эсэраў (дробна-буржуазная дэмократыя) і бальшавікоў (пролетарская дэмократыя) за сялянства, за аўладаньне большасьцю сялянства. Лёс гэтага змаганьня вырашылі коаліцыйны пэрыод, пэрыод керанщчыны, адмаўленьне эсэраў і меншавікоў ад конфіскацыі панскай зямлі, змаганьне эсэраў і меншавікоў за працяг вайны, чэрвеньскае наступленьне на фронце, сьмяротная кара для салдат, паўстаньне Карнілава“ (Сталин—Вопросы ленинизма, стар. 50).

За гэтыя 8 месяцаў сялянскі рэволюцыйны рух уліўся ў агульнае рэчышча клясавай барацьбы пролетарыяту, пролетарскай рэволюцыі. Сялянскія працоўныя масы канчаткова і беспаваротна абралі сваім кіраўніком пролетарыят, сталі пад яго гегемонію і пад кіраўніцтвам бальшавіцкае партыі выступілі супроць старога ладу. Хронолёгія рэволюцыйных падзей гэтых 8 месяцаў ёсьць самы яскравы малюнак масавага процэсу пераходу сялянства на бок бальшавікоў, абальшавічваньня сялян. Кожны наступны месяц гэтага пэрыоду адрозьніваецца ад папярэдняга ростам ня толькі колькасьці сялянскіх выступленьняў, а і якасьці іх—організаванасьці, сьвядомасьці і г. д.

Бальшавіцкая партыя яшчэ напярэдадні Кастрычніка была выпрабавана, выверана працоўным сялянствам, як авангард, за якім можна бязбоязна пайсьці ад перамогі да перамогі. Сучасныя буйныя тэмпы колектывізацыі СССР ёсьць таксама вынік давер'я працоўных мас сялянства да комуністычнай партыі і яе генэральнай лініі, давер'я, якое мае сваёй асновай перакананьне сялянскіх мас у правільнасьці бальшавіцкай лініі яшчэ ў пэрыодзе падрыхтоўкі Кастрычніка і, зразумела, яшчэ больш у час пасьля Кастрычніка.



## II

Докумэнты аб сялянскім руху 1917 г., якімі мы карыстаемся, ня вычэрпваюць поўнасьцю данай тэмы. Гэта, з аднаго боку, апублікаваныя матар'ялы аб сялянскіх „праваparушэньнях", паступіўшыя ў Галоўную Ўправу па справах міліцыі з сакавіка па кастрычнік 1917 г. (Зб. „Крестьянское движение в 1917 г." пад рэд. М. Н. Пакроўскага і Я. А. Якаўлева) і сабраны Магілеўскім краязнаўчым т-вам у 1926—1928 г. г. фактычны матар'ял па ўспамінах удзельнікаў сялянскага руху ў 1917 г. (па-магчымасьці праверакы і супастаўлены з іншымі матар'яламі)—з другога боку. І адны і другія матар'ялы далёка няпоўныя і не заўсёды цалкам верагодныя. Так, напр., „ведамасьць аб сялянскіх правапарушэньнях" Галоўнай Управы Міліцыі, складзеная на падставе паступаўшых з месц вестак аб сялянскім руху, паказвае павялічэньне руху толькі да ліпня м-ца (уключна); з жніўня-ж ведамасьць даводзіць зьніжэньне руху і колькаснае і якаснае. Для 3-х губэрань сучаснай БССР—Віцебскай, Магілеўскай і Менскай—лічбы колькасьці сялянскіх выступленьняў і проц. організаваных выступленьняў з іх наступныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сакавік . . . | 2 | з іх організаваных | 0 — 0% |
| Красавік . . . | 14 | „ „ „ | 3 — 21% |
| Май . . . . | 51 | „ „ „ | 20 — 39% |
| Чэрвень . . . | 73 | „ „ „ | 39 — 53% |
| Ліпень . . . | 186 | „ „ „ | 92 — 50% |
| Жнівень . . . | 136 | „ „ „ | 60 — 44% |
| Верасень . . . | 122 | „ „ „ | 50 — 44% |

(За кастрычнік міліцыі Керанскага пашкодзіла скласьці весткі Кастрычнікаўская рэволюцыя).

Зразумела, гэтыя весткі няпоўныя. У той час калі сапраўдная організацыя вёскі толькі і пачынаецца з ліпня—жніўня месяца, калі зварачваюцца паступова з арміі рэволюцыйна настроеныя салдаты, гэтыя весткі даводзяць адваротнае—зьніжэньне сялянскага руху з жніўня месяца, а організаваных выступленьняў сялянства нават яшчэ раней—з ліпня, калі браць іх у процантных суадносінах. Гэтая няпраўдзівасьць вестак тлумачыцца досыць об'ектыўнымі прычынамі:—калі да ліпня месяца асобныя паны і прадстаўнікі мясцовай улады, павятовай і губэрскай, паведамлялі Галоўную Ўправу Міліцыі аб самых дробязных фактах сялянскіх выступленьняў, дык з ліпня колькасьць гэтых фактаў настолькі павялічылася, што ні апісаць іх, ні, тым больш, ахарактарызаваць кожны факт паасобку ня было ніякай магчымасьці. Данясеньні мясцовай улады з гэтага часу пачынаюць абмяжоўвацца агульнымі заўвагамі аб тым, што „ў павеце (або ў губэрні) сялянскі рух узмацняецца". Непраўдзівасьць часткі гэтых вестак тлумачыцца і клясавым характарам тых, хто падаваў гэтыя весткі. Шмат паноў, якія непасрэдна пісалі скаргі ў Галоўную Ўправу, зразумела, часта пераўвялічвалі рэволюцыйныя настроі мас паводле прыказкі „ў страха вочы вялікія". Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы докумэнтальных даных, выкарыстаць іх, як фактычны матар'ял, бязумоўна можна.

Хронолёгія рэволюцыйных падзей па месяцах адрозьніваецца: 1) глыбінёй і сьвядомасьцю руху, 2) мясцовымі ўмовамі. Так, напр., найбольшы лік фактаў захопу сялянамі панскіх сенажацяў і пакосаў прыпадае на час касьбы—чэрвень—ліпень; захоп ураджаю панскага поля—на жнівень—верасень; запашка панскіх зямель пад азімае—на

верасень і г. д. І толькі тыя сялянскія выступленьні, якія мелі непасрэдны політычны характар, разьвіваюцца з кожным месяцам пад уплывам рэволюцыйнай пропаганды бальшавікоў, якія прасякаюць у вёску, часьцей у асобе салдат, якія зьвярнуліся з фронту. Такія падзеі, як зруйнаваньне і падпал панскіх маёнткаў, рэквізіцыя панскага дабра, забойства асобных контррэволюцыянэраў, прымусовая зьмена ўлады і інш. сустракаюцца ў вёсках Беларусі ўжо ў канцы верасьня і кастрычніка, г. зн. напярэдадні самаго Кастрычнікаўскага перавароту.

Паводле вестак і матар'ялаў, выкарыстаных у данай працы, можна было-б даць паасобную характарыстыку ходу рэволюцыйнага сялянскага руху па асобных губэрнях і паветах сучаснай БССР. Але нам здаецца, такая характарыстыка будзе занадта далёкай ад сапраўднасьці. Калі прытрымліваецца гэтых вестак, атрымліваецца ўражаньне, што некаторыя паветы, як, напр. Рагачэўскі, характарызуюцца вялізнай рэволюцыйнасьцю сялянскага руху ў першыя месяцы Лютаўскай рэволюцыі—сакавік—красавік—і зусім амаль-што спыняюць рух перад Кастрычнікам. Другія паветы, як, напр. Магілеўскі, наадварот, вызначаюцца радам рэволюцыйных падзей перад Кастрычнікам, а ў першыя месяцы ніякіх фактаў сялянскіх выступленьняў няма. Нарэшце, можна сустрэць такія паветы, аб якіх маецца рад фактаў толькі з аднаго-двух месяцаў, без пачатку і канца, нібыта гэтыя паветы толькі на хвіліну абудзіліся ад політычнай сьпячкі і потым, якраз напярэдадні Кастрычніка, зноў заснулі. Нам думаецца, што такое ўражаньне зьяўляецца памылковым, бо ў кожным павеце, у кожны месяц 1917 году можна было сустрэць рад любых фактаў сялянскага змаганьня з панамі.

Прыводзім ніжэй ведамасьць аб колькасьці і характары рэволюцыйных падзей сялянскага руху на Беларусі з сакавіка да кастрычніка 1917 г., паводле матар'ялаў Галоўнай Управы Міліцыі і газэтных паведамленьняў. У ведамасьці ўстаўлены, праўда, далёка няпоўныя весткі. аб рэволюцыйным рабочым і салдацкім руху за гэты-ж час. (Гл. стар. 12-13.

III

Сакавік 1917 г., паводле наяўных фактаў, характарызуецца першымі вельмі нясьмелымі крокамі сялянскага руху. У гэтым месяцы дакумэнты адзначаюць толькі выпадкі самавольнай парубкі сялянамі панскага і дзяржаўнага лесу ў Холмечы (Меншчына) і каля Рагачэва, ды і то тэлеграма губэрскага камісара ад 18/III гаворыць аб ліквідацыі гэтых непарадкаў. У астатніх мясцох сялянства яшчэ сядзіць ціха і нічым сябе не выяўляе. І толькі там, дзе былі сконцэнтраваны добра ўзброеныя і організаваныя атрады дэзэртыраў, рух набывае больш вострую форму. Узброенымі дэзэртырамі захоплены маёнтак пані Сямёнавай каля гораду Люцына і невядомы маёнтак пад Рагачэвам. Толькі з красавіка месяца можна гаварыць адносна шырокага сялянскага руху.

З лютаўскім пераваротам у працоўнага сялянства паступова пачынаюць зьвязвацца розныя соцыяльныя надзеі. Прынцып абвешчанай часовым урадам „свабоды" сяляне разумеюць па-свойму. Лічачы, што зараз пасьля рэволюцыі ўсё панскае дабро, па крайняй меры ў некаторых яго частках, належыць ім, сяляне ў пачатку зварачваюцца з вельмі наіўнымі запатрабаваньнямі да мясцовай улады. Так, напр., сяляне в. Малевічы (Рагачэўшчына) падаюць хадайніцтва аб спыненьні вырубкі лесу панам Цэбружынскім, які (лес) сяляне ўжо лічаць сваім. Але такіх фактаў у далейшым сустракаецца ўсё менш і менш. Політыка

# ВЕДАМ

аб колькасьці і характары рэволюцыйных падзей

Паводле матар'ялаў Галоўнай Управы

| №№ | Губэрні / Месяцы | Зямельныя правапарушэньні сяля: Захоп маёнткаў — Арга-нізав. | Захоп маёнткаў — Неор-ганіз. | Захоп ураджаю — Орг. | Захоп ураджаю — Неор-ганіз. | Захоп сенажацяў і пакосаў — Орг. | Захоп сенажацяў і пакосаў — Неор-ганіз. | Захоп лесу і парубка — Орг. | Захоп лесу і парубка — Неор-ганіз. | Захоп інвэнтару — Орг. | Захоп інвэнтару — Неор-ганіз. | Забарона рубкі і вывазкі лесу — Орг. | Забарона рубкі і вывазкі лесу — Неор-ганіз. | Зьняцьце з працы рабочых — Орг. | Зьняцьце з працы рабочых — Неор-ганіз. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Віцебская—Красавік . | — | 1 | — | — | — | 1 | 2 | 1 | — | 1 | — | — | — | 1 |
| | — Май . . | 2 | 2 | — | — | — | 1 | — | 3 | — | — | 1 | — | 1 | — |
| | — Чэрвень . | 1 | 1 | — | — | 2 | 1 | 4 | — | 2 | 1 | — | — | — | — |
| | — Ліпень . . | 1 | 1 | — | — | 5 | 5 | 2 | 1 | 1 | — | — | 2 | 2 | 1 |
| | — Жнівень . | 1 | — | — | 1 | 1 | 1 | 2 | — | — | 1 | 1 | — | 1 | 2 |
| | — Верасень . | 2 | — | — | — | 1 | — | 3 | 1 | — | — | — | 1 | — | — |
| | Усяго . . . | 7 | 5 | — | 1 | 9 | 9 | 13 | 6 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 4 |
| 2 | Магілеўская—Сакавік . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — |
| | — Красавік . | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | — Май . . | — | 1 | — | — | — | — | — | 2 | — | — | 1 | 3 | — | 1 |
| | — Чэрвень . | 1 | 1 | — | — | 2 | 2 | 1 | 2 | 2 | — | 1 | 1 | 1 | 1 |
| | — Ліпень . | 6 | 2 | 4 | 1 | 23 | 9 | 3 | 5 | 3 | 2 | 3 | — | 1 | 3 |
| | — Жнівень . | 1 | 2 | 3 | 2 | 4 | 5 | 2 | 1 | 2 | — | — | — | 1 | 1 |
| | — Верасень . | — | — | 1 | 5 | 1 | 2 | 1 | 4 | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | 9 | 6 | 8 | 8 | 30 | 18 | 7 | 14 | 7 | 2 | 5 | 5 | 3 | 6 |
| 3 | Менская—Сакавік . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — |
| | — Красавік . . | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — |
| | — Май . . . | — | 1 | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — |
| | — Чэрвень . . | 2 | 1 | — | — | 3 | 7 | 4 | 1 | — | — | 1 | 5 | — | 1 |
| | — Ліпень . . | 4 | 3 | — | — | 4 | 9 | 4 | 4 | — | — | — | 1 | 2 | 2 |
| | — Жнівень . . | 1 | 9 | — | 2 | 3 | 9 | 1 | 5 | — | — | — | — | — | 2 |
| | — Верасень . . | 2 | 2 | — | 2 | 2 | — | 3 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | 9 | 16 | — | 4 | 12 | 26 | 12 | 13 | — | — | 1 | 9 | 2 | 5 |
| | Усяго па 3 губ. . . | 25 | 27 | 8 | 13 | 51 | 53 | 32 | 33 | 10 | 5 | 8 | 17 | 9 | 15 |

# АСЬЦЬ

на Беларусі з сакавіка да кастрычніка 1917 г.

Міліцыі і газэтных паведамленьняў.

| мамі панскіх правоў | | | | | | | | | | | | Політ. падзеі | | | | | Рабочы рух | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прымусовая арэнда | | Арышты і вобыскі | | Інш. самаўпраўствы | | Захоп маемасьці | Грабяжы і пагром. | Рэквізіцыі | Падпалы | Усяго зямельн. непарадк. | | Рэв. пропаганда | Рэв. дзейн. мясц. улады | Прым. зьмен. ўлады | Забойствы | Вайск. хваляваньні | Забастоўкі | Рабоч. хваляваньні | Удаленьне адмін. | Захоп прадпрыем. | Усяго | Наогул |
| Орг. | Неорганіз. | Орг. | Неорганіз. | Орг. | Неорганіз. | | | | | Орг. | Неорганіз. | | | | | | | | | | | |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 7 |
| — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | 5 | 7 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 14 |
| 1 | — | — | — | — | — | 1 | 2 | — | — | 10 | 6 | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 | 17 |
| 2 | 1 | — | 1 | — | 4 | — | 4 | — | — | 13 | 20 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 35 |
| — | — | 1 | — | 4 | 6 | — | 1 | — | — | 11 | 12 | — | — | — | — | 1 | 4 | 1 | — | — | 6 | 29 |
| — | — | — | 1 | — | 4 | — | — | 2 | 1 | 6 | 10 | — | — | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | 3 | 19 |
| 3 | 1 | 2 | 3 | 4 | 14 | 1 | 7 | 2 | 1 | 47 | 60 | 3 | 1 | — | 1 | 3 | 5 | 1 | — | — | 14 | 121 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| — | — | — | — | — | 2 | — | — | — | — | 1 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 3 |
| — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | 2 | — | 2 | 10 | 1 | 3 | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 16 |
| 1 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | 9 | 8 | — | 1 | — | — | — | 1 | — | 1 | 2 | 5 | 22 |
| 1 | 1 | — | 1 | — | 11 | 1 | 1 | 1 | — | 44 | 38 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | — | 2 | — | — | 7 | 89 |
| — | — | 1 | — | — | 1 | — | 4 | — | — | 14 | 16 | 1 | — | — | 2 | 3 | 4 | — | — | — | 10 | 40 |
| — | — | — | — | 1 | 3 | — | 3 | — | 1 | 4 | 18 | 3 | 1 | — | 11 | 3 | 1 | 1 | — | — | 20 | 42 |
| 2 | 1 | 2 | 3 | 1 | 17 | 1 | 8 | 3 | 1 | 74 | 93 | 6 | 6 | 1 | 14 | 7 | 6 | 3 | 1 | 2 | 46 | 213 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | 4 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 4 |
| — | — | — | — | — | 3 | 1 | 3 | 1 | 2 | — | 14 | — | 3 | 2 | — | 2 | — | — | — | — | 7 | 21 |
| — | — | 1 | — | — | — | — | 4 | 1 | — | 11 | 20 | 1 | — | — | 2 | — | — | — | — | — | 3 | 34 |
| 1 | 2 | — | 1 | — | 9 | 1 | 2 | 2 | — | 15 | 36 | — | 2 | — | 1 | 5 | 1 | 2 | — | — | 11 | 62 |
| — | 7 | 2 | 2 | — | 8 | — | 2 | 2 | — | 7 | 48 | — | — | — | 1 | 4 | 7 | — | — | — | 12 | 67 |
| 1 | 1 | — | 4 | — | 12 | — | 12 | — | — | 8 | 34 | 1 | — | — | 4 | 2 | 1 | 1 | — | — | 9 | 51 |
| 2 | 10 | 3 | 7 | — | 33 | 2 | 24 | 6 | 2 | 41 | 157 | 2 | 5 | 2 | 8 | 13 | 9 | 3 | — | — | 42 | 240 |
| 7 | 12 | 7 | 13 | 5 | 64 | 4 | 39 | 11 | 4 | 162 | 310 | 11 | 12 | 3 | 23 | 23 | 20 | 7 | 1 | 2 | 102 | 574 |

эсэраўска-меншавіцкай улады як цэнтральнай, так і мясцовай, вельмі хутка адвучыла сялянскія масы спадзявацца на абяцанкі ўлады, дала зразумець ім, што „дабіцца лепшай долі“ павінны яны самі, пад кіраўніцтвам не меншавікоў ды эсэраў, а адзінае да канца рэволюцыйнае бальшавіцкае партыі.

Докумэнтаў і вестак аб рэволюцыйнай пропагандзе бальшавікоў маецца мала. Але гэта ня значыць, што бальшавіцкі ўплыў быў нязначны. Нам усім вядома і яшчэ да гэтага часу практычна памятна, што ў 1917 г. рэдкі салдат, які зварачаўся з фронту ў вёску, не называў сябе бальшавіком. Калі нават такі салдат і ня быў афіцыяльна членам партыі бальшавікоў, дык ва ўсякім разе перадаваў-та ён сялянскай масе погляды сапраўдных бальшавікоў, хоць, можа быць іншы раз і ў скажонай форме, праз прызму сваёй дробна-ўласьніцкай ідэолёгіі. Найвялікшы ўплыў бальшавікоў докумэнты адзначаюць у тых мясцовасьцях, дзе блізка ад вёскі знаходзіліся прамысловыя прадпрыемствы, і рабочыя былі непасрэдна зьвязаны з сялянствам; таксама у прыфрантовай паласе, дзе было сконцэнтравана многа войска, у гэты час абальшавічанага ў вельмі значнай ступені (партыя, як вядома, аддавала вялікую ўвагу пропагандзе ў арміі, ды армія і сама з варожасьці да вайны была вельмі актыўным элемэнтам, хутка успрымаўшым бальшавіцкія погляды); і ў тых мясцовасьцях, дзе было самае вялікае безьзямельле і дзе сяляне былі або сэзоннымі рабочымі, або батракамі ў суседніх буйнейшых магнатаў, як у б. Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах. Паводле докумэнтаў, бальшавіцкая пропаганда праводзілася— у красавіку месяцы ў Случчыне, у маі — у Клімавіцкім, Чэрыкаўскім, Рэчыцкім і Барысаўскім паветах, у чэрвені — Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і Слуцкім, у ліпні — Быхаўскім, жніўні — Слуцкім, верасьні — Слуцкім, Барысаўскім, Менскім і Сеньненскім і ў кастрычніку — Слуцкім і Мазырскім.

Да бальшавіцкай дзейнасьці трэба аднесьці, у значнай ступені, весткі аб сельскіх, валасных і павятовых зямельных камітэтах ды земскіх управах, якія практычна ажыцьцяўлялі бальшавіцкую лінію ў сваёй працы. А такіх фактаў маецца надзвычайна многа. Многія органы ўлады на мясцох адбіралі ад паноў землі, сенажаці і лясы і раздавалі або за маленькую плату ў фонд камітэту або і зусім бясплатна сялянам. Вось некалькі прыкладаў такой працы мясцовай улады.

Забаранілі лесапрамыслоўцам і паном высякаць свае лясы — Клімавіцкі павятовы камітэт у красавіку, Чэрыкаўскі — у маі. У тым-жа напрамку дзейнічалі і валасныя камітэты гэтых паветаў. Брацькавіцкі зямельны камітэт, Чэрыкаўскага павету, адабраў ад пана 27 дзесяцін сенажаці і раздаў сялянам (чэрвэнь), Родненскі — у тым-жа месяцы раздаў сенажаць пана Сваткоўскага. Дубровіцкі камітэт зусім забараніў тром паном распараджацца зямлёй і сенажацямі (ліпень), Далжанскі — падзяліў сенажаці мясцовых кулакоў за маленькую плату ў карысьць апошніх, Клімавіцкі валасны камітэт прагнаў з сенажаці маёнтку Дажджова арандатараў-палавіншчыкаў і раздаў зямлю мясцовым сялянам. У жніўні месяцы асабліва вызначаюцца сваёй рэволюцыйнай дзейнасьцю Брацькавіцкі і Дубровіцкі валасныя камітэты (Чэрыкаўшчына), якія адабралі ад паноў усе сенажаці і частку пахаці. Па Клімавіччыне-ж, паводле данясеньня ў Галоўную Ўправу Міліцыі, усе валасныя камітэты паадбіралі ад паноў санажаці, а Крычаўскі-нават патрабаваў ад паноў звароту раней выплачанай ім сялянамі арэнднай платы.

Сустракаліся і такія выпадкі, калі павятовая ўлада была больш рэволюцыйнай, чым валасныя камітэты гэтых паветаў. Рагачэўская

земская ўправа прапанавала Кісьцянёўскаму валасному камітэту падзяліць сенажаць пана Вельямінава паміж сялянамі. Яна-ж выдала распараджэньне аб прымусовай арэндзе панскай зямлі па ўсяму павету з выплатай арэнднай платы ў дэпозыт земскай управы. З документаў вядома шчырае падтрыманьне Рагачэўскай павятовай управы толькі аднэй валасной управай — Чэчэрскай, якая забараніла мясцоваму пану прадаваць сваё дабро, у прыватнасьці, жывёлу, як дабро не яго, а народнае.

На Быхаўшчыне валасныя зямельныя камітэты перадалі сялянам усе панскія сенажаці за надзвычайна нізкую плату: — 2-3 руб. за дзесяціну. Павятовая ўправа, якая складалася з правых эсэраў, спрабавала супроцьдзейнічаць гэтаму, пакуль ня была зьменена (у пачатку кастрычніка) на новы склад, з бальшавікоў і левых эсэраў. (Для ілюстрацыі тагочасных поглядаў сялянства на палітычныя партыі цікава адзначыць, што пры выбарах першай Быхаўскай павятовай земскай управы былі зьняты з галасаваньня ўсе кандыдатуры меншавікоў за тое, што яны ў сваіх перадвыбарчых програмных прамовах падкрэсьлівалі, што зьяўляецца „толькі рабочай партыяй“. Бальшавікоў на Быхаўшчыне ў той час яшчэ зусім ня было чутна. Такім чынам, усе галасы былі паданы за эсэраў, як за „сялянскую партыю“).

У документах памінаюцца рэволюцыйныя ўчынкі павятовай улады толькі ў памянёных намі паветах. Ва ўсіх астатніх павятовыя ўправы і камітэты характарызуюцца ў данясеньнях Галоўнай Управе як проста бязьдзейныя, а некаторыя нават і як энэргічныя ў змаганьні з рэволюцыяй. З валасных і сельскіх камітэтаў іншых паветаў памянем некаторыя, больш выдатныя сваёй рэволюцыйнай дзейнасьцю і непаслухмянасьцю да дырэктыў часовага ўраду.

У б. Сеньненскім павеце—Сеньненскі, Асавецкі і Чарэйскі камітэты (захоп зямлі і сенажацяў). На Гомельшчыне — Гомельскі (захоп сенажацяў, забарона высечкі лесу), Сталбецкі (закоп пахаці і лесу), Вылеўскі (патрабаваў ад пана дроў для сялян, пагражаючы сялянскай расправай. Між іншым, з усіх валасных камітэтаў Вылеўскі аказаўся самым „скромным“ у сваіх запатрабаваньнях да паноў, дый да гэтага запатрабаваньня ён адважыўся толькі ў канцы верасьня). У Горацкім павеце — Любеніцкі вал. камітэт захапіў зямлю і сенажаці і выгнаў служачых з маёнтку, Маслакоўскі — раздаў сенажаці і зьняў батракоў з працы, Горацкі — апячатаў хлебныя склады паноў-выкладчыкаў Горацкага с/г. вучылішча, Гарадзішчанскі — адабраў зямлю, сенажаці і млын. У Амсьціслаўскім павеце — Амсьціслаўскі камітэт раздаў сялянам сенажаці аднаго кулака, Шамаўскі — раздаў сенажаці і лес і рэквізаваў ураджай у паноў.

Слабей прадстаўлена документамі Віцебшчына. Маюцца весткі аб захопе лесу і сенажаці Лепельскім камітэтам і аб захопе зямлі і лесу і разгоне панскай лясной варты Гарадоцкім камітэтам. Сустракаецца ў документах адзін надзвычайна паказальны факт, адзін з усіх документаў—забарона Жарабчынскім валасным камітэтам мясцовым паном карыстацца наёмнай працай (ліпень 1917 г.). Гэта сапраўды бальшавіцкае запатрабаваньне, якое мае на ўвазе зьнішчэньне панскага землеўладаньня ў яго аснове, бо, зразумела, што пан без наёмнай працы ня можа быць ні панам, ні земляўласьнікам.

З валасных камітэтаў б. Менскай губэрні вызначаюцца:

*На Меншчыне*: Ратамскі вал. к-т, які захапіў у сваё распараджэньне харчовы вайсковы склад (у чэрвені), у той час, калі яшчэ

армія ня была досыць рэволюцыянізавана. Сустракаецца скарга на ўсе валасныя камітэты Меншчыны за бязьдзейнасьць.

*На Случчыне:* Шастакоўскі вал. к-т забараніў высечку лесу паном і перадаў лес сялянам, Грэскі — раздаў землі і машыны з м. Грэск, Старжына і Ліхадзь.

*На Барысаўшчыне:* Тумілавіцкі раздаў сенажаці, дазволіў секчы дровы. Асоўскі—адабраў сенажаці ў касьцёлаў, Барысаўскі—раздаваў сялянам лес.

*На Мазыршчыне:* Міхалкоўскі—падзяліў усю зямлю ў маёнтку Абуховіча паміж мясцовымі сялянамі.

На *Бабруйшчыне:* Слабодзкі валасны камітэт забараніў паном карыстацца сваімі землямі і дазволіў сялянам секчы лес і пасьвіць на панскіх выганах жывёлу; Сьвіслацкі — адабраў у паноў сенажаць.

*У. б. Ігуменскім павеце:* Дудзіцкі камітэт забраў у маёнтку Унзоўскага сенажаць, поле і зьняў панскіх батракоў з працы; Прусэвіцкі камітэт адабраў у м. Дашкевіча лес. У Распуцьці і Цэрабельцы — сенажаць і лес, у Замосьці і Бахаравічах — зямлю.

*У Рэчыцкім павеце:* Мікуліцкі камітэт дазволіў сялянам вырубаць панскія лясы, правёў рэквізіцыю хлеба ў паноў і захапіў у свае рукі судовыя функцыі.

Па соцыяльнаму зьместу гэтых фактаў лёгка пазнаць, чые інтарэсы абаранялі гэтыя органы мясцовае ўлады. Калі ў гэтых мерапрыемствах нават і няма часам спэцыфічна бальшавіцкіх установак, усё-ж трэба памятаць, што ў час панаваньня меншавікоў і эсэраў такія мерапрыемствы маглі ажыцьцяўляцца не бяз уплыву бальшавікоў — простага або ўкоснага. Былі і такія выпадкі, калі самі валасныя зямельныя камітэты не праводзілі ніякіх організацыйных мерапрыемстваў, а толькі падбухторвалі мясцовае сялянства самім захапляць панскую зямлю і распраўляцца з панамі. Так, напр., у м. Случаноўскага, на Гомельшчыне, валасны зямельны камітэт падбухторваў батракоў гэтага маёнтку забіраць панскае дабро, а сам абмежаваўся толькі цьмянымі пагрозамі па адрасу паноў.

Найбольш організавана праводзілася змаганьне з панамі з боку сельска-гаспадарчых рабочых у тых маёнтках, дзе іх было многа. Праўда, такіх буйных, у вядомай ступені індустрыялізаваных, маёнткаў на Беларусі было даволі мала. Нам вядомы два буйнейшых факты рабочых выступленьняў у маёнтках. У маёнтку Наспа, на Рагачэўшчыне, рабочыя захапілі ў сваё распараджэньне ўсё панскае дабро, прычым жывёлу і лес нават пачалі прадаваць. У м. Сьвяцкага, у Сеньненшчыне — рабочыя захапілі два маёнткі, правялі самасуд над двума панамі. „Дзеяньні іх маюць організаваны характар“, пісаў у Галоўную Ўправу губэрскі камісар аб гэтых фактах.

## IV

Вялікім штурхачом ад ранейшых больш „законных“ форм змаганьня да новых, сапраўды рэволюцыйных мэтодаў, зьявіўся Ўсерасійскі сялянскі зьезд. У сваіх політданясеньнях у Гал. Ўправу Міліцыі губ. камісары Меншчыны і Магілеўшчыны даводзяць, што паглыбленьне рэволюцыйнага сялянскага руху на тэрыторыі гэтых губэрань пачалося іменна пасьля зьезду і дзякуючы яму. Дэлегаты гэтага зьезду, як зазначалі губэрскія камісары, пашырылі ў сялянскіх масах думкі адносна

неабходнасьці больш рашучага змаганьня з панскім землеўладаньнем і падбівалі сялянства на самаўпраўныя ўчынкі. Магілеўскі губэрскі камісар так, напр., ацэньвае падзеі пасьля зьезду:

„Дэлегаты Магілеўскай губ., якія зьвярнуліся з Петраграду з Усерасійскага Зьезду Сялянскіх Дэпутатаў, паведамілі камітэтам і насельніцтву дырэктывы зьезду, прынятыя нібы з ведама і па ўказаньнях міністэрства земляробства. Губэрскія і павятовыя замежныя камітэты, разьвіваючы прынятыя зьездам палажэньні, пайшлі і далей, і зараз, кіруемыя імі, валасныя камітэты распараджаюцца сенажацямі прыватных земляўласьнікаў, здаючы лішкі ў арэнду па цэнах у пяць і дзесяць разоў таней леташніх. Земляўласьнікі, якім пакінута мала сенажацяў, зварочваюцца за дапамогай да камісара, дробныя-ж уласьнікі катэгарычна адмаўляюцца падначальвацца валасным камітэтам і зьбіраюцца абараняць зямлю сілай. Паміж сялянамі-абшчыньнікамі ідуць спрэчкі з-за пастаноў камітэтаў. Становішча абвастраецца. Паступаюць данясеньні павятовых камісараў аб пагрозах сялян супраціўных вёсак пусьціць у справу вілкі і нажы. Неабходна аўторытэтнае растлумачэньне ўраду“ (Тэлегр. губ. к-ра 4/VII Сб. „Крестьян. движение“, стар. 185).

Мы наўмысьля прывялі цалкам усю гэтую тэлеграму, як яскравы прыклад шалёнай злосьці гінучага клясавага ворага, апранутага ў эсэраўскую або меншавіцкую партыйную шкуру. Яна добра характарызуе, з аднаго боку, усю глыбіню разгорнутай у той час рэволюцыі па вёсцы, з другога боку—бясьсільныя спробы паноў і падпанкаў захаваць свае становішча, выратавацца надыходзячай пагрознай рэволюцыі скаргамі па „начальству“ ці надзеяй на „аўторытэтнае растлумачэньне“ ўраду. Ад непамернага спалоху перад навальніцай рэволюцыі клясавы вораг асьлеп, перастаў бачыць тое, што цэнтральнай улады прызнанай і аўторытэтнай, хоць-бы і ў нязначнай ступені, ужо ня існуе, што соцыяльныя справы пачынае вырашаць сама працоўная маса і амаль цалкам абальшавічаная мясцовая ўлада — валасная, павятовая і нават губэрская. Кожнаму чытачу адразу кідаецца ў вочы ўся недарэчнасьць гэтай тэлеграмы — скарга на *ўсё* сялянства, на *ўсе* зямельныя камітэты, да губэрскіх уключна, і надзеі толькі на цэнтральны ўрад. Што мог зрабіць гэты ўрад, пакінуты масамі бяз усякага падтрыманьня, супроць усхваляванага рэволюцыяй мора працоўных?

Прынамсі, некаторы формальны грунт для такіх надзей на сілу цэнтральнага ўраду ў буржуазіі і дваранства ды іх лёкаяў — меншавікоў і эсэраў—быў. Гэта быў стары, выпрабаваны вякамі, дэспотычны спосаб расійскага царызму — казакі. Політычныя данясеньні губ. камісараў даволі часта паведамляюць аб пасылцы казакаў для „заспакаеньня сялян і навядзеньня парадкаў на вёсцы“. Але і казакі перасталі дапамагаць, — і іх закрануў палкі подых пролетарскай рэволюцыі. Вось пара прыкладаў аб паводзінах казакаў, засьміраўшых сялянства.

У м. Боркі, Чаплінскай вол., Слуцкага павету рабочыя забаранілі пану Вайніловічу перавесьці сваю жывёлу і інвэнтар у другі маёнтак і патрабавалі павышэньня заработнай платы. „Толькі пры дапамозе разьезду казакаў з афіцэрам“,—даносіць павятовы камісар,—„удалося аднавіць парадак“. Але, нават у гэтым выпадку ёсьць элемэнт перамогі рабочых:—казакі „ня ўжывалі сілы“, а ўгаварвалі рабочых і „перараканалі“ іх толькі тады, калі самі далучыліся да іх запатрабаваньня аб павышэньні зарплаты, якое і перадалі пану.

У іншых мясцох справа з пасылкай казакаў стаяла яшчэ лепш... для працоўнага сялянства. Так, у Слуцкім павеце, з прычыны асабліва

шпаркага разгарненьня сялянскага руху, з прычыны пашырэньня „арганізаваных захопаў панскіх земляў па распараджэньню валасных зямельных і харчовых упраў, а таксама павятовай земскай управы“ (стар. 351), дзе „міліцыя была ў самым плачэўным стане“, былі пасланы казакі для аховы лесу ва ўсе воласьці. Але аб выніках гэтай пасылкі губ. камісар даносіць у той-жа тэлеграме коратка, але з вычэрпваючай яснасьцю:

„У Грэскай воласьці, таго-ж павету, камандыраваныя для навядзеньня парадку казакі ўцяклі з прычыны пагрозы сялянства пабіць іх каменьнямі“ (там-жа).

Ясна, што казакі ўцяклі не ад сялянскіх пагрозаў і не ад іх каменьня. Зусім не патрэбна быць спэцыялістам-гісторыкам, каб сьцьвярджаць гэта. Кожны вучань пачатковай школы правільна адкажа, што 50 чалавек з вінтоўкамі больш небясьпечны, чым 500 чалавек з каменьнямі. Казакі перасталі змагацца з сялянскім рухам (як і з рабочым рухам у гарадох у гэты час—у верасьні месяцы) таму, што і яны былі захоплены рэволюцыяй, і сярод іх праўдзівае бальшавіцкае слова знайшло сабе ўдзячны водгук. Вось чаму недарэчнымі і бязглуздымі здаюцца нам зараз гэтыя дзікія стогны губэрскіх камісараў да часовага ўраду аб дапамозе.

Чаму-ж, аднак, дэпутаты Сялянскага зьезду загаварылі пасьля прыезду з Петраграду бальшавіцкай мовай? Гэты-ж зьезд, як нам вядома, праходзіў пад значным ідэолёгічным уплывам эсэраў, якія не маглі абальшавічыць сваіх дэпутатаў. У значнай ступені гэта было з тае прычыны, што ў Петраградзе ў той час (май месяц) дэпутатысяляне амаль што першы раз пачулі аб бальшавікох і паслухалі саміх бальшавікоў. Нам вядома, які вялізарны посьпех мела выступленьне Леніна, якога раней лічылі, паводле меншавіцка-эсэраўскай брахні, „нямецкім шпіёнам“, і ў якім дэпутаты працоўнага сялянства прызналі свайго правадыра. У Петраградзе сялянскія дэпутаты даведаліся і аб мэтах і спосабах пролетарскага змаганьня і ўразумелі, у большай ці меншай ступені, неабходнасьць сумеснага змаганьня за пролетарскую рэволюцыю пад кіраўніцтвам ленінскай партыі бальшавікоў.

Да мая месяца бальшавікоў-салдат зварочвалася ў вёску даволі мала, і, такім чынам, ня зьезд падштурхнуў іх да рэволюцыйных мэтодаў змаганьня, а пролетарскі Ленінград з яго бальшавіцкім штабам. Зразумела, што ў пролетарскіх мэтодах змаганьня і ў бальшавіцкай лініі сяляне знайшлі адбітак сваіх уласных інтарэсаў і рэволюцыйных імкненьняў, дзякуючы чаму і бальшавіцкія ўрокі засвоілі вельмі хутка і шчыра.

Узор рэволюцыйнага змаганьня з панамі нярэдка паказвалі сялянству і салдаты. Так, напрыклад, 3 батальён 515 палка разграміў у чэрвені 3 буйных маёнткі: Плоскіна, Гудок і Сушыцы на Меншчыне. Атрад салдат зруйнаваў маёнтак Суткова ў Рэчыцкім павеце. Сяляне супольна з салдатамі зруйнавалі м. Вязчына на Меншчыне і захапілі ўвесь панскі ўраджай. Разам з салдатамі нападалі салдаты на маёнткі ў Барысаўшчыне, а ў адным выпадку мы маем факт разгрому маёнтку Сямкова (Меншчына) салдатамі і... казакамі, якія былі закліка125 ратаваць гэтых-жа паноў ад рэволюцыйных працоўных мас. Повадам да разгрому было падазрэньне ў тым, што пан хавае кулямёты і зброю. Ні кулямётаў ні зброі не знайшлі; можна дапусьціць, што іх у пана і ня было. Але салдатам і казакам цяжка толькі аказалася пачаць, а закончана было руйнаваньне маёнтку „на славу“.

## V

Найвялікшы па колькасьці матар'ял маецца аб выпадках сялянскага „самаўпраўства“, калі рэволюцыя ішла зьнізу, і паном і камісарам нельга было зваліць віны на мясцовую нізавую ўладу. Характэрнай рысай гэтых фактаў зьяўляецца сваеасаблівы натуралістычны, як можна было-б назваць, падыход сялянства да здавальненьня „явачным парадкам“ сваіх запатрабаваньняў і інтарэсаў. Вясной і ўвосень, калі сьцюдзёна ў хаце, сякуць панскі лес, улетку—захапляюць панскія сенажаці і ўраджай, або абарачваюць панскае поле і сенажаць у выган для жывёлы, у канцы лета захапляюць пахаць і засяваюць азіміну і г. д. У ліку гэтых самаўпраўстваў часта сустракаюцца выпадкі зьняцьця з працы і разгону панскіх парабкаў—адзіны пункт, які не зьяўляецца непасрэдна натуралістычным, хоць і блізкім, аднак, да гэтага. На наш погляд зьняцьце парабкоў з працы вытлумачваецца вельмі проста: парабкі самі далучыліся да мясцовага сялянства ў іх змаганьні з панамі, і докумэнты непраўдзіва характарызуюць гэтыя факты, парабкаў ня зьнімалі, а яны самі „зьнімаліся“ руйнаваць маёнткі. Наўрад ці маглі быць, хоць-бы і вельмі рэдкія, выпадкі, калі парабкі абаранялі паноў ад сялянскага гневу і каб іх разагналі, як панскіх паслугачоў. Можна дапусьціць толькі, што была пасыўная частка парабкоў, якая не адстойвала паноў і ня выступала супроць іх разам з працоўным сялянствам.

Дадзім слова фактам (найбольш узорным).

*Красавік.* Сяляне в. Замашэньні і інш. (Сеньненшчына) у м. Дэкан прагналі рабочых, захапілі зямлю, сякуць лес, пагражаюць пану расправай.

*Май.* На Чэрыкаўшчыне ў м. Масальскага—„Тыманава“, „Муравіл“ і інш. сяляне перашкаджалі веснавой сяўбе, травілі сенажаці, забаранялі вырубку лесу, зрабілі вобыск і адабралі паляўнічую стрэльбу і папсаваны рэвольвэр. У адказ на скаргу Масалькага чэрыкаўскі павятовы камісар (якога рад докумэнтаў абвінавачвае ў бальшавізьме) арыштаваў яго.

Натоўпам сялянства м. Салтанаўкі (Гомельшчына) арыштаваны мясцовы валасны судзьдзя і адвезены невядома куды.

У м. Курманава (Амсьціслаўшчына) сяляне пасьвілі жывёлу на панскім выгане, а група дэзэртыраў абадрала ў лесе ліпавыя дрэвы на лыкі.

*Сяленев. Вярба* Дрыбінскай воласьці (Чавускага пав.) вырубілі будаўнічы лес. За май месяц вызначаліся масавымі самаўпраўствамі Быхаўская воласьць, Савіцкая (Рэчыцкі пав.) і Грабоўшчынская (Случчына).

*Чэрвень* месяц характарызуецца захопам і патравай сенажацяў, рубкай будаўнічага лесу і забаронай вырубкі лесу і ўборкі сенажацяў панам. Такія факты адзначаны ў маёнтку Яцынскага, Доўскай воласьці (Рагачэўшчына), м. Пістроўскай (Бабруйшчына) вв. Нясеты, Яноў, Шацілкі (там-жа), вв. Ералі, Касьцяны (Чэрвеншчына) і Чэрыкаўскі і Клімавіцкі паветы цалкам.

В. Паньковіч (Сеньнешчына) захапіла ўсю панскую зямлю, лес і сенажаці.

В. Пенчын (Гомельшчына) зьняла парабкоў у м. Уваравічах.

В. Усьвяты (Горацкі павет) захапіла сенажаць, праданую панам другому ўласьніку.

У Магілеўскім раёне адзначаны масавыя парубкі лесу, а таксама выступленьні супроць мясцовай улады і імкненьне замяніць яе новаабранай уладай.

Скасілі панскія кармовыя травы—вв. Залатва (Быхаўшчына), Хотнае (Рэчыца), перашкаджалі ўборцы ў Слуцкім павеце, разагналі парабкоў вв. Кісялі і Гусакі ў м. Новадворным (Случчына), Людзеневічы (Мазыршчына).

*Ліпень.* У м. Кісялёўка (Чэрыкаўшчына) і Касьцюковічы (Клімавіччына) захоплены сенажаці, вырубаецца лес. Захват часткі сенажацяў меў месца ў Чарпіскай валасьці (Віцебшчына), Абідавічах і Новым Быхаве (Быхаўшчына). Гаспадарчая каманда салдат у 200 чал. высякала лясы для сялян у м. Трылесін (Быхаўшчына).

Цікава адзначыць, што за ліпень месяц, які налічвае фактаў сялянскага руху амаль удвая больш чым чэрвень, больш фактаў самаўпраўства няма. Астатнія выпадкі сялянскага руху разглядаюцца не як самапраўства, а як незаконнае перавышэньне ўлады валаснымі камітэтамі, якія сваімі пастановамі легалізавалі сялянскі рух і арганізавалі яго.

*Жнівень,* апрача захопу сенажацяў адзначаецца захопам ураджаю. У Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах гэта было агульным зьявішчам, у іншых паветах адзначаліся з гэтага боку толькі асобныя вёскі. Найбольш выдатныя факты: вв. Баркалабаў, Бароўка, Ліпаўка, Гразівец, Сядзіч (Быхаўшчына) захапілі сенажаці, seклі будаўнічы лес. Захоп сенажаці, часткі пахаці і парубкі адзначаны ў Гарадоцкай валасьці (Віцебшчына). У м. Астроўшчыне (Лепельшчына) і м. Альшанка (Полаччына) вырубалі будаўнічы лес з аплатай па 2-3 руб. куб. саж. у фонд вясковых камітэтаў. Сяляне в. Залесьсе (Полаччына) разганялі парабкоў з м. Бернард 11 жніўня, а 21 жніўня падпалілі самы маёнтак.

*У верасьні* месяцы фактамі самаўпраўства докумэнты называюць толькі захоп ураджаю і сена сялянамі в. Усушак (Быхаўшчына), Антонаўка і Ўваравічы (Гомельшчына), разгром м. Дэканы (Сеньненшчына) і забойства міліцыянэраў у асобных вёсках Клімавіцкага павету. За ўсе астатнія падзеі гэтага месяца абвінавачваюцца ўжо не сяляне, а выключна мясцовая ўлада.

Урэшце, у *кастрычніку* захоп сенажацяў і парубкі лесу адзначаны ў м. Шчыбрын (Рагачэўшчына), Сядзіч, Мокрае (Быхаўшчына), Родны (Клімавіцк.), Целяткова (Чэрвеншчына). Губ. камісары Менскай і Віцебскай губ. абмежаваліся тым, што пералічылі толькі паветы сваіх губэрань, у якіх адбываліся факты самаўпраўства. У якасьці такіх паветаў пералічаны ўсе паветы губэрань. Яшчэ дакладней было-б пералічыць усе вёскі Беларусі, бо ў гэты час ці былі такія адсталыя, глухія вёскі, якія яшчэ не ўцягнуліся ў справу агульнага клясавага змаганьня на вёсцы.

Надыходзіў вялікі Кастрычнік.

## VI

Надзвычайна паказальна для ўразуменьня сутнасьці сялянскага руху правесьці аналёгію паміж 1905 і 1917 гг. Мы ўбачым, што ў цэлым радзе раёнаў Беларусі рух паўтараецца ва ўсіх сваіх асаблівасьцях. Так, Клімавіцкі і Чэрыкаўскі паветы, як паветы буйнога землеўладаньня, ахоплены былі рухам найбольш шырока, амаль на ўсе 100 проц. як у 1905 г., так і ў 1917 г. На Віцебшчыне вядучым элемэнтам зьяві-

ліся ў 1905 і ў 1917 г. лясныя рабочыя ў панскіх маёнтках. З прычыны асабліваe выгоднасьці распрацоўкі і сплаву лесу па р. Заходняй Дзьвіне і яе прытоках лясны промысел на Віцебшчыне быў надта пашыраны. Цэлымі вёскамі сяляне з даўных часоў працавалі зімой у лесе, а вясной сплаўлялі нарыхтаваны лес да Рыгі. Сялянскі рух 1917 г. пачаўся на Віцебшчыне якраз з усеагульнай забастоўкі сплаўшчыкаў у красавіку, у самы гарачы сэзон сплаву, што „пагражала разарэньнем шмат якім лесапрамыслоўцам“, як данасілі афіцыяльныя органы. Раней, чым дзе-небудзь, на Віцебшчыне пачынаюцца разгромы маёнткаў. Гэтыя-ж лесарубы, якія, дзякуючы сэзоннасьці свайго промыслу, павінны былі займацца і сельскай гаспадаркай, а, ня маючы сваёй зямлі, арандавалі з палавіны панскую зямлю, адмовіліся ад выплаты арэнды, або ад працы ў маёнтку і пачалі захапляць зямлю па прамысловай арэндзе з выплатай вельмі нізкай аплаты ў дэпозыт валасных зямельных камітэтаў. Асабліва пашыраны былі такія эксцэсы у сплаўных раёнах як Лепельскім, Чашніцкім, Невельскім і інш. Ужо ў чэрвені месяцы быў разгромлены м. Сіманава ген. Шальцэра палавіншчыкамі, якія павінны былі перш убраць панскія сенажаці і палі, а потым ужо брацца за ўборку свайго.

У 1905 і ў 1917 г. быў шырока арганізаваны рабочы і сялянскі рух на Мазыршчыне. У 1905 г. там пад бальшавіцкім кіраўніцтвам была заснавана „Мазырская народная рэспубліка“, якая даволі доўгі час існавала, і нават пасьля яе разгрому царская ўлада нейкі час не адважвалася пакараць дзеячоў гэтай рэспублікі, баючыся масавага паўстаньня. У 1917 г. таксама раней чым дзе-колечы ўся Мазыршчына аб‘ядналася пад бальшавіцкім кіраўніцтвам. У пачатку кастрычніка „бальшавіцкія рэзолюцыі прыняты на шматлюдным сялянскім зьезьдзе“—даносіць губ. камісар і дадае: „Для спагнаньня самапраўства выклікана ўзброеная сіла“ (Кр. х. стар. 351). Але ўзброеная сіла не дапамагла. Па-першае, не знайшлося такой сілы, якая-б згадзілася выступіць супроць працоўных мас; па-другое, у хуткім часе адбылася пераможная Кастрычнікаўская рэволюцыя.

Усе вёскі Быхаўшчыны і Рагачэўшчыны, як Баркалабаў, Сядзіч, Абідавічы, Новы Быхаў, Тошчыца, Кісьцяні, Шчыбрын і г. д., якія вельмі энэргічна выступалі ў 1905 г., былі ўзорам для іншых вёсак і ў 1917 г. Сялянскі рух 1917 г. не зьяўляецца штучна ўнесеным на Беларусь вялікарускімі войскамі, як гэта даводзілі ў сваіх контррэволюцыйных мэтах нацдэмы і іх падпявалы нацопортуністы, а ёсьць арганічны вынік ранейшай ступені руху, яго непасрэдны працяг, вышэйшая ступень у параўнаньні з 1905 годам. Тая акалічнасьць, што ў 1905 г. быў даволі слабы параўнаўча сялянскі рух у некаторых паветах, як Слуцкі і Рэчыцкі, а ў 1917 г. ён надзвычайна паглыбіўся, не абвяргае, а толькі пацьвярджае палажэньне, што 1917 г. ёсьць вышэйшы этап змаганьня 1905 г., г. зн. перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю пролетарскую.

Зусім новым для сялянскага руху 1917 г. у параўнаньні з 1905 г. зьяўляецца змаганьне сялянства з духавенствам, інтэрнацыяналізм сялянскага руху і зрыў легальных выбараў у розныя ўстановы. Захоп земляў духавенства, недапушчэньне яго да карыстаньня царкоўнымі землямі было асабліва пашырана ў б. Менскім, Слуцкім, Барысаўскім і Ігуменскмі паветах. Ёсьць факты разгрому маёнткаў „яўрэямі разам з натоўпам сялян“, як адзначаюць данясеньні (Кр. движ., стар. 352), прычым відавочна гэтымі яўрэямі былі мясцовыя яўрэі-сяляне, або рабочыя. Прыкладам такога інтэрнацыянальнага аб‘яднаньня для су-

меснага змаганьня з панамі можа быць м. Мілашэвічы, Мазырскага павету. Урэшце, трэба адзначыць недавер'е сялянскіх мас да выбараў земстваў. У той час калі ў 1905 г. сяляне сустрэлі „царскую ласку"—дазвол выбараў у Дзяржаўную Думу—параўнаўча прыхільна, хоць-бы настолькі, каб ня зрываць выбараў, у 1917 г. зрываў выбараў было надта многа. У часе выбараў земскіх упраў у многіх мясцох зьнішчаліся выбарныя скрынкі для сьпісаў і зьбіваліся сябры выбарчых камісій. Так, напрыклад, з 15 валасьцей б. Менскага павету ў 5 валасьцях выбары сарваны поўнасьцю, у 5 — сарваны часткова, у асобных вёсках, і толькі ў 5 валасьцях выбары адбыліся. Сарваны выбары ў Рэчыцкім павеце поўнасьцю. Павятовы камісар даносіў коратка: „Выбары не адбыліся, дзякуючы агітацыі" (там-жа, стар. 305). У Піншчыне выбары праходзілі „незаконна" — адчыненым галасаваньнем. У Мазыршчыне зрыву выбараў зусім ня было, затое вынікі выбараў аказаліся далёка не пад смак буржуазіі ці паном — выбраны былі ў абсолютнай большасьці бальшавікі.

Так са ступенькі на ступеньку ўзьнімаўся сялянскі рэволюцыйны рух, пакуль працоўнае сялянства, напярэдадні самога Кастрычніка, не даверылася цалкам і безагаворачна бальшавіцкаму пролетарскаму кіраўніцтву. І зараз расійскае ў большасьці сваёй колгаснае сялянства падае прыклад сялянству ўсяго сьвету, што можна выйсьці з-пад капіталістычнай няволі толькі пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго авангарду—комуністычнай партыі.

Чаму-ж працоўнае сялянства пайшло за бальшавікамі напярэдадні Кастрычніка, як ідзе яно пад кіраўніцтвам УсеКП(б) і зараз? Ленін у пачатку Кастрычніка так характарызаваў прычыны гэтага канчатковага павароту сялянства:

„У Расіі, дзякуючы хлусьні эсэраў і меншавікоў, застаўся і застаецца пры рэспубліцы ў часе рэволюцыі побач з саветамі ўрад капіталістаў і памешчыкаў... Што-ж дзіўнага ў тым, калі ў Расіі пры нячуваных пакутах, якія прыносіць народу зацягваньне імпэрыялістычнай вайны з яе вынікамі, пачалося і разрастаецца сялянскае паўстаньне?..

Эсэры прымушаны прызнаць, што праз 6 месяцаў рэволюцыі ў сялянскай краіне „амаль нічога ня зроблена для зьнішчэньня кабалы сялян, закабаленьня іх панамі". Ніводнага дня, ніводнае лішняе гадзіны не пацерпяць салдаты нашай сялянскай арміі, каб заставаўся, наўпрэкі волі саветаў, урад Керанскага, які вайсковымі мерамі падаўляе сялянскае паўстаньне...

„Цярпець падаўленьне сялянскага паўстаньня ўрадам, значыць губіць усю рэволюцыю, губіць яе назаўсёды і беспаваротна (т. XIV, ч. 2, стар. 150).

У. Ленін на чале партыі павёў працоўныя масы рабочых і сялян Расіі ў апошні рашаючы бой з цьвярдынямі капіталізму. Поўнасьцю разачараванае эсэраўскай хлусьнёй і рэволюцыянізаванае турмамі ды расстрэламі і ўсёй палітыкай эсэраўска-меншавіцкага ўраду сялянства, у першую чаргу пролетарскі і паўпролетарскі элемэнт, сьмела і адважна ўступіла ў пераможны бой.

С. Баркоўскі

# Кастрычнік у гістарычнай навуцы БССР

Яшчэ Маркс і Энгельс у сваім „Коммунистическом Манифесте“ (1848 г.) сказалі, што ўсякая гісторыя ёсьць гісторыя барацьбы клясаў. Перад гісторыкам-марксыстам, які стаіць на клясавым пункце погляду, які абслугоўвае інтарэсы свае клясы, павінна быць адна мэта—тэорэтычнага асьвятленьня сутнасьці дыктатуры пролетарыяту і вызначэньне грунту і ўмоў перамогі пролетарскай рэволюцыі.

І што гістарычная навука мела на сабе пячатку свайго клясавага паходжаньня, мы можам пераканацца па тых фактах, задачах і імкненьнях, якія ставілі сабе: расійская гісторыяграфія пры вывучэньні „искони русского края“, які яна разглядала, як тэрыторыяльны працяг тэй-жа Расійскай імпэрыі, альбо хоць-бы на прыкладах вывучэньня „гісторыі“ контррэволюцыйнымі беларускімі нацыянал-дэмократамі.

У пытаньнях-жа Кастрычнікавай рэволюцыі нацдэмократы ў сваіх „працах“ аб Беларусі рабілі вывад такога зьместу, што па іх поглядах сялянства зьяўляецца асноўным рухачом гістарычнага процэсу, і што, такім чынам, Кастрычнікавую рэволюцыю зрабілі сяляне, апранутыя ў шынэлі. Імі цалкам адмаўляецца вядучая роля пролетарыяту ў рэволюцыях наогул. Такую ўстаноўку дае Доўнар-Запольскі ў адной сваёй працы па гісторыі Беларусі (да-рэчы ненадрукаванай). У гэтай працы па яго выходзіць, што ў Кастрычнікавую рэволюцыю „настоящим революционером и настоящим победителем явился трудовой элемент деревни“. Для нас зразумела, ясна, хто хаваецца ў аўтара пад маскай „трудового“, досыць яе скінуць, як акажацца ўсім добра знаёмы твар вясковага кулака. А раз атрымоўваецца па „гісторыку“ Доўнар-Запольскаму, што асноўнай сілай рэволюцыі быў кулак, то панаваць і кіраваць таксама павінен ён, а не рабочая кляса ў саюзе з бяднейшым сялянствам, не дыктатура пролетарыяту. Такі лёгічны вывад павінен зрабіць кожны чытач. Вось політычны сэнс завуаляваных думак аўтара. Гэта адзін з асноўных лейтмотываў нацдэмаўскіх гісторыкаў, яны яго прытрымліваліся ня толькі ў сваіх тэорэтычных працах, але праводзілі і ў сваёй практычнай штодзённай працы. Усюды, дзе-б ні даводзілася ім быць—у В. Н. У., у савецкай

установе і г. д., яны ўсюды даводзілі і абгрунтоўвалі абавязкова няминучасьць рэстаўрацыі капіталізму на Беларусі.

Нацдэмы імкнуцца „вывучаць“ гісторыю Беларусі адгарадзіўшы яе кітайскім мурам ад Расіі, яны стараюцца заўжды не гаварыць аб тым агульным, што зьвязвала абедзьве гэтыя краіны. Асноўныя мэтодолёгічныя палажэньні ў іх былі: адсталасьць рабочае клясы на Беларусі, і цікава, што абгрунтоўвалі яны гэты тэзіс аб адсталасьці рабочае клясы не параўноўваючы прамысловасьці Беларусі з прамысловасьцю Расіі ўвогуле, а імкнучыся рабіць параўнаньні толькі з буйнымі прамысловымі цэнтрамі. Праводзілі думку аб слабасьці клясавых супярэчнасьцяў у Беларусі, аб адсутнасьці кулацтва на вёсцы, аб большай рэволюцыйнай ролі беларускага сялянства ў параўнаньні з рабочым, аб нацыянальнай самабытнасьці беларусоў, наогул буржуазныя ідэі адзінства беларускае нацыі.

Гэтыя ідэі беларускія нацдэмы праводзілі амаль ва ўсіх галінах нашага культурнага жыцьця. Дзякуючы малому ліку макрсыцкіх сіл на ідэолёгічным фронце ўвогуле, у галіне гістарычных навук у прыватнасьці, яны праводзілі ўсё тое, што ім было патрэбна, чаго яны не маглі правесьці „ўдарам у лоб“ у гады актыўнага выступленьня супроць компартыі і савецкай улады. Тут ім значна дапамагло яшчэ і тое, што амаль галоўныя высоты культурнага будаўніцтва былі ў іх руках. Варта толькі зьвярнуцца да іх „гістарычных“ прац, каб пераканацца ў гэтым. Асноўная ўвага аддаецца сялянству, яно ў нацдэмаў, як мы бачылі, зьяўляецца асноўнаю рухаючаю сілаю гісторыі. „Клясавы склад сялянства вельмі нявыразны... сяляне Віцебшчыны самастойна вымушаны былі ісьці рэволюцыйным шляхам“ (Мялешка, „Полымя“, 1925 г. № 7, стар. 110). „Беларусь—піша Ігнатоўскі,—амаль ня ведае тыпу расійскага кулака, міраеда, які як павук аплятаў усю вёску даўгавымі абавязацельствамі“ („Гісторыя Беларусі“, стар. 233). Такім чынам, Беларусь, па думцы нацдэмаў, была зусім асобнай краінай, тут галоўная рэволюцыйная роля належала сялянству, апошняе ў сваёй масе як кляса было аднародна. У свае такія ўстаноўкі яны ўкладалі пэўны палітычны сэнс, ён зводзіўся к таму, што нацдэмы не хацелі бачыць Беларусь савецкай краінай, якая ў саюзе з іншымі рэспублікамі будуе соцыялізм, яны хацелі абярнуць Беларусь у калёнію польскага і заходня-эўропейскага фашызму. Іх асноўнай стаўкай было змаганьне з дыктатурай пролетарыяту, зрыў соцыялістычнага будаўніцтва.

Цікава, што для апраўданьня сваіх рэстаўратарскіх імкненьняў нацдэмы зварачаліся да гістарычнага мінулага, і ў сівой старасьветчыне знаходзілі неабходныя ім факты для пацьвярджэньня сваіх антыпролетарскіх поглядаў, шкодніцкіх дзеяньняў. У „адраджэньні“ фэўдальна-прыгоньніцкага пэрыоду гісторыі Беларусі яны бачылі ідэал пабудовы дзяржаўнасьці. І гэтаму ідэалу яны служылі да апошняга часу. „Край наш,—пісаў Мялешка ў 1923 г.,—дзякуючы ўціску разьвіцьця беларускай культуры, захоўваў у сваёй гушчы шмат тэй старадаўніны, якая ўжо зьнікла па другіх краёх і зьяўляецца для гісторыка мінулага каштоўным здабыткам... *як выканаць працу, каб скуткі яе далі поўны абраз самабытнай культуры з пахаджэньнем аж да нашых часоў—вось пытаньне, якос часта паўстае перад беларускай этнографіяй*“ (падкрэсьлена намі—С. Б.) [1]).

[1]) „Савецкая Беларусь“. Газэта. 1923 г. № 99.

Вось мэты, якія вызначаліся нацдэмаўскімі „гісторыкамі". Яны стараліся напісаць такую працу, дзе-б была выяўлена самабытнасьць Беларусі. Тут не хапіла мусіць у аўтара адвагі адразу сказаць, якая яму „культура" патрэбна, гэта „культура" жандармскага бота, плёткі і турмаў для рабочых і сялянскай масы.

Ад разважаньняў аб „адраджэньні", аб „самабытнасьці" Беларусі нацдэмы пераходзілі да конкрэтных програм, што і як трэба рабіць, каб „праца" дала пэўныя вынікі, патрэбныя для іх. Асабліва шмат яны „папрацавалі" пры складаньні розных програм, што выдаваліся для кіраўніцтва краязнаўчых організацый. У іх (програмах) яны давалі ўстаноўкі вывучаць старую мінуўшчыну, г. зн. як жылі памешчыкі, царкоўную справу і г. д., калі-ж гаварылася аб вывучэньні рэволюцыйных падзей, то зразумела тут раілася вывучаць розныя антысавецкія партыі, беларускія нацыянальныя організацыі і інш.

Прывядом адзін конкрэтны прыклад, як нацдэмы скарыстоўвалі ўсякую магчымасьць для правядзеньня сваіх шкодных уплываў. Адчыніўшуюся Ўсерасійскую сельска-гаспадарчую выстаўку ў Маскве 1923 г. яны скарысталі як трыбуну для пропаганды сваіх нацдэмаўскіх лёзунгаў. Той-жа *Мялешка*, пры папусьціцельстве з боку нацопортуністычнага кіраўніцтва Наркамасьветы, які кіраваў адборам і пасылкай розных рэчаў на гэтую выстаўку, пісаў у арт. „Быт беларуса на сельска-гаспадарчай выстаўцы", што „шчыра і падрабязгова сабраныя такім чынам рэчы (па нацдэмаўскай програме—С. Б) пакажуць на выстаўцы беларуса з яго асаблівай нацыянальнай культурай... гэта першы раз, калі беларус паказвае свае скарбы, сваё працоўнае жыцьцё перад цэлым сьветам... гэта першая наша дэмонстрацыя павінна яскрава паказаць... нашу цяжкую спадчыну, нашы асабістыя культурныя маемасьці, нашы шляхі і прагненьні да лепшай будучыны... на выстаўцы трэба паказаць, хто такі беларускі селянін і што ён мае асабістага ў культурным разьвіцьці" [1]).

Для нацдэма ня можа быць правільным шлях, вызначаны комуністычнай партыяй пабудовы соцыялізму, які праводзіцца рабочай клясай Саюзу разам з бяднейшым сялянствам. Ён імкнецца паказаць якісьці свой „шлях і прагненьні да лепшай будучыні". Для нас зразумелы гэты „шлях". Гэта „шлях" рэстаўрацыі капіталізму, звароту памешчыкаў і фабрыкантаў, „шлях" аддачы працоўных на эксплёатацыю замежных і ўласных капіталістаў. Гэта „шлях" крывавай інтэрвэнцыі і расправы над рабочымі і сялянамі. Вось аб якіх „прагненьнях да лепшай будучыні" марылі беларускія нацдэмы.

У чым клясавая сутнасьць адраджанізму? Імкненьне змазаць соцыялістычны зьмест нашае культуры, перавесьці яе на свае дробнабуржуазныя рэйкі, зьмяніць яе зьмест у пажаданым для нацдэмаў кірунку. Разьвіцьцё Беларусі ўяўляецца, як адраджэньне былой літоўскабеларускай дзяржаўнасьці.

Такім чынам, паказаўшы тыя агульныя ўстаноўкі, што даваліся нацдэмамі, з якіх выходзілі яны пры вывучэньні гісторыі, для нас стане зразумелым, як яны падыходзілі да вывучэньня рэволюцыйных падзей, фактаў з Кастрычнікавай рэволюцыі і г. д. Гэта было скарыстана імі для сваіх палітычных мэт, для свае шкодніцкае дзейнасьці супроць комуністычнай партыі, супроць дыктатуры пролетарыяту. Таму мы асабліва крытычна павінны адносіцца да іх „гістарычных твораў".

[1]) „Савецкая Беларусь". Газэта. 1923 г. № 145

* * *

Кастрычнікавая рэволюцыя на Беларусі праходзіла ва ўмовах імпэрыялістычнай вайны і фронту. На раскінутым на некалькі сот кілёмэтраў фронце было шмат войска. Заходні фронт меў аграмаднае значэньне ў гісторыі барацьбы рабочых і сялян за Кастрычнік. На працягу ўсяго 1917 году Заходні фронт быў ахоплены полымем рэволюцыі, армія развальвалася. Баяздольнасьць расійскай арміі з кожным днём падала, салдаты пакідалі акопы замест таго, каб па загаду Керанскага ісьці бараніць „родину и революцию". У цэнтральных прамысловых гарадох Расіі падрыхтоўка да паўстаньня бальшавіцкай партыяй ставілася на павестку дня. Напярэдадні Кастрычнікавай рэволюцыі Ленін ставіць пытаньне: „Чаму іменна ўладу павінны ўзяць бальшавікі?"

„Дзеля таго — пісаў Ленін — што крызіс пасьпеў — часовае правіцельства абанкруцілася, сялянства нездаволена, войска чакае замірэньня, дробная буржуазія ўсё больш і больш адыходзіць ад эсэраў і меншавікоў".

Програму Кастрычнікавай рэволюцыі, яе задачы і мэтоды барацьбы былі выкладзены Ленінам у вядомых красавікоўскіх тэзісах.

„Асаблівасьць сучаснага моманту, — пісаў ён, — у *пераходзе* ад першага этапу рэволюцыі, які даў уладу буржуазіі, дзякуючы ня зусім добрай сьвядомасьці пролетарыяту, — *да другога* яе этапу, які павінен даць уладу ў рукі пролетарыяту і бяднейшага сялянства".

Адсюль ідзе цэлы шэраг вывадаў: „Ніякага падтрыманьня Часоваму ўраду. Завяржэньне капіталізму, як адзіны шлях да сапраўднадэмократычнай згоды. Уся ўлада саветам, як адзіна-магчымай форме рэволюцыйнай улады. Конфіскацыя ўсіх памешчыцкіх земляў. Безадкладнае аб'яднаньне ўсіх банкаў краю ў агульна-нацыянальны банк, пад контролем Саветаў" [1]).

Падзеі з кожным днём пашыраліся. Лік прыхільнікаў да лёзунгаў бальшавізму павялічваўся. Узьнікшая яшчэ ў часе Лютаўскай рэволюцыі на Заходнім фронце бальшавіцкая фронтавая організацыя на чале з тт. В. Кнорыным, А. Мясьніковым, Фрунзэ і інш., пачала хутка расьці і павялічвацца. У яе рады ідуць рэволюцыйныя рабочыя і сяляне Беларусі.

На Заходнім фронце ў красавіку 1917 г. быў організаваны ў Менску Савет Рабочых Дэпутатаў па тыпу Петраградзкага Савету. Яго асноўным патрабаваньнем становіцца — „Уся ўлада саветам".

„Мы павінны сказаць ясна і адкрыта, — заявіў яшчэ 4 лістапада (22 кастрычніка) на ўрачыстым паседжаньні Менскага Савету т. А. Мясьнікоў, — калі Часовы ўрад не перадасьць улады Саветам, мы павінны будзем паўстаць і ўзяць яе" [2]).

Па атрыманьні вестак 25 кастрычніка, што ў Петраградзе скінуты ўрад Керанскага, Менскі Савет, далучыўшыся да пачатага перавароту, зараз-жа абвясьціў пераход улады ў Менску да Савету Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў. У горадзе быў расклеены яго прыказ №1 наступнага зьместу:

„У Менску ўлада перайшла ў рукі Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, які зьвярнуўся да ўсіх рэволюцыйных організацыі і політычных партый з прапановай безадкладна прыступіць да організацыі

---

[1]) В. И. Ленин. Сочинения т. XX, 3 изд., стр. 88-89.
[2]) В. Кнорин. 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте. Минск. 1925 г., стар. 39.

часовай рэволюцыйнай улады на мясцох. Аб'яўляючы аб здарыўшымся, Менскі Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў даводзіць да ведама ўсіх грамадзян, што ім прыняты самыя рашучыя меры да аховы рэволюцыйнага парадку і ўстанаўленьня жалезнай дысцыпліны ўсюды. Устаноўлена рэволюцыйная цэнзура над усімі, што выдаюцца ў Менску і атрымліваюцца тут, газэтамі для папярэджваньня распаўсюджаньня хвалюючых насельніцтва чутак" [1]).

Поруч з абвяшчэньнем улады, Савет рашуча падрыхтоўваў узброеную сілу, на якую ён мог-бы абаперціся. Першай такой узброенай сілай былі палітычныя зьняволеныя салдаты, што сядзелі ў менскім вастрозе.

З стварэньнем (27 кастрычніка) Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэту Заходняй вобласьці і фронту пад старшынствам Мясьнікова, да яго (камітэту) перайшла ўся фактычна ўлада на Беларусі.

Але не маўчалі ў тыя часы і контррэволюцыянэры. Адны з іх ніяк не маглі пагадзіцца з бальшавіцкімі лёзунгамі аб нацыянальным вызваленьні, жадаючы захаваць нашу краіну ў складзе Расіі „единой и неделимой". Другія — беларускія нацыяналісты, вышаўшыя з дробнабуржуазнага асяродзьдзя, злучыўшыся з беларускімі памешчыкмі, ксяндзамі ды інш., абвясьцілі барацьбу савецкай уладзе і бальшавіком, дамагаючыся „незалежнай (чытай—буржуазнай) Беларусі. Яны на працягу 1917 году падбухторваюць сялянства супроць бальшавікоў. Але трэба сказаць, што яно не пайшло за нацыяналістамі, хоць яны і абяцалі „землю и волю" і, да таго, незалежную Беларусь.

Роўна сто дзён існавала савецкая ўлада на Беларусі. У гэты час адбыліся мірныя перамаўленьні з галоўным нямецкім камандваньнем у г. Бярэсьці. Нарэшце перамаўленьні спыніліся і нямецкі імпэрыялізм окупаваў амаль што ўсю Беларусь. Пачаўшаяся праз некаторы час рэволюцыя ў Германіі дапамагла аднаўленьню Саветаў на Беларусіі. Нямецкая армія пакінула Ўсходнюю Беларусь. На тэрыторыі, ачышчанай немцамі, пачынаюць хутка ўзьнікаць ізноў Саветы Рабочых, Чырвонаармійскіх і Сялянскіх Дэпутатаў.

З поўным разуменьнем усяе адказнасьці, з поўным разуменьнем канечнасьці ажыцьцяўленьня лёзунгу Кастрычніка аб нацыянальным самавызначэньні Шостая Паўночна-Заходняя абласная конфэрэнцыя РКП(б), ухваляе абвясьціць незалежнасьць Рабоча-Сялянскай Савецкай Беларусі. Гэта позыцыя зьезду яскрава выяўлена ў рэзолюцыі, прынятай 30 сьнежня 1918 г.:

„Дзесяць месяцаў працоўныя масы Беларусі былі прыгнечаны і прыдушаны сваімі ды чужаземнымі драпежнікамі, бясьсільныя скінуць іх панаваньне.

Але прышоў час, калі панаваньню дармаедаў падышоў канец, калі наша вызваліцелька і пажаданая госьцейка, Чырвоная соцыялістычная армія, прынесла чырвоны сьцяг соцыялізму з краю ў край злучанай Беларусі.

Мы зьехаліся з усіх канцоў Беларусі на першы зьезд комуністычнай партыі, каб тут вырашыць лёс працоўных мас, каб шчыльней згуртаваць свае рады перад тварам новай небясьпекі, якая пагражае нам з боку капіталістаў і буржуазіі — саюзьнікаў Антанты.

Зьезд ухваліў вялікую пастанову: ён абвясьціў Соцыялістычую Савецкую Беларускую Рэспубліку з Рабоча-Сялянскім урадам Беларусі на чале.

[1]) Там-жа, стар. 40.

Працоўныя масы беларусі не жадаюць іншай улады, як улады саветаў, якая зьяўляецца ўладай рабочых, батракоў і сялян. Ім агідна ўлада памешчыкаў Беларускай рады і яе народная рэспубліка, якой працоўны народ проціставіць сваю рабоча-сялянскую ўладу, сваю савецкую рэспубліку...“

У гісторыі Беларусі пасьля вызваленьня яе ад нямецкіх акупантаў, з абнародваньнем маніфэсту Часовага рабоча-сялянскага ўраду ад 1-га студзеня 1919 году, пачаўся другі савецкі пэрыод. Гэта быў пэрыод новага будаўніцтва, будаўніцтва савецкай улады і ў той-жа час самага бязьлітаснага клясавага змаганьня, змаганьня пролетарскай рэволюцыі з міжнароднай і ўнутранай контррэволюцыяй. Ідэі бальшавізму за гэты час пусьцілі даволі глыбокія карэньні ў масах, яны яшчэ больш шырока захапілі сабою пролетарыят і шырокія масы сялянства. Працоўныя масы Беларусі гатовы былі грудзьмі бараніць гэтыя ідэі. Яны больш сур‘ёзна пачалі разьбірацца ў тых асноўных задачах, якія былі пастаўлены пролетарскай рэволюцыяй.

На гэтым канчаецца другі пэрыод Кастрычніка на Беларусі, і краіна ўступае ў паласу грамадзянскай вайны з белай Польшчай.

* * *

Пяройдзем да разгляду літаратуры, прысьвечанай Кастрычніку на Беларусі. За чатырнаццаць год мы ўжо маем даволі значны лік асобных прац, навукова-дасьледчых монографій і мэмуарнай літаратуры, прысьвечанай агляду і вывучэньню асобных этапаў і пэрыодаў савецкага і партыйнага будаўніцтва, Кастрычнікавай рэволюцыі і грамадзянскай вайне. Ня гледзячы на значную колькасьць сабранага ўжо матар‘ялу і публікацыю яго, мы ніякім чынам ня можам у даны момант, ня гледзячы на ўсю неабходнасьць яе для баявых дзён пролетарыяту, сказаць, што ў нас напісана гісторыя Кастрычніка. Ёсьць толькі спробы. Матар‘ял чакае свайго дасьледчыка.

Яшчэ ня зусім была скончана барацьба, а ўжо на Беларусі зьявіліся першыя кніжкі па вывучэньню Кастрычніка.

У 1918 годзе выходзіць кніга „Октябрьские дни и их подготовка в Западной области“ (штрихи и воспоминания. Минск). Гэта была невялічкая брошурка ў 64 стар., у якой зьмешчана звыш дзесятку дробных артыкулаў. Артыкулы гэтыя былі перадрукаваны са „Звезды“; зборнік прысьвячаўся гадаваму юбілею „Звезды“ і Кастрычніку. Зборнік падзяляецца на два разьдзелы: падрыхтоўка Кастрычніка і Кастрычнік і яго вынікі. Аўтарамі артыкулаў зьяўляюцца ў пераважнай большасьці тагочасныя партыйныя працаўнікі на Беларусі, як: А. Мясьнікоў, В. Кнорын, Селязьнёў, Калмановіч ды інш.

Затым зьявілася кніжка В. Кнорына, аднаго з організатараў комуністычнай партыі Беларусі. Называлася яна: „Революция и контрреволюция в Белоруссии“, вышла ў 1920 г. у Смаленску. Кніжка ахапляе час з лютага 1917 г. да лютага 1918 г. Аўтар яе дае малюнак паступовага разьвіцьця барацьбы за Кастрычнік на Беларусі, асабліва ў Менску. Апісвае і дае лічбы паступовага і хуткага росту партыі бальшавікоў. Асабліва падрабязна апісаны падзеі, пачынаючы з 25 кастрычніка да 7 лістапада, вызначана роля Менскага Гарадзкога Савету ў гэтыя часы.

У тым-жа 1920 г. вышла з друку кніжка ў польскай мове: „Z. Angarietis. Walka o ziemie w okupacji polskiej“. Брошура ахапляе

падзеі з канца 1918 году да пачатку 1920 г. і дае малюнак барацьбы за зямлю ў часы польскай окупацыі на Літве-Беларусі.

Неабходна адзначыць і вышаўшую ў Маскве ў выданьні Наркаміндзелу „Красную книгу. Сб. дипломатических документов о русско-польских отношениях с 1918—1920 гг." (112 стар.).

У 1921 г. заслугоўвае быць адзначаным выданы ў Гомелі зборнік „Революционная борьба в Гомельской губернии", вып. 1., сярод артыкулаў якога варта адзначыць наступныя: Г Лелевіча „Ставка и Октябрьская революция (Документы)", М. Хатаевіча „Гомельская большевистская организация"; Ю. Б. „Корниловские дни".

Перад 3-м зьездам Саветаў Беларусі, як перадзьездаўскі матар'ял, вышла кніга пад назваю „Советская Белоруссия". Паміж розных матар'ялаў у кнізе зьмешчаны: „Манифест Временного Революционного Рабоче-Крестьянского Советского Правительства" (стар. 7) і „Декларация о провозглашении независимости Советской Социалистической Республики Белоруссии (стар. 8).

Пераход да мірнага будаўніцтва зьявіўся спрыяючай глебай для вывучэньня Кастрычніка. У 1922 г. мы знаходзім у штомесячніку Цэнтр. Бюро КП(б)Б „Вперед" № 1 цікавы артыкул был. старшыні Савету Народных Камісараў Заходняй Вобласьці К. Ляндэра „Отрывки из воспоминаний". Успаміны ахапляюць пэрыод з лета 1917 г. да пачатку нямецкай окупацыі (люты 1918 г.). Успаміны яскрава малююць барацьбу рэволюцыі з контррэволюцыйнымі сіламі на Беларусі. Ніякіх вывадаў і ацэнак аўтар ня робіць, ён лічыць іх цікавымі і маючымі каштоўнасьць. (Успаміны гэтыя былі перадрукаваны, як і рад іншых успамінаў тагочасных працаўнікоў у зб. „Кастрычнік на Беларусі". Менск. 1927 г.).

У кастрычнікаўскім нумары (№ 4) таго-ж штомесячніку быў надрукаваны артыкул Р. Пікеля, аднаго з відных членаў бальшавіцкай організацыі Менску. Артыкул зьяўляецца таксама ўспамінамі аўтара, і ў ім аддаецца многа месца тэй барацьбе комфракцыі ў Гарадзкім Менскім Савеце, што вялася з рознымі згодніцкімі партыямі. Падаюцца факты аб вынікненьні ў Менску бальшавіцкай „военной организации" і заснаваньні партыйнай газэты „Звезда".

Улётку гэтага-ж году ў пятую гадавіну аднаўленьня організацыі бальшавікоў у Менску Гістпарт выдаў кніжку В. Кнорына „Пять лет", дзе даецца ў выглядзе конспэкту гісторыя компартыі Беларусі з 17 (4) чэрвеня 1917 году да чэрвеня 1922 г.

Віцебскі Гістпарт выпусьціў кнігу Б. Пінсона „Большевики в Витебске. (По воспоминаниям и документам)". Па свайму зьместу гэтыя ўспаміны ахопліваюць сабою 1917 г. Гаворыцца аб барацьбе, што прыходзілася весьці паасобным таварышом з дробна-буржуазнымі і нацыяналістычнымі групоўкамі. Організацыя партыі бальшавікоў, яе праца сярод салдат, розных катэгорый насельніцтва і г. д. Абставіны, пры якіх праходзілі выбары ва ўстаноўчы сойм па Віцебшчыне, удзел у іх бальшавікоў і чаму імі была атрымана перамога. Падрыхтоўка да паўстаньня і захоп улады ў Віцебску. (Гл. „Кастрычнік на Беларусі" стар. 70—112).

У часе сьвяткаваньня пяцігадовага юбілею Кастрычнікавай рэволюцыі была зьмешчана корэспондэнцыя Г. Грыгор'ева „Октябрьская революция в Белоруссии" („Известия ВЦИК и Моссовета", № 252 (1691), 7 ноября 1922 г.), а ў часопісу „Пролетарская Революция"— артыкул Г. Лелевіча пад назваю „Из истории крестьянского движения

в Могилевской губернии накануне Октябрьской революции“ (№ 11, стар. 116—130).

У выдаваным у Віцебску часопісу „Коммунистический труд“ № 18 знаходзім наступныя матар‘ялы: 1) „К истории городокской организации РКП(б). (К пятилетнему юбилею)“; 2) Косьцерына, М. „Об Октябрьской революции в Витебске. (Наброски воспоминаний)“. і 3) Пісманік „Наша организация и наша рабочая политика. (Воспоминания)“.

У тым-жа годзе вышла ў г. Гомелі ў выданьні „Гомельский рабочий“ цікавая кніжка Г. Лелевіча „Октябрь в ставке“. Каштоўнасьць яе ў тым, што ў ёй зьмешчаны амаль усе нумары т. зв. „Бюллетеня“, які выдаваўся пры стаўцы ў дні Кастрычнікавай рэволюцыі.

У пачаўшых выдавацца, асабліва з 1923 г., часопісах і зборніках аддавалася шмат увагі пытаньням вывучэньня рэволюцыйных падзей на Беларусі і ў прыватнасьці Кастрычніка. У выдаваных у Гомелі „Известиях Гомельского губкома РКП“, якіх на працягу часу з 1920 па 1926 г. вышла звыш ста нумароў, поруч з асьвятленьнем бягучай партыйнай і савецкай політыкі і практыкі, меўся цэлы разьдзел, прысьвечаны фактам з рэволюцыйнага мінулага на Гомельшчыне і Магілеўшчыне. Ня маючы мажлівасьці падрабязна разглядзець артыкулы, што нас цікавяць, мы толькі назавем некалькі з іх: Кавалёў „Организация и деятельность Советской власти в Могилевском уезде до октября 1917 г.“, № 39; Остолнера „Корнилоские дни в Могилеве“, № 28; Чэрніцкі, А. „1917 и 1918 годы в Могилеве (из воспоминаний)“, № 40-41; Клебанаў, С. „Могилев в 1917 г. (из воспоминаний)“, № 63-64; Б. І. „Накануне Октября в Гомельщине (материал эпохи корниловщины)“, № 79 за 1924 г.; Гуцэў, М. „17 и 18 годы в Гомельском уезде. (Из воспоминаний крестьянина-коммуниста)“, № 65, за 1924 г.; Драбкін, Я. „В борьбе. Очерк борьбы Гомельской организации за власть Советов. 1917-1918-1919 гг.“, № 79, за 1924 г.; Косьценко, „Предоктябрьские дни в Речице“ (материалы и воспоминания), № 56; Лейбовіч, А. „Борьба за Советскую власть в Стародубском уезде“, № 55; Косьценко „Из истории Речицкой организации РКП(б). (Мои воспоминания)“, № 27, за 1922 г. і г. д.

У Віцебску ў гэтым годзе вышаў у выданьні Гістпарту гістарычны зборнік, амаль цалкам прысьвечаны Кастрычнікавай рэволюцыі ў Віцебскай губэрні. У гэтым зборніку (назва „Красная Быль“) маюцца наступныя артыкулы, якія зьяўляюцца па свайму зьместу ўласнымі ўспамінамі непасрэдных удзельнікаў справы Кастрычніка на Віцебшчыне: Брэслаў „Первые шаги“, Гоба, Я. „Организация власти“, Касьцерын „Внутрипартийная работа“, Крылоў, С. „Военная работа“, яго-ж „Наши разногласия“, Меніцкі, Г. „Год работы в Витебске“, Пінсон, Б. „От февраля к Красному Октябрю“ і г. д.

У часопісу „Полымя“ было зьмешчана некалькі артыкулаў З. Жылуновіча аб вёўшайся барацьбе за Кастрычнік і Савецкую Беларусь. Аўтарам выкарыстаны ў іх як уласныя ўспаміны, так і значны лік архіўных дакумэнтаў. Але аўтар іх (артыкулаў) стаіць на антыпартыйным, антымарксыцкім пункце погляду. У іх ён зусім змазаў значэньне пролетарыяту, як асноўнай рухаючай сілы ў Кастрычнікавай рэволюцыі, няверна асьвятляецца аўтарам і роля компартыі, якую яна адыграла ў часе прэд- і кастрычнікавых падзей на Беларусі. Аўтарам ідэалізуецца дробна-буржуазная нацыяналістычная Белар. Социял. Грамада, якой ён адводзіць амаль ня першае месца ў стварэньні Савецкай Беларусі. Увогуле артыкулы патрабуюць крытычнага

падыходу. (Гл. разгляд гэтых артыкулаўДанільчыка і Карнейчыка „Бальшавік Беларусі“ за 1930 г., № 1-2 „Супроць нацыянал-дэмакратычных выпраўленьняў гісторыі Савецкай Беларусі“, стар. 127—144).

Зусім асобна стаіць справа вывучэньня грамадзянскай вайны на Беларусі і чырвонай гвардыі. Тут неабходна адзначыць адзін каштоўнейшы невялічкі артыкул, напісаны Багдановым, Д. „Красная гвардия при главных гомельских жел.-дор. мастерских“. Сб. „Гражданская война“, т. II. ВВРС. Петроград. 1923 г., стар. 170—173.

У канцы 1924 г. вышаў з друку багаты па зьместу зборнік „Беларусь“, які зьмяшчае ў сабе нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэволюцыйнага руху на Беларусі да Кастрычніка. Значная ўвага аддаецца асьвятленьню і падзеям апошняга. Пытаньню Кастычнікавай рэволюцыі прысьвечаны артыкулы: В. Кнорына, У. Ігнатоўскага, З. Жылуновіча, М. Гуткоўскага ды інш. У артыкулах некаторых з названых аўтараў праводзяцца погляды, варожыя дыктатуры пролетарыяту, яны зьяўляюцца праваднікамі нацдэмаўскай гістарычнай концэпцыі ў пытаньні Кастрычніка на Беларусі, аб якіх (концэпцыях) мы гаварылі вышэй.

У 1925 годзе Гістпартам ЦК КП(б)Б (аддзелам па вывучэньню Кастрычнікавай рэволюцыі) была выпушчана ў сьвет добра вядомая кніжка В. Кнорына „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте“. Гэтая кніжка зьяўляецца перапрацоўкай першай, напісанай аўтарам яшчэ ў 1920 г., аб якой гаварылася намі вышэй. („Рэволюция и контрреволюция в Белоруссии“). В. Кнорынам даецца ў ёй апісаньне зараджэньня і росту бальшавіцкіх організацый у 1917 г. ў Беларусі і на Заходнім фронце. Асаблівы інтарэс прадстаўляе апісаньне моманту франтавога зьезду ў Менску ў красавіку 1917 г. і Кастрычнікавыя дні ў арміі. Аўтар падрабязна спыняецца і на барацьбе бальшавікоў з меншавікамі. Асноўную думку свае кніжкі аўтар правільна і яскрава выказаў у прадмове так: „Основателем и создателем коммунистической организации в Белоруссии была старая большевитская гвардия, заброшенная в Белоруссию войной из Ленинграда, Москвы, Иванова и т. д. и нашедшая здесь широкое поле для партийной работы в рабочей и солдатской массе и среди белорусского крестьянства. Местные-ж белорусские и еврейские (бундовские) революционные организации и их старые лидеры еще долгое время продолжали оставаться под влиянием мелкой буржуазии. В тяжелых испытаниях гражданской войны им пришлось выбирать между буржуазной демократией и диктатурой пролетариата—и они пошли за победившим пролетариатом“. Кніга мае надзвычайны інтарэс для кожнага, хто займаецца Кастрычнікавай рэволюцыяй.

У тым-жа годзе, тым-жа аддзелам Гістпарту выпушчаны быў зборнік пад назваю „Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии“. Рэдакцыйная колегія зборніка ў прадмове вызначае тыя крыніцы, якімі яна карысталася пры складаньні яго, і так гаворыць аб значэньні гэтага зборніка: „Ён мае вялікае значаньне таму, што ў большай частцы біографіі загінуўшых таварышоў вельмі яскрава атабражаюць усе найбольш важныя моманты гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі. Асабліва вялікае значэньне зборнік мае для нашай моладзі, якая на прыкладах загінуўшых навучыцца змагацца і давядзе начатую імі справу да канчатковай перамогі“. З такою ацэнкаю зборніка, бязумоўна, прыходзіцца згадзіцца.

Асабліва шмат было зроблена па вывучэньню Кастрычніка на Беларусі ў 1927 г. Была створана цэнтральная камісія па правя-

дзеньні 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі, якая разам з Гістпартам ЦК КП(б)Б выдала, пад рэдакцыяй С. Агурскага, вялікі зборнік: „Кастрычнік на Беларусі“. У ім сабраны ўспаміны непасрэдных удзельнікаў Кастрычнікавай рэволюцыі, гэтыя ўспаміны ахапляюць сабою 1917, 1918, 1919 гг. Усе артыкулы зборніка раней ужо былі выдрукаваны ў расійскіх часопісах (як „Пролет. революция“, „Каторга и Ссылка“ ці „Красная Летопись“) альбо ў беларускіх выданьнях („Вперед“, „Красная Быль“, „Извест. гомельского Губкома РКП“ і др.). Сабраныя-ж у адно месца, яны значна дапамагаюць вывучэньню падзей, значна дапамагаюць масаваму чытачу (які не заўсёды можа дастаць спэцыяльны часопіс) азнаёміцца, маючы пад рукамі іх у аднэй кнізе. На 200 старонках у кніжцы паданы тагочасныя гістарычныя докумэнты: тут і аб Менскім Савеце Раб. і Салдацкіх Дэпутатаў, аб росьце бальшавізму і яго ўплыве на армію, сялян, організацыя савецкай улады і дзейнасьць Савету Народных Камісараў Заходняй Вобласьці, барацьба з контррэволюцыяй, хроніка і г. д. Кніга мае шмат ілюстрацый (67).

Тая-ж камісія разам з ЦК ЛКСМБ выпусьціла кнігу двух аўтараў Б. Олікера і Л. Розэнблюма: „Нарысы па гісторыі комсамолу Беларусі“. Кніга мае тры разьдзелы. Юнацкі рух на Беларусі да 1917 году, першы, другі і трэці: „на шляхох да Кастрычнікавай рэволюцыі“ і „першыя крокі комсамолу Беларусі“. Даволі многа падаецца ў кніжцы прыкладаў аб удзеле моладзі Беларусі ў Кастрычнікавай рэволюцыі, партызанскім руху, барацьбе з белапалякамі і г. д. У прадмове да яе В. Кнорын дае такую ацэнку гэтай кніжцы: „Рэкомэндуючы гэту кнігу самым шырокім гушчам моладзі Беларусі, мы спадзяемся, што яна падыме новыя пласты да актыўнай творчай комсамольскай працы, што яна будзе адчуваць рэволюцыйны энтузіязм новых пластоў моладзі,—а гэта ёсьць адна з умоў пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне“.

У тым-жа годзе, у выданьні тае-ж камісіі і Гістпарту вышла кніжка А. Чарвякова „За Савецкую Беларусь“. Аўтар яе імкнуўся даць конспэктыўны агляд галоўных этапаў барацьбы за савецкую Беларусь, а разам з тым растлумачыць масам, чаму толькі шлях савецкай улады, шлях дыктатуры пролетарыяту пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі зьяўляецца адзіна правільным і адзіна адпавядаючым інтарэсам рабочых і сялян Беларусі ў іх барацьбе за лепшую будучыню, за соцыялістычны парадак жыцьця. Асаблівую цікавасьць прадстаўляюць разьдзелы кніжкі: Беларусь перад Кастрычнікавай рэволюцыяй, Кастрычнік на Беларусі і інш.

Лічым неабходным адзначыць і цікавую працу, вышаўшую тады-ж у польскай мове: St. Heltman. Robotnik polski w rewolucji październinowej na Białorusi“.

У часопісу „Пролетарская революция“, 1927 г., № 12 быў надрукаваны артыкул А. Кіржыца „Октябрьские дни в Белоруссии“ (стар. 108—140).

Пачаўшы выходзіць „Бальшавік Беларусі“ (Орган ЦК КП(б)Б) зьвярнуў вялікую ўвагу на высьвятленьне Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі. У значным ліку яго нумароў можна знайсьці артыкулы, прысьвечаныя разгляду гэтага пытаньня. У разьдзеле Гістпарт мы знаходзім наступныя артыкулу: 1) Мясьнікоў, А. „Кастрычнік і яго вынікі“ (№ 1-2, стар. 34), 2) Калмановіч „Кастрычнікавая рэволюцыя і рэволюцыйны камітэт Заходняй вобласьці і фронту“ (№ 1-2, стар. 38), 3) Мясьнікоў, А. „Подготовка Октября“. Воспоминания (№ 3), 4) В. Кно-

рын „Звезда“ и Минский Совет“ (№ 3), 5) М. Хатаевіч „Гомельская бальшавіцкая організацыя. З успамінаў“, (№ 4), 6) Г. Лелевіч (Л. Магілеўскі) „Кастрычнікавыя дні ў Магілеве. Адрыўкі з успамінаў“ (№ 4, стар. 26), 7) Агурскі „Роля дробна-буржуазных партый на Беларусі ў Кастрычнікавай рэволюцыі“ (№ 5, стар. 69), 8) І. Ашак „1917 год у Віцебску“( № 1, за 1930 г., стар. 69). Артыкулы, акрамя апошняга, зьмешчаны ў часопісу за 1927 г., найчасьцей яны зьяўляюцца ўспамінамі ўдзельнікаў рэволюцыі і даюць шмат новых каштоўных матар‘ялаў.

Усё, што намі пералічана, далёка ня вычэрпвае гістарычнае працы, якія ставілі сабе мэтаю даць адказ на пытаньне, чым была Кастрычнікавая рэволюцыя. Дагэтуль вывучэньне Кастрычніка больш зводзілася да зьбіраньня і апублікаваньня рознага матар‘ялу па гісторыі рэволюцыі на Беларусі, чым яго апрацоўцы і вывучэньню. Некаторыя спробы вывучыць і сыстэматызаваць маючыйся ўжо ў абароце аграмадны матар‘ял гістарычнай літаратуры наглядаюцца ў апошнія гады. Даць агульную характарыстыку разьвіцьця Кастрычнікавай рэволюцыі прабуюць працы В. К. Шчарбакова, Ю. Майзэля і М. Шапавалава. Праца ў гэтым напрамку вядзецца пад непасрэдным кіраўніцтвам Гістпарту ЦК КП(б)Б. У 1929 годзе Белдзяржвыдавецтва выпушчае кнігу двух маладых навуковых працаўнікоў Ю. Майзэля і М. Шапавалава „Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б“. Аўтары гэтага „Кароткага нарысу...“ выходзяць з правільнай установкі, што КП(б)Б бярэ свой пачатак не ад дробна-буржуазных партый, што існавалі на Беларусі (што ўвесь час даводзілі нацдэмы і нацопортуністы), як Бунд, Белярус. Соцыял. Грамада ды інш., а ад агульна-расійскага бальшавіцкага руху, на працягу ўсёй сваёй працы аўтары ўвязваюць рэволюцыйны рух Беларусі з рэволюцыйным рухам у Расіі і Польшчы.

Кніга пачынае з апісаньня зараджэньня рэволюцыйных гурткоў на Беларусі ў часы народніцтва і польскага паўстаньня 1863 г. і канчаецца XI зьездам КП(б)Б. Аўтарамі паказваецца, як ужо ў 1880-ыя гады, побач з народніцкімі гурткамі ў Менску і Вільні засноўваюцца і соцыял-дэмократычныя, марксыцкія гурткі, якія завязваюць сувязь нават з вядомай замежнай групай „Освобождение Труда“. Асьвятляецца гісторыя Бунду, даецца характарыстыка працы Белар. Соцыял. Грамады, падзеі 1905 г. і гады рэакцыі.

Найбольш поўна і дасканала распрацаваны: пэрыод ад Лютаўскай рэволюцыі да сканчэньня грамадзянскай вайны. Тут апавядаецца аб тым, як утварылася і загартоўвалася компартыя Беларусі. Пэрыод, пачынаючы з часу НЭП‘у да XI зьезду КП(б)Б, аўтарамі напісаны схэматычна. Тут падаецца пералік тэрмінаў зьездаў і конфэрэнцый партыі, лік дэлегатаў на іх, якія пытаньні разглядаліся і выбары партыйных органаў. На нашу думку неабходна было больш падрабязна застанавіцца на політыцы і працы КП(б)Б за гэты час, асабліва ў галіне нацпытаньня і эконотікі, паказаўшы тыя вялізарнейшыя дасягненьні, якія ёсьць у БССР, дзякуючы правільнай політыцы і ўпартай працы КП(б)Б.

Кніга В. К. Шчарбакова „Кастрычніцкая рэволюцыя на Беларусі і белапольская окупацыя“ (Менск. Выд. БДВ. 1930 г.) ставіць даволі шырока проблему Кастрычнікавай рэволюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі.

Аўтар значную ўвагу аддае прадпасылкам Кастрычніка. Тут ён застанаўліваецца на стварэньні і організацыі бальшавіцкай партыі на Беларусі і Заходнім фронце. Разглядаецца дзейнасьць бальшавікоў,

рост іх уплыву на рабочыя, сялянскія і салдацкія масы. Гэта разьбіраецца на конкрэтных прыкладах гарадзкіх цэнтраў Беларусі—Менску, Гомелю і Віцебску. Поруч з заваяваньнем мас бальшавіцкія організацыі таксама вялі працу і па падрыхтоўцы іх да пролетарскай рэволюцыі. На гэтым шляху значную перашкоду ім рабілі розныя дробна-буржуазныя партыі (меншавікі, эсэры, бундаўцы), беларускія нацыяналістычныя організацыі, а таксама і контррэволюцыйныя (стаўка, камітэт Заходняга фронту). Аўтар ускрывае іх агідную ролю ў справе жаданьня задушыць пролетарскую рэволюцыю. Але, як зазначае аўтар, вялізарная заслуга бальшавікоў Заходняга фронту і Беларусі была ў тым, што яны, поруч з мобілізацыяй вакол сябе мас, заняліся перад рэволюцыяй і ў часе яе організацыяй узброеных сіл.

Аўтар значнае месца адводзіць тэй „рабоце“, якую пачалі праводзіць розныя контррэволюцыйныя організацыі (легіёны Доўбар-Мусьніцкага, беларускія нацыяналістычныя організацыі і г. д.) на Беларусі супроць дыктатуры пролетарыяту з першых-жа дзён Кастрычнікавай рэволюцыі.

Другая частка працы т. В. Шчарбакова непасрэдна датычыцца змаганьня савецкай улады як з унутранымі, так пераважна і з замежнымі ворагамі. Тут разглядаецца тая героічная барацьба, якую вялі працоўныя Беларусі спачатку з нямецкай, а потым з белапольскай окупацыямі, за канчатковую перамогу Кастрычніка. Аўтар знаёміць з абставінамі, у якіх адбылося абвяшчэньне БССР. Кніжка заканчваецца разьдзелам „БССР за дзесяць гадоў і становішча працоўных Заходняй Беларусі“, дзе падводзяцца ітогі тым аграмадным дасягненьням у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, якія маюцца ў Савецкай Беларусі за дзесяць год існаваньня дыктатуры пролетарыяту. Гэтых дасягненьняў удалося дабіцца дзякуючы падтрыманьню з боку ўсёй рабочай клясы Савецкага саюзу.

В. Шчарбакоў

# Неабходна вывучаць партызанскі рух на Беларусі

У гісторыі грамадзянскай вайны, у барацьбе пролетарыяту і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства з белагвардзейскімі полчышчамі, з унутранай контррэволюцыяй, у барацьбе за савецкую ўладу,—партызанскі рух па тэрыторыі Савецкага саюзу адыграў важнейшую ролю. На жаль да гэтага часу нашы гісторыкі не аддавалі належнае ўвагі вывучэньню гэтага руху. Тыя асобныя нарысы, артыкулы і ўспаміны, якія надрукаваны ўжо ў нашай савецкай і партыйнай прэсе, далёка яшчэ ня вычэрпваюць пытаньня аб партызанскім руху, не даюць яшчэ цэльнага малюнку аб тым шырокім размаху гэтага руху, які меў месца ў розных частках Савецкага саюзу ў 1918-19 і 20 гадох.

Я ўжо не кажу аб глыбокім навуковым дасьледваньні гэтага руху. У гэтых адносінах справа знаходзіцца яшчэ ў горшым стане. Дасьледчыя працы па гэтаму пытаньню амаль зусім адсутнічаюць.

Між тым партызанскі рух заслугоўвае іншых да сябе адносін. Яго мы павінны вывучаць усебакова і глыбока. На гісторыкаў-марксыстаў, перш за ўсё, кладзецца абавязак вывучыць гэты рух. Неабходна сабраць усе наяўныя матар'ялы па гэтаму пытаньню, выкарыстаць архіўныя докумэнты, тыя заметкі і невялікія артыкулы, якія ўжо маюцца ў нашай прэсе, сабраць і зафіксаваць успаміны і ад жывых удзельнікаў партызанскіх атрадаў, ад кіраўнікоў гэтых атрадаў, ад насельніцтва тых раёнаў, дзе гэты рух найбольш яскрава праяўляўся. Разам з гэтым неабходна таксама прыняцца і за ўсебаковае і глыбокае навуковае вывучэньне гэтага руху.

Яго неабходна ацаніць, даць яму глыбокі клясавы аналіз, выкрыць клясава-палітычныя і экономічныя карэньні, устанавіць тую ролю, якую адыграў гэты рух у барацьбе за пролетарскую рэволюцыю, за савецкую ўладу.

Кажучы аб слабой працы нашых гісторыкаў-марксыстаў наогул у галіне вывучэньня і асьвятленьня ў прэсе партызанскага руху, мы павінны, аднак, тут падкрэсьліць, што, бадай, самым адсталым у гэтых адносінах аказаўся, перш за ўсе, гістарычны фронт Беларусі. Гісторыкі-марксысты, працуючыя ў другіх нацыянальных рэспубліках і абласьцях нашага Савецкага саюзу, усё-ж, хаця і недастаткова, але ў той ці іншай меры займаліся гэтым пытаньнем. У украінскім часопісу інстытуту гісторыі КП(б)У — „Летапісі Рэволюцыі"—надрукавана ўжо ня мала артыкулаў і ўспамінаў аб партызанскім руху на Украіне ў пэрыод нямецкай окупацыі і дзянікіншчыны. У часопісу „Пролетарская Рэволюцыя" таксама зьмешчана шмат артыкулаў аб парты-

занскім руху ў Усходняй і Заходняй Сібіры, Чорнаморскім пабярэжжы і іншых раёнах нашага Савецкага саюзу. Зьявілася некалькі асобных нарысаў аб партызанскім руху, меўшым месца ў розных частках тэрыторыі Савецкага саюзу. У гісторыі УсеКП(б), т. V пад рэдакцыяй тав. Яраслаўскага, ёсьць адпаведны аддзел аб гэтым руху.

Уся гэтая літаратура, паўтараем, далёка ня вычэрпвае пытаньня, не дае ўсебаковага і глыбокага асьвятленьня партызанскага руху ў гады грамадзянскай вайны. Усё-ж такі спробы ў гэтым напрамку робяцца і ўжо зроблены.

У нас на Беларусі справа знаходзіцца ў значна горшым стане. Ніводнай больш-менш сур'ёзнай працы аб партызанскім руху на Беларусі, у пэрыод нямецкай і белапольскай окупацыі ў нас няма. Гэта пытаньне ў нашай прэсе не знайшло свайго адбітку, калі не гаварыць аб шэрагу невялічкіх артыкулаў, успамінаў і газэтных заметак, прысьвечаных гэтаму руху. У тых агульных працах аб партызанскім руху, якія вышлі ў Савецкім саюзе, нічога не гаворыцца аб гэтым руху ў нас, на тэрыторыі Беларусі. Як-быццам яго тут і не існавала!

Неабходна нам гісторыкам прыступіць да сур'ёзнага вывучэньня партызанскага руху ў гады грамадзанскай барацьбы на тэрыторыі Беларусі. Неабходна ў бліжэйшы час даць рад нарысаў, артыкулаў і ўспамінаў удзельнікаў аб партызанскім руху. Не пашкодзіла-б ужо зараз падумаць і нашым пісьменьнікам аб падрыхтоўцы раду аповесьцяй, расказаў, п'ес і г. д. аб гэтым руху. Ён, гэты апошні, дасьць багаты матар'ял для нашых пісьменьнікаў і поэтаў. Трэба прыступіць да адшуканьня і сабіраньня архіўнага матар'ялу па гэтаму пытаньню. Ён ў нас ёсьць, але, на жаль, тыя, хто павінен займацца ім, яго ня зьбіраюць. Нашы краязнаўчыя організацыі на мясцох маглі-б даць багацейшы матар'ял, які адносіцца да партызанскага руху на Беларусі. Яны, як ніхто іншы, маглі-б сабраць цікавейшыя ўспаміны, жывыя апавяданьні аб гэтым руху ад саміх удзельнікаў яго, раскіданых па ўсёй тэрыторыі Савецкай Беларусі. Не малы матар'ял змагло-б даць і само насельніцтва, працоўныя масы тых раёнаў, дзе гэты рух найбольш яскрава праяўляўся. Трэба сабраць матар'ял аб партызанскім руху і ў нашых чырвонаармейскіх часьцях. Яны яго таксама маюць, асабліва тыя з іх, якія опэравалі ў гады грамадзянскай вайны на тэрыторыі Беларусі і так ці інакш датыкаліся, былі зьвязаны з гэтым рухам.

Нам неабходна ўдзяліць сур'ёзьнейшую ўвагу вывучэньню партызанскага руху па многіх прычынах. „Трэба памятаць, што наша гісторыя—гэта ня толькі апавяданьне аб гістарычным мінулым, гэта таксама багацейшая крыніца, адкуль пролетарыят БССР можа чэрпаць сьвежыя сілы і энэргію для социялістычнага будаўніцтва, пролетарыят-жа капіталістычнага Захаду—для змаганьня за зьвяржэньне буржуазіі". Так піша палітычная рэдакцыя „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі" ў сваёй адозьве ад 10 верасьня 1931 г.

Т. Горкі ў сваім нядаўнім артыкуле „Гісторыя фабрык і заводаў", надрукаваным у „Правде", пісаў: „Для таго, каб зразумець агромністае значэньне сваіх заваёў, сваіх гаспадарчых посьпехаў, рабочая кляса павінна ведаць і мінулае, тую глыбока засароную глебу, на якой пачала яна будаваць сваю новую дзяржаву. Усё пазнаецца параўнаньнем, і для таго, каб правільна ацаніць сучаснае, неабходна знаць мінулае. Сярод нас ня мала людзей, якія катаргу мінулага зусім ня ведаюць і пагэтаму ня здольны правільна ацаніць сучаснае". І далей: „Рабочы народ павінен ведаць усё, што ён робіць, ён павінен

ведаць сваю гісторыю. Да іх гісторыя пісалася вучонымі спэцыялістамі, таксама як царкоўнікі сачынялі жыцьцё сьвятых — гісторыя пісалася для ўмацаваньня веры ў права камандуючых клясаў кіраваць лёсам і працаю працоўнага народу. Зараз настаў час, калі вы, таварышы, саздаючы новую гісторыю, самі павінны пісаць яе сілай той-жа рукі і таго розуму, якія паставілі вас гаспадарамі агромністай і багацейшай краіны“.

Перафразуючы гэтыя думкі т. Горкага, мы павінны тут падкрэсьліць, што шматмільённыя масы працоўнага сялянства, дзесяткі і сотні тысяч батракоў, будуючых зараз новае жыцьцё ў вёсцы, перабудоўваючы ўсю сваю гаспадарку на колектыўных пачатках пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і рабочае клясы, здольны зразумець тыя грамадныя заваёвы, якія маюцца ў дзяржаве пролетарскай дыктатуры толькі ў тым выпадку, калі яны будуць ведаць сваё мінулае, тое недалёкае мінулае, калі яны разам з пролетарыятам і пад яго кіраўніцтвам у гады грамадзянскай вайны грудзьдзю абаранялі заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі, героічна змагаліся з белагвардзейцамі, памешчыкамі, кулакамі і буржуазіяй на чырвоных франтох і ў тылу белагвардзейскіх полчышчаў, утвараючы там чырвоныя партызанскія атрады. Чырвоныя партызаны павінны таксама ведаць сваю гісторыю, як павінны яе ведаць і рабочыя. Яны павінны самі непасрэдна прыняць актыўны ўдзел у напісаньні гісторыі партызанскага руху. Сваімі ўспамінамі, перш за ўсё, яны могуць зрабіць вельмі многае ў гэтых адносінах.

На гэтай гісторыі таксама, як на гісторыі ўсёй нашай грамадзянскай вайны, на гісторыі пролетарыяту будзе выхоўвацца наша маладое пакаленьне, будуць узмацняць сябе, перавыхоўваць і непасрэдныя сягонешнія будаўнікі соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Напісаньне гісторыі грамадзянскай вайны і ў прыватнасьці партызанскага руху мае вялікае значэньне і для прадстаячай рашучай барацьбы пролетарыяту і працоўнага сялянства капіталістычных краін супроць эксплёататарскіх клясаў за ўсясьветную пролетарскую рэволюцыю. У прадстаячых рэволюцыйных бойках і ня толькі ў прадстаячых, але ўжо і зараз, партызанскія атрады, партызанскі рух павінен будзе адыграць немалаважную ролю. Ужо зараз масы працоўнага сялянства Заходняй Беларусі і Украіны, даведзеныя да роспачы рабаваньнем фашыстоўскай дыктатуры Польшчы, пачалі рашучую барацьбу супроць ураду гэтай дыктатуры. „Асабліва бурны характар, як піша „Зьвязда“, носяць стыхійныя выступленьня супроць улады окупантаў, супроць памешчыцка-кулацкай прыгоньніцкай эксплёатацыі“. Працоўнае сялянства Заходняй Беларусі ўжо зараз становіцца на шлях утварэньня партызанскіх атрадаў для барацьбы супроць польскіх паноў-прыгоншчыкаў, кулакоў, асаднікаў і польскіх жандараў. Тым больш гэтая барацьба будзе разгортвацца ў далейшым. Чырвоны партызанскі рух адыграе немалую ролю і ў тэй барацьбе, якую рыхтуюць капіталістычныя дзяржавы супроць Савецкага саюзу. І недарма наша камандваньне, нашы чырвонаармейскія часьці аддаюць шмат увагі распрацоўцы пытаньня аб формаваньні, кіраўніцтве будучымі партызанскімі атрадамі ў прадстаячай барацьбе ў тылу ворага.

Вось чаму мы павінны ўдзяліць вельмі сур'ёзную ўвагу вывучэньню партызанскага руху ў гады грамадзянскай вайны, у прыватнасьці ў нас на Беларусі.

Вывучаючы партызанскі рух, ускрываючы першыя крокі формаваньня партызанскіх атрадаў, іх узбраеньне, склад, структуру,

кіраўніцтва, іх тактыку ў барацьбе, іх героічныя подвігі; асьвятляючы на старонках сваёй прэсы пытаньні ўзаемадапамогі партызанскіх атрадаў з насельніцтвам у пэрыод грамадзянскай барацьбы, сувязь іх з чырвонаармейскімі часьцямі, кіраўніцтва партызанскім рухам з боку бальшавіцкіх організацый, харчавое пытаньне і забесьпячэньне партызан, формы і віды барацьбы партызан; ускрываючы яскравыя малюнкі жыцьця, быту і барацьбы партызан, героічныя подвігі партызан-адзіночак, асьвятляючы ролю організатараў партызанскага руху, ролю сялянкі, работніцы і моладзі ў гэтым руху; раскрываючы малюнкі і сыстэму праніка, ньня ў партызанскія атрады шпіёнаў, правакатараў і г. д. і г. д.—мы ўсёй гэтай працаю выканаем вялікую політычную і выхаваўчую задачу і зробім вялізную дапамогу тым, хто будзе ўтвараць, кіраваць і вясьці ў бойку чырвоныя партызанскія атрады ў пэрыод заядлай схваткі з старым капіталістычным сьветам. На нашай гісторыі грамадзянскай вайны, і ў прыватнасьці на гісторыі партызанскага руху, вучацца і будуць вучыцца дзесяткі і сотні тысяч тых, хто пойдзе сьмела ў бойку за справу пролетарыяту і працоўных мас сялянства. Вось зачым нам неабходна пісаць гісторыю партызанскага руху.

---

## Схэма-апытальнік для вывучэньня партызанскага руху на Беларусі ў пэрыод нямецкай і белапольскай окупацыі.

1. Эканомічныя і клясавыя асновы партызанскага руху на Беларусі.
2. Організацыя партызан і іх барацьба з легіонэрамі корпусу Доўбар-Мусьніцкага.
3. Партызанскія атрады ў барацьбе з наступаючымі супроць савецкай улады нямецкімі войскамі.
4. Праца падпольных бальшавіцкіх організацый па фармаваньню, узбраеньню і кіраўніцтву паўстаньнямі партызан супроць нямецкіх окупантаў і рэакцыйных элемэнтаў.
5. Лева-эсэраўскія мецяжы і чырвоныя партызанскія атрады.
6. Проблема паўстаньня ў пэрыод нямецкай окупацыі.
7. Партызанскія атрады ў пэрыод застаўленьня немцамі Беларусі і аднаўленьня савецкай улады.
8. Пачатак белапольскай окупацыі і настроі рабочых і сялянскіх мас у гэты час.
9. Пачатак організацыі і першая чыннасьць партызан.
10. Як утвараліся партызанскія атрады.
11. Партыйныя організацыі і кіраўніцтва імі партызанскім рухам.
12. Як узбройваліся партызаны.
13. Соцыяльны склад партызанскіх атрадаў.
14. Структура партызанскіх атрадаў.
15. Галоўнейшыя раёны опэраваньня і згрупаваньня партызан.
16. Адносіны насельніцтва да партызан.
17. Партызанскія атрады і клясавая барацьба на вёсцы.
18. Організаванасьць і дысцыпліна сярод партызан.
19. Кіраўнікі партызанскіх атрадаў.
20. Кіраўніцтва партызанскім рухам і сувязь з часьцямі Чырвонай арміі.

21. Сувязь і ўзаемаадносіны паміж асобнымі партызанскімі атрадамі.
22. Харчовае пытаньне і забесьпячэньне ў партызан.
23. Партызаны ў бойках з белымі.
24. Героічныя подвігі партызан.
25. Формы і віды барацьбы з белапалякамі.
26. Характарыстыка асобных партызан.
27. За што бароліся партызаны, галоўнейшыя лёзунгі сярод партызан.
28. Малюнкі з жыцьця, быту і барацьбы партызан.
29. Адзіночкі-партызаны і іх чыннасьць.
30. Сялянка і работніца ў партызанскім руху.
31. Моладзь у партызанскім руху.
32. Кулацка-шляхецкі шпіонаж і провакатары ў радах партызан.
33. Правалы партызанскіх атрадаў.
34. Карныя атрады—на барацьбу з партызанамі.
35. Расправы нямецкіх войск і белаокупантаў з насельніцтвам у раёнах чыннасьці партызан.
36. Уцягненьне партызанамі сялянства ў барацьбу з белапалякамі.
37. Партызанскі рух увосень 1919 году.
38. Вясна 1920 году.
39. Партызанскія атрады на чырвоных франтох.
40. Разлажэньне белапольскіх войск і партызаны.
41. Партызаны ў пэрыод адступленьня белапалякаў.
42. Ахвяры партызан; расправа з партызанамі.
43. Партызаны ў турмах і на катарзе.
44. Колькасны склад партызанскіх атрадаў і галоўнейшыя пэрыоды ў разьвіцьці партызанскага руху.

---

Саевіч і Мэльцэр

# Аб мінулым этапе і бліжэйшых задачах філёзофскага фронту БССР

Становішча філёзофскага фронту ў БССР да апошняга часу можна характарызаваць, як становішча адставаньня.

Навуковая работа ў галіне філёзофіі, асабліва да канца 1930 г., концэнтравалася вакол такіх проблем, якія ня былі зьвязаны з тымі задачамі, што высоўваліся ходам социялістычнага будаўніцтва і ажыцьцяўленьнем генэральнай лініі партыі.

На фоне агульных тэмпаў социялістычнага будаўніцтва вельмі нязначнай і зусім недастатковай зьяўляецца тая праца, якая была за апошні час праведзена філёзофамі па распрацоўцы актуальных проблем социялістычнага будаўніцтва. У працягу канца 30 і першай паловы 31 гадоў філёзофская думка працавала над пытаньнямі рэлігійнасьці Беларусі, барацьбы з беларускім нацдэмократызмам, мэтодолёгіі трацкізму і правага ўхілу. Гэтым самым філёзофскі фронт наблізіўся да падпарадкаваньня філёзофіі задачам социялістычнага будаўніцтва. Але толькі наблізіўся. Бо ні ў якім разе нельга здаволіцца як ахопам тэм, так і часам і якасьцю іх распрацоўкі.

Даклады ў Інстытуце філёзофіі БАН аб мэтодолёгіі трацкізму і правага ўхілу адбыліся з вялікім спазьненьнем. Даклад аб мэтодолёгіі правага ўхілу, які называўся „Багданаў - Бухарын", насіў абстрактна-схолястычны характар і ня даў вычарпаючага абгрунтаваньня політычнай пляцформе правага ўхілу.

Тэматыка сучаснага пляну Інстытуту філёзофіі БАН базуецца на асноўных проблемах рэконструкцыйнага пэрыоду, на проблемах ленінскага этапу ў філёзофіі і на проблемах, зьвязаных з социялістычным будадніцтвам у БССР. Уключаныя ў яго плян працы на другую палову 31 году, тэмы—„Аб клясах і клясавай барацьбе ў рэконструкцыйны пэрыод у БССР", „Аб вытворчых сілах і вытворчых адносінах у рэконструкцыйны пэрыод у БССР", рад тэм па вывучэньню проблемы „Ленін-Пляханаў", а таксама правядзеньне разам з ЦКК РСІ Беларусі вывучэньня нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, — гавораць аб тым, што мы зараз шчыльна падышлі да тэорэтычнай апрацоўкі асноўных пытаньняў па ажыцьцяўленьню задач, пастанаўленых партыяй перад марксыцка-ленінскай філёзофіяй.

Усе марксыцка-ленінскія кадры БССР павінны быць мобілізаваны, каб гэты плян быў сапраўды ажыцьцёўлены. *Выкананьне гэтага пляну трэба лічыць генэральным экзаменам здольнасьці філёзофскіх кадраў БССР па ажыцьцяўленьню высунутых перад імі партыяй задач.* Крытэрыем марксыцка-ленінскай вытрыманасьці ў галіне філё-

зофіі павінны быць ня простыя завярэньні аб прызнаньні неабходнасьці барацьбы за марксыцка-ленінскую філёзофію, не агалашэньне агульных дэкляраций (такіх аматараў, к слову кажучы, вельмі многа), а конкрэтная праца, рэальная продукцыя па апрацаваных пытаньнях, коратка кажучы — зьмест рэальна зробленага. Рэальнымі справамі, а ня толькі словамі, неабходна кожнаму філёзофу паказаць, як ён зразумеў партыйнасьць у філёзофіі, як ён зразумее барацьбу за ленінскі этап у філёзофіі.

ТВМДБ толькі ў апошні час зрабіла першыя крокі па ажыцьцяўленьню задач, пастаўленых партыяй перад філёзофскімі кадрамі.

Характэрная асаблівасьць працы ТВМДБ на ўсім працягу свайго мінулага існаваньня — гэта няздольнасьць падпарадкаваць філёзофію барацьбе за генэральную лінію партыі.

ТВМДБ на працягу некалькіх год да апошняга часу, па сутнасьці, яскрава і рашуча не акрэсьліла сваёй позыцыі ў барацьбе з мэханістычнай і дэборынскай рэвізіяй марксыцка-ленінскай філёзофіі. Барацьба з мэханістамі па сутнасьці прайшла міма ТВМДБ. ТВМДБ аформлена, як організацыя, ня выказала сваіх адносін да мэханістаў.

У часе барацьбы з меншавіцтвуючым ідэалізмам „кіраўніцтва ТВМДБ заняла опортуністычна-чакальную пазыцыю, не дааценіўшы політычнага сэнсу гэтай барацьбы“ (З рэзолюцыі сходу ТВМДБ Менску ад 1/VI-31 г.).

У мінулым годзе ў гэты час былы старшыня ТВМДБ т. Выдра разважаў аб поўным дабрабыце становішча філёзофіі ў БССР. У той час, калі неабходна было завастрыць увагу на барацьбу з меншавіцтвуючым ідэалізмам, калі неабходна было з усёй рашучасьцю паставіць пытаньне аб ленінскім этапе ў філёзофіі, аб падпарадкаваньні філёзофіі справе соцыялістычнага будаўніцтва, — кіраўніцтва філёзофскай думкі БССР лічыла, што ў нас усё добра, што нас, філёзофаў Беларусі, гэта не датычыцца. А па сутнасьці становішча філёзофскага фронту БССР, як відаць з вышэйсказанага, было ў той час вельмі і вельмі далёкім ад таго ідэалу, які малявалі кіраўнікі ТВМДБ.

Зусім зразумела, што пры такім, у корані не адпавядаючым сапраўднасьці, оптымістычным прадстаўленьні аб становішчы на філёзофскім фронце ў БССР нельга было таксама правільна орыентаваць гэты фронт на рашучую барацьбу з меншавіцтвуючым ідэалізмам. Гэта зусім яскрава выявілася, калі, з вялікім спазьненьнем, у канцы 1930 г. ТВМДБ пачала „барацьбу“ з дэборыншчынай. Гэта „барацьба“ насіла вельма і вельма ўмоўны характар.

Памылкі мэханістычнага, позыцывісцкага і эклектычнага характару, а таксама элемэнты меншавіцтвуючага ідэалізму, якія маюць месца ў радзе філёзофскіх прац у БССР, ня былі выкрыты. „Выступленьні супроць дэборыншчыны — як гэта было адзначана ў рэзолюцыі ТВМДБ ад 1/VI-31 году — насілі дэклярацыйны характар і ня выкрылі яе політычнай сутнасьці“.

Старшыня ТВМДБ таго часу т. Выдра замест сконцэнтраваньня ўвагі на неабходнасьці барацьбы супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, павёў наступленьне супроць раду артыкулаў, належаўшых таварышом, якія змагаліся супроць дэборыншчыны, за партыйнасьць у філёзофіі. Гэтым самым, бязумоўна, аслаблялася ўвага неабходнасьці самай рашучай барацьбы з групай Дэборына.

Значную ролю ў напрамку тармажэньня барацьбы за марксыцка-ленінскую філёзофію адыгралі організацыя і ход дыскусіі. Дыскусія была замкнута ў вузкім кругу філёзофаў. Да ўдзелу ў ёй ня былі

прыцягнуты партыйны і рабочы актыў. Наогул, яна не набыла таго актуальнага, палітычнага характару, які яна павінна была мець. Яна не адпавядала тым задачам, якія былі высунуты партыяй перад марксыцка-ленінскай філёзофіяй.

А таму ня дзіўным было тое, што і пасьля сканчэньня дыскусіі і прыняцьця рэзолюцыі адпаведнага, карэнага зруху ў працы ТВМДБ у працягу доўгага часу ня была праведзена.

Ня была арганізавана крытыка філёзофскіх твораў, выданых у БССР. Маладыя філёзофскія кадры (асьпірантура) ігноравалася, яны ня былі прыцягнуты да актыўнай працы ў таварыстве. Нічога ня было зроблена, каб уцягнуць шырокія масы рабочых у працу ТВМДБ, каб наблізіць марксыцка-ленінскую філёзофскую думку непасрэдна да масы рабочых на прадпрыемствах.

Даная лінія была рашуча асуджана партыяй і масай членаў ТВМДБ. У рэзолюцыі, якая была прынята на сходзе ТВМДБ 1/VI-31 г. (надрукавана ў 6 нумары „Бальшавік Беларусі" і ў 7 нумары „Савецкай Краіны" за 31 г.), была дана прынцыповая ацэнка гэтаму пэрыоду працы ТВМДБ. Разглядаючы лінію, якую праводзіла ў гэты час кіраўніцтва ТМВДБ, гэта рэзолюцыя „асуджае опортуністычную лінію ТВМДБ... лічыць неабходным зьмяніць кіруючы склад яго, узмацніўшы яго маладымі філёзофскімі кадрамі".

Адначасова ўпяршыню яскрава была намечана прынцыповая ўстаноўка аб зьмесьце і напрамку далейшай працы марксыцка-ленінскай філёзофіі БССР. Гэта было сформулявана наступным чынам: „Побач з агульнымі задачамі, якія ставіць партыя ў галіне філёзофіі—барацьба за генэральную лінію партыі на два фронты: супроць мэханіцызму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, супроць прымірэнцтва да іх, за марксыцка-ленінскую філёзофію, за падпарадкаваньне ўсёй тэорэтычнай працы задачам соцбудаўніцтва, задачам барацьбы за пролетарскі атэізм, — ва ўмовах БССР выдзяляюцца спэцыфічныя моманты гэтых задач: барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім нацдэмократызмам і шовінізмам іншых колераў ва ўсіх галінах тэорыі і практыкі, распрацоўка проблем будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і социялістычнай па зьместу, распрацоўка тэорэтычных проблем рэволюцыйнага руху Заходняй Беларусі, найхутчэйшая падрыхтоўка пролетарскіх беларускіх тэорэтычных кадраў, якая мае ў сучасны момант вельмі важнае значэньне для БССР". Гэтыя прынцыповыя ўстаноўкі павінны быць зараз конкрэтна рэалізаваны філёзофамі БССР.

Далейшае разгортваньне працы патрабуе правядзеньня разгорнутай большавіцкай крытыкі і самакрытыкі. Філёзофскія творы БССР, як ужо было сказана, маюць у сабе памылкі мэханістычнага, позыцывісцкага і эклектычнага характару і элемэнты меншавіцтвуючага ідэалізму. У адносінах крытыкі і самакрытыкі ад мінулага кіраўніцтва ТВМДБ засталася спадчына, з якой неабходна рашуча пакончыць, бо крытыка і самакрытыка былі там ня ў гонары. Толькі зараз, з вялікім спазьненьнем, філёзофскі фронт непасрэдна падыходзіць да вырашэньня гэтай задачы. ТВМДБ у чэрвені месяцы г/г. былі створаны брыгады, якія займаюцца вывучэньнем усіх асноўных філёзофскіх твораў БССР (Вольфсона, Быхаўскага, Выдры і інш.).

Праца гэтых брыгад у бліжэйшы час будзе заслухана на адчыненых пасед жаньнях ТВМДБ разам з усімі астатнімі марксыцкімі таварыствамі.

Гэта праца павінна быць закончана ў самым хуткім часе і павінна быць праведзена дасканала, бо без рашучага выкрыцьця ўсялякіх скажэньняў у галіне тэорыі марксызму-ленінізму, без рашучай барацьбы з гэтымі скажэньнямі нельга ў далейшым пасьпяхова змагацца за марксыцка-ленінскую філёзофію.

Аднэй з важнейшых задач зьяўляецца — пашырэньне базы ТВМДБ. Гэта павінна быць праведзена за кошт уцягненьня ў шэрагі т-ва ў першую чаргу партыйнага актыву і рабочых з прадпрыемстваў, а таксама шляхам уцягненьня ў працу т-ва студэнтаў ВНУ. Вырашэньне гэтай задачы павінна заняць значнае месца ў працы ТВМДБ. У справе ажыцьцяўленьня гэтай задачы т-вам ужо зроблены першыя крокі. Упяршыню ў чэрвені м-цы г/г. т-вам былі накіраваны прадстаўнікі яго ў буйныя прамысловыя цэнтры БССР: Гомель, Віцебск, Рэчыцу, Магілеў, Бабруйск, на прадпрыемствы Дрэваапрацоўшчык, Кастрынік, Комунар, Бальшавік, шчотачная ф-ка г. Менску. Ва ўсіх гэтых гарадох і пераважнай часткі ўказаных прадпрыемстваў Менску былі праведзены даклады на тэму „Аб чарговых задачах на філёзофскім фронце“. У многіх мясцох былі створаны ячэйкі садзеяньня ТВМДБ. За летні час гэтыя організацыі ня былі замацаваны, што павінна быць зроблена ў бліжэйшы час. Такім чынам т-ву ўдалося прабіць маленькую брэш, каб трохі наблізіцца да шырокіх колаў рабочых і выйсьці з вузказамкнутага кругу філёзофаў па спэцыяльнасьці. Уцягваньне рабочых у працу т-ва, бязумоўна, будзе садзейнічаць дальнейшаму ажыўленьню яго працы. Гэта справа зьяўляецца вельмі складанай. Яна патрабуе шмат энэргіі. Неабходна яшчэ грунтоўна прадумаць конкрэтныя формы прыцягненьня рабочых да ўдзелу ў працы ТВМДБ. Неабходна стварыць такія ўмовы, каб рабочыя адчувалі сябе не на палажэньні гасьцей, а на палажэньні роўнапраўных членаў. Важнае значэньне ў гэтым напрамку мае падрыхтоўка рабочых па пытаньнях дыялектмату і ленінізму. ТВМДБ ставіць сваёй бліжэйшай задачай стварыць для ячэек садзеяньня ТВМДБ на буйных прадпрыемствах гурткі па вывучэньню гэтых дысцыплін. Тут патрабуецца, каб партыйныя організацыі аказалі актыўную дапамогу ў ажыцьцяўленьні ўсіх вызначаных мерапрыемстваў.

Вельмі значным недахопам у працы ТВМДБ зьяўляецца адсутнасьць сыстэматычнай організацыйнай сувязі паміж організацыямі ТВМДБ, існуючымі ў некаторых гарадох Беларусі, з організацыяй ТВМДБ Менску, якая павінна быць ня толькі формальна, як зараз, а ў супраўднасьці — кіруючай і вядучай організацыяй філёзофскага фронту БССР. У бліжэйшы час павінна быць створана Ўсебеларускае Праўленьне ТВМДБ. ТВМДБ Менску, якая мае больш сіл і сродкаў, павінна аказаць дапамогу мясцовым організацыям. У буйных гарадох Беларусі (Гомель, Віцебск, Магілеў) ТВМДБ неабходна організацыйна аформіць на правох раённых організацый.

Значную ролю для філёзофскага фронту БССР павінна адыграць Усебеларуская конфэрэнцыя ТВМДБ, якая намячаецца на сьнежань месяц гэтага году. Задачы Ўсебеларукай конфэрэнцыі — распрацаваць проблему аб ленінскім этапе ў філёзофіі, прааналізаваць увесь мінулы этап працы філёзофскага фронту ў БССР, абгаварыць становішча сучаснага моманту і адначасова заняцца вырашэньнем тых проблем, якія конкрэтна высоўваюцца ходам социялістычнагя будаўніцтва ў БССР, у прыватнасьці проблемы культуры нацыянальнай па форме і социялістычнай па зьместу. Вось у асноўным галоўныя задачы, якія павінна будзе вырашаць Усебеларуская конфэрэнцыя ТВМДБ. Час, што застаўся да конфэрэнцыі, павінен быць скарыстаны для разгортваньня працы па

організацыйнаму афармленьню і замацаваньню організацый ТВМДБ на мясцох і ячэек садзеяньня, па заканчэньню пачатага крытычнага агляду філёзофскай продукцыі БССР і па конкрэтнай распрацоўцы тых проблем, якія намечаны ў пляне працы Інстытуту Філёзофіі БАН.

Неабходна таксама адзначыць правадзімае ў бліжэйшы час сьвяткаваньне стагодзьдзя сьмерці Гегеля. Гэта сьвяткаваньне павінна быць скарыстана для популярызацыі перад шырокімі масамі ролі і значэньня для клясавай барацьбы пролетарыяту рэволюцыйнай тэорыі і значэньня для яе матар'ялістычнай дыялектыкі. Трэба ў сапраўдным марксыцка-ленінскім сэнсе даць асьвятленьне гістарычнаму значэньню Гегеля і яго ролі ў разьвіцьці рэволюцыйнай тэорыі пролетарыяту—марксызму-ленінізму. Неабходна ва ўсю шырыню паказаць значэньне Леніна як філёзофа, высьветліць сутнасьць ленінскага этапу. Неабходна будзе адначасова завастрыць увагу на барацьбу супроць мэханістаў, адмаўляючыхся ад дыялектыкі, і супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, атоесамляючага гегелеўскую дыялектыку з матар'ялістычнай дыялектыкай.

Мобілізуючы філёзофскі фронт на барацьбу за правядзеньне генэральнай лініі партыі, за падпарадкаваньне філёзофіі справе соцыялістычнага будаўніцтва, праводзячы барацьбу супроць правага і „левага" опортунізму, змагаючыся супроць мэханіцызму і меншавіцтвуючага ідэалізму,—філёзофскія організацыі БССР павінны паказаць сваю здольнасьць да ажыцьцяўленьня гэтых задач, шляхам тэорэтычнай распрацоўкі проблем рэконструкцыйнага пэрыоду, ленінскага этапу ў філёзофіі і проблем соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР. Дэклярацыі і завярэньні аб неабходнасьці змагацца за партыйнасьць у філёзофіі без сапраўднай працы, як робяць многія пустазвоны, зьяўляюцца шкоднымі і нічога агульнага з лініяй партыі ў галіне філёзофіі ня маюць.

Барацьба за партыйнасьць у філёзофіі не азначае ўпрашчэньня тэорыі і паніжэньня тэорэтычнага ўзроўню ведаў. Аднак, на вялікі жаль, такое разуменьне маецца ў некаторых таварышоў. Але яно ня мае нічога супольнага з марксыцка-ленінскім разуменьнем партыйнасьці ў навуцы. Барацьба за партыйнасьць у навуцы, барацьба за ленінскі этап у філёзофіі павінна весьці не да ўпрашчэньня тэорыі і паніжэньня тэорэтычнага ўзроўню ведаў, а наадварот, павінна весьці да яшчэ большага паглыбленьня тэорыі, да ўздыму яе на яшчэ большую вышыню. Усялякім імкненьнем да ўпрашчэнства і вульгарызатарства неабходна нанесьці руйнуючы ўдар.

Новыя задачы патрабуюць новых мэтодаў прац. Неабходна пакласьці ў аснову колектыўныя формы працы. Гэта дасьць магчымасьць поўнасьцю ўцягнуць у актыўную працу маладых працаўнікоў, якія разам з больш кваліфікаванымі таварышамі змогуць актыўна ўдзельнічаць у распрацоўцы тэорэтычных проблем, якія стаяць перад марксыцка-ленінскай філёзофіяй. Аднак колектыўныя формы працы не павінны весьці да абязьлічкі і ўраўнілаўкі. І пры колектыўных формах працы неабходна яшчэ больш змагацца за індывідуальную адказнасьць, за якасьць працы кожнага асобнага працаўніка.

Трэба прызнаць, што да сучаснага моманту філёзофская думка БССР яшчэ амаль зусім не прасякла ў прыродазнаўчыя навукі. Тут непачаты край працы. Пачатая некалькі месяцаў таму назад работа па стварэньню марксыцкага аб'яднаньня прыродазнаўцаў павінна быць у найхутчэйшы час закончана. Неабходна, каб марксысты-прыродазнаўцы заняліся разам з ТВМДБ распрацоўкай тых мэтодолёгічных проблем, якія зараз стаяць перад рознымі прыродазнаўчымі дысцыплінамі.

Вельмі важным момантам, які павінен садзейнічаць узмацненьню марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі, павінна зьявіцца спэцыялізацыя філёзофаў. Нельга зараз быць філёзофам без спэцыялізацыі ў якой-небудзь галіне навукі. Кожны філёзоф павінен абраць якую-небудзь галіну навукі, якую ён павінен сыстэматычна дэтальна вывучаць. Пры такіх умовах марксыцка-ленінская мэтодолёгія зможа з яшчэ большымі посьпехамі поўнасьцю заваяваць усе галіны навукі. Гэта дасьць магчымасьць увязаць марксыцка-ленінскую мэтодолёгію з конкрэтнымі матар'яламі з тэй ці іншай галіны навукі, у якой будзе працаваць філёзоф, а гэта дапаможа зжыць тую схолястычнасьць, якая яшчэ вельмі моцна адчуваецца пры выкладаньні дыялектычнага матар'ялізму.

Пэдагогічная праца ў галіне дыямату, як і ў іншых галінах, патрабуе значнага палепшаньня яе якасьці. Уся пэдагогічная праца павінна весьціся ў напрамку правядзеньня барацьбы за партыйнасьць у філёзофіі, супроць мэханіцызму і меншавіцтвуючага ідэалізму. Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу, каб гэта праца праводзілася на падставе глыбокай тэорэтычнай распацоўкі матар'ялаў, каб ні ў якім разе яна ня была зьведзена да павярхоўнай агітацыі, што часта мае месца.

Патрабуецца палепшаньне справы выдавецтва марксыцка-ленінскай літаратуры. Гэта справа стаіць пакуль што вельмі дрэнна. Неабходна каб Інстытут філёзофіі БАН і Белдзяржвыдавецтва ў бліжэйшы час выканалі намечаныя яшчэ ў мінулым годзе (але, на вялікі жаль, нявыкананыя) пляны выданьня на беларускай мове філёзофскіх твораў Маркса, Энгельса, Леніна і Пляханава. Ня трэба асабліва даводзіць, наколькі гэта справа мае зараз асабліва важнае значэньне.

Выкананьне ўсіх намечаных мерапрыемстваў магчыма пры ўмове прыцягненьня да актыўнай працы ўсіх філёзофаў-марксыстаў. Гэта трэба зразумець ня проста, як бяспрынцыпнае дзяляцкае супрацоўніцтва ўсіх і ўся. Супольная праца магчыма толькі з тымі, хто стаіць на пляцформе, вызначанай партыяй перад філёзофамі марксыстамі-ленінцамі і хто на справе даводзіць, што ён змагаецца за яе і правільна яе разумее. У той-жа час актыўная і ў асноўным правільная праца не дае права на амністыю, на адпушчэньне грахоў, не азначае, што неабходна адмовіцца ад крытыкі тых памылак, якія меліся ў мінулым. Ад усіх філёзофаў, жадаючых змагацца за марксыцка-ленінскую філёзофію, неабходна патрабаваць, каб яны ў парадку самакрытыкі рашуча выкрылі і выправілі ўсе маючыяся памылкі, якія ў якой-бы та ні было форме вядуць да разыходжаньняў з марксызмам-ленінізмам. Адначасова рашучы адпор будзе даны ўсялякім праявам лявацкіх загібаў, усялякім імкненьням шальмаваньня тых таварышоў, якія не настайваюць на сваіх памылках, а добрасумленна імкнуцца выправіць іх. Таварышом, якія добрасумленна імкнуцца выправіць свае памылкі, павінна быць аказана таварыская дапамога ў гэтай справе.

У барацьбе на два фронты за генэральную лінію партыі—супроць правага і „левага“ опортунізму, у барацьбе супроць мэханіцызму, як мэтодолёгіі правага ўхілу, які зьяўляецца зараз галоўнай небясьпекай, і меншавіцтвуючага ідэалізму, у барацьбе супроць розных адхіленьняў у бок правага альбо „левага“ опортунізму ў кожны асобны момант сваёй дзейнасьці—ТВМДБ будзе праводзіць сваю працу, каб поўнасьцю апраўдаць ускладзеныя партыяй абавязкі на філёзофаў марксыстаў-ленінцаў.

В. Самцэвіч

# У новых умовах — працаваць па-новаму

Прамова т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў 23 чэрвеня мае гістарычнае значэньне ня толькі ў сэнсе карэннай перабудовы работы і кіраўніцтва ў прамысловасьці, але і ў іншых галінах народнае гаспадаркі, а таксама і ў навукова-дасьледчай працы. Асноўны сэнс, сутнасьць прамовы т. Сталіна заключаецца ў тым, што ў новай абстаноўцы, у новых умовах разьвіцьця нашага соцыялістычнага будаўніцтва трэба карэнным чынам зьмяніць мэтоды працы і формы кіраўніцтва.

У краязнаўчай працы, як масавай навукова-дасьледчай працы, якая павінна быць цесна і непасрэдна зьвязанай з практыкай нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў розных яго галінах, за апошні год мы маем пэўныя дасягненьні: некаторае набліжэньне краязнаўства да абслугоўваньня задач соцыялістычнага будаўніцтва, выкрыцьцё і рашучая барацьба з ідэолёгіяй і мэтодолёгіяй нацдэмаўскага краязнаўства, рэорганізацыя структуры краязнаўчых організацый (па вытворчаму прынцыпу) і інш. Але гэтага мала. Краязнаўчую працу трэба карэнным чынам перабудаваць у адпаведнасьці з тымі вялізарнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, якія пастаўлены партыяй перад рабочай клясай і ўсімі працоўнымі масамі СССР і той магутнай творчай актыўнасьцю гэтых мас, якая выклікана посьпехамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва. У якім-жа напрамку павінна ісьці перабудова краязнаўчай працы, мэтодаў і кіраўніцтва гэтай працай? У нас яшчэ ня ўсе краязнаўчыя організацыі сталі на шлях сапраўднага савецкага краязнаўства, не павярнулі тварам да актыўнага ўдзелу і змаганьня за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за выкананьне актуальнейшых задач, якія стаяць на чарзе дня (вывучэньне прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў, вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі, організацыі працы ў колгасах і г. д.). Краязнаўства, яго мэты і задачы не популярызаваны яшчэ належным чынам на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах. Краязнаўчую працу трэба неадкладна перанесьці на фабрыкі і заводы, у колгасы, саўгасы, МТС. Трэба не кампанейскі, не ад выпадка к выпадку, а плянамерна, сыстэматычна і ўпарта весьці популярызацыю савецкага краязнаўства сярод рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас, вучнёўскай моладзі і працоўнай інтэлігенцыі, змагаючыся з опортуністычнай недаацэнкай краязнаўства ў справе соцыялістычнага будаўніцтва з боку паасобных гаспадарнікаў, профсаюзных організацый і г. д. У мэтах популярызацыі савецкага краязнаўства трэба выкарыстаць мясцовы друк, насьценгазэты, вытворчыя нарады, справаздачныя сходы па выкананьню прамфінпляну і інш., але

трэба памятаць, што найлепшая пропаганда — гэта паказ конкрэтных вынікаў працы. Трэба лічыць ненормальным, што да гэтага часу БДзВ і ЦБК нічога ня зроблена ў справе выданьня масавай популярнай літаратуры аб савецкім краязнаўстве. Гэты прабел трэба хутчэй запоўніць.

Большасьць краязнаўчых організацый працуе яшчэ бясплянава: няма ня толькі пэрспэкцыйных, але і гадавых плянаў (за выключэньнем часткі больш моцных організацый), тэмы і зьмест працы ня ўвязаны органічна з плянамі гаспадарчых і плянуючых ўстаноў і організацый. Задача ўсіх краязнаўчых організацый зьнізу да верху—неадкладна перайсьці да плянавай і сыстэматычнай працы, прычым пляны краязнаўчай працы павінны быць органічнай сустаўной часткай вытворчых плянаў адпаведных ўстаноў і організацый (райвыканкому, райколгассаюзу, фабрыкі, заводу, савгасу, колгасу і г. д.) Пляны павінны быць рэальны, конкрэтны і сваечасова выконвацца.

Прамовай т. Сталіна пастаўлен цэлы шэраг зусім новых актуальнейшых тэм для навукова-дасьледчай працы, распрацоўкай якіх павінны заняцца ўсе краязнаўчыя організацыі, асабліва ячэйкі на фабрыках і заводах. Такімі актуальнымі тэмамі для дасьледваньня ў мэтах найлепшага іх практычнага ажыцьцяўленьня зьяўляюцца:

а) організаваны набор рабочай сілы для прамысловасьці ў парадку дагавароў з колгасамі. Краязнаўчыя організацыі павінны вывучыць гэта пытаньне на вопыце лепшых прадпрыемстваў і паказаць найлепшыя формы і мэтоды вярбоўкі рабсілы для перанясеньня іх у іншыя прадпрыемствы;

б) мэханізацыя найбольш цяжкіх процэсаў працы (асабліва ў такіх галінах вытворчасьці як лясная прамысловасьць, будаўніцтва, транспорт, пагрузка-выгрузка і інш.) і павялічэньне ў сувязі з гэтым тэмпаў і маштабаў вытворчасьці;

в) замацаваньне за прадпрыемствамі і цэхамі сталага складу кваліфікаваных рабочых і ліквідацыя цякучасьці рабочай сілы шляхам зьнішчэньня ўраўнілаўкі, правільнай організацыі зарплаты, палепшаньня бытавых умоў рабочых і інш.;

г) найлепшыя спосабы організацыі і расстаноўкі рабочай сілы на прадпрыемстве і ліквідацыя абязьлічкі;

д) падрыхтоўка і выхаваньне вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочае клясы і выкарыстаньне адданых справе пролетарыяту інжынэрна-тэхнічных сіл старой школы;

е) укараненьне і ўмацаваньне гаспадарчага разьліку і ўнутрыпрамысловага накапленьня.

Узяўшы выразна і яскрава пастаўленую тэму (напр.: „Як наша фабрыка (завод) ажыцьцявіла ўказаньне т. Сталіна аб організаваным наборы рабочай сілы“, „Расстаноўка рабочай сілы і ліквідацыя абязьлічкі на нашай фабрыцы“ і г. д.), краязнаўчыя організацыі павінны ўсебакова вывучыць гэта пытаньне на конкрэтным прадпрыемстве разам з рабочымі гэтага прадпрыемства і навукова абгрунтаваць патрэбнасьць, напр., ліквідацыі абязьлічкі і правільнай сталай расстаноўкі рабочых у станкоў. Дасьледчая праца краязнаўчых організацый павінна выявіць найлепшыя мэтоды і формы ажыцьцяўленьня новых задач, якія пастаўлены перад прамысловасьцю і выцякаюць з новых гаспадарча-політычных умоў, і паказаць узорныя фабрыкі, заводы, цэхі, якія па-бальшавіцку справіліся з гэтымі новымі задачамі, іх вопыт, які мог-бы быць выкарыстан іншымі прадпрыемствамі.

Рабочыя, колгасьнікі, батракі і бядняцка-серадняцкія масы ў краязнаўчыя організацыі ня ўцягваліся, па-першае, таму што гэта фактычна і не ўваходзіла ў задачу нацдэмаўскага кіраўніцтва, а па-другое, самі працоўныя масы ня былі зацікаўлены краязнаўствам, якое было чужой і незразумелай для іх справай. Зараз, калі контррэволюцыйны нацдэмократызм разгромлен і ў краязнаўстве зроблен рашучы паварот у бок поўнага падпарадкаваньня яго задачам будаўніцтва соцыялізму і барацьбы за генэральную лінію партыі, намеціўся і пэўны зрух у паляпшэньні соц. складу краязнаўчых організацый. У краязнаўчыя рады ўжо ідзе рабочы, колгасьнік, рабселькор. Яны непасрэдна зьвязаны з вытворчасьцю. Продукцыя іх краязнаўчай працы пакуль яшчэ рэдка выяўляецца ў друкаваных працах (што зьяўлялася асноўным крытэрыем для ацэнкі краязнаўчай працы ў мінулым), затое новыя краяведы ад варштату выступаюць з сваімі прапановамі аб рацыяналізацыі працы, сродках павялічэньня продукцыйнасьці працы і г. д. на вытворчых нарадах, шлюць свае прапановы ў рэдакцыю „Савецкай Краіны“ і г. д. Аднак, становішча з уцягненьнем у краязнаўчую працу новых кадраў, ня гледзячы на ўсю важнасьць гэтага пытаньня, яўна нездавальняючае. У цэлым шэрагу раёнаў у справе перабудовы і разгортваньня краязнаўчае працы абсолютна нічога ня зроблена. На практыцы праяўляецца опортунізм, недаацэнка масавай дасьледчай працы ў соцыялістычным будаўніцтве. У краязнаўчым руху наглядаецца самацёк, адсутнасьць належнага кіраўніцтва ў раёнах. Уцягненьне новых кадраў у краязнаўчую працу трэба організаваць пановаму, катэгорычна адмовіўшыся ад старых мэтодаў. Разгортваючы краязнаўчую сетку па вытворчаму прынцыпу (фабрыка, колгас, МТС, савгас), мы пры організацыі краязнаўчых ячэек павінны разьлічваць і апірацца на пэўныя вытворчыя колектывы (брыгады), ставячы перад імі задачы масавай дасьледчай працы, непасрэдна зьвязаныя з выкананьнем вытворчага пляну іх брыгады, цэху, прадпрыемства. Пры організацыі нізавых краязнаўчых ячэек павінна быць праведзена надзвычайна вялікая гібкасьць, адкінут непатрэбны формалізм. Трэба помніць, што да таго часу, пакуль мы працу краязнаўчых ячэек ня зможам органічна ўвязаць з іх вытворчай практыкай, мы ня зможам шырока разгарнуць краязнаўчую працу на прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыемствах. У мэтах замацаваньня новых краязнаўчых кадраў трэба ўвесьці ў сыстэму прэміяваньне лепшых краязнаўчых ячэек і паасобных краяведаў (па лініі гаспадарчых органаў, ВСНГ, Колгасцэнтру і ЦБК), высоўваць лепшых краяведаў на працу ў навукова-дасьледчыя ўстановы і інш., трэба наогул стымуляваць пашырэньне і паглыбленьне краязнаўчай працы, трэба стварыць зацікаўленасьць гэтай працай. Трэба, урэшце, дамагчыся, каб краязнаўчая праца залічвалася як патрэбная грамадзкая праца і каб актыўныя краяведы былі вызвалены ад шэрагу іншых грамадзкіх абавязкаў, якія не даюць магчымасьці працаваць у галіне дасьледчае працы.

Падвышэньне кваліфікацыі краяведаў—адна з асноўных і неадкладных задач. Краязнаўчыя экскурсіі, камандыроўкі, лекцыі, даклады, краязнаўчыя курсы, габінэты, радыё-курсы, завочныя курсы (ужо існуюць пры ЦБК РСФСР)—вось тыя шляхі, якія трэба выкарыстаць зараз-жа ў мэтах падвышэньня кваліфікацыі краязнаўчых кадраў. Адначасова з гэтым трэба значна пашырыць выданьне популярнай мэтодычнай літаратуры (асобнымі брошурамі).

Што да старых краязнаўцаў, дык тыя з іх, якія цалкам пераключыліся на рэйкі новага савецкага краязнаўства і якія прымаюць

актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, павінны быць шырока выкарыстаны ў краязнаўчай працы з іх практычным вопытам у навукова-дасьледчай працы, які ў процэсе колектыўнай працы павінен быць перададзены маладым пачынаючым краязнаўцам.

Нам трэба неадкладна зьмяніць мэтоды краязнаўчай працы, ад кустарнай адзіночнай працы над выпадкова ўзятымі тэмамі перайсьці да колектыўнай (брыгаднай) сыстэматычнай і плянавай працы над актуальнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва павінны быць пакладзены ў аснову працы ўсіх краязнаўчых організацый, чаго мы ў сучасны момант ня маем. Рашучым чынам мы павінны павесьці барацьбу супроць абязьлічкі ў краязнаўчай працы, супроць безадказнасьці за выкананьне плянавых заданьняў па навукова-дасьледчай працы. Нам трэба так паставіць працу, каб кожны член краязнаўчай організацыі нёс поўную адказнасьць за своечасовае і належнае выкананьне даручанай яму працы. Разам з тым трэба забясьпечыць максымальную мэтодычную дапамогу пачынаючым краязнаўцам з боку райбюро, ЦБК і адпаведных спэцыяльных навукова-дасьледчых устаноў. Трэба шырока разгарнуць крытыку і самакрытыку ў краязнаўчых організацыях.

Барацьба за пролетарскую навуку, за марксыцка-ленінскую мэтодолёгію ў краязнаўчай працы—адна з найважнейшых задач усіх краязнаўчых організацый. Асабліва вялікую ролю ў гэтым павінна адыграць т-ва марксыстаў-краязнаўцаў, якое ў хуткім часе павінна быць організавана.

У сучасны момант раён зьяўляецца асноўным вузлавым зьвяном у соцыялістычным будаўніцтве. Тут павінна быць належным чынам разгорнута і масавая навукова-дасьледчая праца (краязнаўчая праца). Пад гэту працу трэба падвесьці і належны матар'яльны фундамант. Ужо ў гэтым годзе мы павінны паставіць пытаньне, каб у кожным раёне ў каштарысным парадку былі адпушчаны сродкі на аплату аднаго платнага працаўніка ў раённым бюро краязнаўства і некаторыя сродкі (мінімум 500 руб.) на навукова-дасьледчую працу, організацыю і папаўненьне музэю.

Вось бліжэйшыя задачы, якія стаяць перад намі ў справе разьвіцьця краязнаўчага руху ў новых умовах, устанаўленьня органічнай сувязі і падпарадкаваньня краязнаўчай працы задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

---

**Н. Дарожкін**

# Кароткія вынікі абсьледваньня хвароб бульбы ў 14-ці раёнах БССР

Усім вядома, што хваробы расьлін прыносяць вялізарную шкоду народнай гаспадарцы, зьніжаючы ўраджайнасьць сельска-гаспадарчых расьлін. Сярод сельска-гаспадарчых культур клубянёвыя — караньплоды асабліва выдзяляюцца ў сэнсе наяўнасьці align="" рознародных захворваньняў. Возьмем збажыну — ім хваробы, галоўным, чынам шкодзяць да збору ўраджаю, пасьля збору яны ня так уплываюць на зьнішчэньне ўраджаю, зусім іншая справа з каранёвымі клубняплодамі.

Бульба-ж па наяўнасьці рознародных захворваньняў займае адно з першых месц сярод сельска-гаспадарчых культур. Большасьць захворваньняў бульбы характэрна тым, што яны шкодны ня толькі да збору, але, галоўным чынам, пасьля збору ўраджаю. Возьмем, напрыклад, чорную ножку, фітафтору і рад іншых захворваньняў, якія асабліва значную могуць прынесьці шкоду пасьля збору ў складах, калі ня будуць выкананы адпаведныя правілы ў часе збору.

Цяпер зусім своячасна высунуць лёзунг — соцыялістычнае земляробства без хвароб,— над выкананьнем гэтага лёзунгу і павінна працаваць навуковая думка ў галіне аховы расьлін.

Для ліквідацыі шкоднага ўплыву грыбных захворваньняў трэба перш за ўсё ведаць, што з сябе прадстаўляе гэта захворваньне і ў якіх разьмерах яно пашырана, агульныя біолёгічныя ўмовы разьвіцьця,— ня ведаючы гэтых ўмоў мы ня зможам правільна арганізаваць барацьбу. І таму пачынаючы з 1931 году Інстытут аховы расьлін зусім правільна стаў на шлях выпрацоўкі сыстэмы мерапрыемстваў па ліквідацыі паасобных захворваньняў у соцыялістычным сэктары сельскае гаспадаркі.

У адносінах да галаўні, напрыклад, ён ставіць задачу — на працягу трох год ліквідаваць галаўню ў соцсэктары. Спроба ў гэтай галіне зроблена таксама і ў адносінах да бульбяных захворваньняў, але сыстэмы мерапрыемстваў, трэба прызнаць, яшчэ няма, хоць некаторыя спробы ў гэтай галіне былі зроблены на першай Усесаюзнай нарадзе па бульбе ў 1931 г. Выпрацаваць-жа сыстэму мерапрыемстваў па ліквідацыі бульбяных захворваньняў і зьдзейсьніць на практыцы без карантынных мерапрыемстваў ні ў якім разе немагчыма, бо карантынныя мерапрыемствы павінны зьяўляцца часткаю агульнай плянавай дзяржаўнай сыстэмы па ліквідацыі паасобных захворваньняў.

Справа ў тым, што агульная сыстэма мерапрыемстваў, галоўным чынам, зьвяртае ўвагу на ліквідацыю пашыраных захворваньняў у данай краіне, рэспубліцы і г. д. Карантынныя-ж мерапрыемствы ставяць сабе

задачай недапушчэньне найбольш небясьпечных шкоднікаў з раёну, дзе яны пашыраны, у раёны, дзе іх няма, а таксама з рэспублікі ў рэспубліку і з-за межаў у Савецкі саюз.

Такім чынам наша задача ня толькі ліквідаваць магчымасьці завозу бульбяных захворваньняў з-за межаў, але таксама ня даць магчымасьці распашырыцца тым захворваньням, якія экономічна шкодны, якіх няма ў тым ці іншым раёне, а ў іншым ёсьць. Але ўстанавіць гэтыя мерапрыемствы і праводзіць іх у жыцьцё нельга без адпаведнага абсьледваньня, якое можа ўказаць раён распаўсюджаньня карантынных шкоднікаў.

Што належыць да абсьледваньня бульбы з мэтаю дзяржаўнага карантыну, дык яно праводзілася ўпяршыню ў СССР, і таму асобам, якія кіравалі абсьледваньнем, прышлося ўсю мэтодыку выпрацоўваць самастойна, без дапамогі літаратурных даных, паколькі гэткіх ня было. Справа ў тым, што гэта абсьледваньне можа называцца ня толькі першым у Саюзе, але і першым у сьвеце, таму што плянавага абсьледваньня ў капіталістычных дзяржавах не рабілася, ды і не магло рабіцца, паколькі плянавасьць уласьціва толькі соцыялістычнай сыстэме.




Да абсьледваньня было прыцягнута 20 студэнтаў Менскага садова-гароднага інстытуту. Усе сутдэнты былі прапушчаны праз двухтыднёвыя курсы, на якіх яны пазнаёміліся з найбольш пашыранымі захворваньнямі на бульбе. Такім чынам, усе ўдзельнікі былі ўжо даволі знаёмы з тым, каб знайсьці і вызначыць карантынных шкоднікаў, а таксама і/нагул распашыраныя захворваньні на бульбе.

Удзельнікі абсьледваньня былі падзелены на 7 брыгад, у кожнай брыгадзе быў старшы брыгадзір. Брыгадзе было дана цьвёрдае заданьне. Сярод усіх брыгад была заключана ўмова па соцспаборніцтву і ўдарніцтву. Між іншым, ва ўсіх брыгадах было 50 проц. партыйнага комсамольскага складу; такім чынам, была забясьпечана ня толькі спэцыяльная частка, але таксама і партыйная, і ўдзельнікі абсьледваньня былі ня толькі тэхнічна-пісьменнымі, але і політычна — усё гэта мела асабліває значэньне, паколькі абсьледваньне рабілася ў пагранічных раёнах. Маршрут абсьледваньня быў узяты па пагранічных раёнах БССР з Польшчай. На карце № 2 прадстаўлены ўсе раёны з Польшчай, але паколькі ўвесь раён ахапіць у такі кароткі тэрмін сіламі 20 студэнтаў было тэхнічна немагчыма, дзеля таго ўзяты ўсе пагранічныя сельсаветы гэтых раёнаў, а ў некаторых мясцох былі ахоплены і цалкам

раёны. У пагранічных сельсаветах было зроблена суцэльнае абсьледваньне бульбы як у саўгасах, колгасах, так і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Абсьледваньнем былі ахоплены раёны, пачынаючыя з поўдня ад Жыткавіч і канчаючы поўначчу—Асьвея. Брыгады былі разьбіты так, каб адначасна магчыма было ахапіць усе пагранічныя раёны—гэта неабходна для вывучэньня распаўсюджаньня захворваньня ў залежнасьці ад розных глебава-кліматычных умоў раёну. Хібаю гэткай разь-

РАСПАЎСЮДЖАНЬНЕ НЕКАТОРЫХ ХВАРОБ БУЛЬБЫ *)
ПА С/С ЧАТЫРНАЦЦАЦІ РАЁНАЎ Б.С.С.Р
(ФІТОФТОРА -·-·-, ЧОРНАЯ НОЖКА ——, РАНЬНЯЯ ПЛЯМІСТАСЬЦЬ ·······, ЗВЫЧАЙН ПАРША •••••)

біўкі было тое, што кіраваць 7-ю брыгадамі было вельмі цяжка. Кіраўніцтва ўсёй фітопатолёгічнай часткай абсьледваньня належала мне і майму памоцніку тав. А. С. Роўдо, энтомолёгічная-ж часткa—тав. Лабкоўскаму—прадстаўніку карантыннага кіраўніцтва А. Б. Ш.

Умовы надвор'я ў часе абсьледваньня былі далёка няспрыяльныя, па некаторых раёнах дажджлівых дзён даходзіла да 50 проц.; але, ня гледзячы на ўсе няспрыяльныя ўмовы, удзельнікі абсьледваньня праводзілі сваю работу з тым, каб не адставаць адзін ад аднаго, каб выканаць і перавыканаць сваё заданьне згодна соцумовы. Трэба адзначыць вельмі добрасумленныя адносіны ўдзельнікаў абсьледваньня да ўскладзеных на іх задач.

*) На крывой па Магільянскаму с/с. надрукавана: чорнай ножкі 38% трэба чытаць 3,8%—Н. Д.

Цяпер — што зроблена. Абсьледвана 14 раёнаў БССР, у іх 45 сельсаветаў, 495 савгасаў, колгасааў і вёсак, 7.361 га і выкапана 124.190 кустоў, ня лічачы Менскага раёну; у раёне Менску было абсьледвана да 700 га. Такім чынам заданьне — 8.000 выканана, паўтараю, ня гледзячы на няспрыяльныя ўмовы надвор'я ў часе абсьледваньня.

Цяпер пераходжу да характарыстыкі паасобных захворваньняў, якія былі выяўлены ў часе абсьледваньня.

На табліцы № 2 прадстаўлены галоўнейшыя захворваньні як-та: фітафтора, чорная ножка, раньняя плямістасьць і звычайная парша. Пачынаючы з поўдня ад Украіны і канчаючы поўначчу—Латвія тут вось у гэтых частках (табл. № 1) адзначаны раёны і сельсаветы, у якіх адбывалася абсьледваньне.

Калі мы возьмем фітафтору, умовы для разьвіцьця якой на Беларусі найбольш выгодныя, дык яна тут трапляецца ў вялікай коль-



Пухірэста-чорная—хвароба сьцяблоў бульбы.

касьці ў залежнасьці ад глебавых і кліматычных умоў; у раёнах сумежных з Украінай, дзе клімат найбольш сухі і менш за ўсё было дажджоў, фітафтора мае, як бачым, нязначнае распаўсюджаньне, тут менш яе, чым, напрыклад, у Капыльскім раёне, дзе глеба моцна падзолістая, найбольш з ўсё было ападкаў у ліпні і жніўні месяцах, менш за ўсё было ясных дзён і таму, зразумела, умовы былі найбольш выгодныя для разьвіцьця фітафторы. Такую-ж законамернасьць мы наглядаем і пры разглядзе іншых раёнаў.

Калі мы возьмем чорную ножку, дык тут пабачым роўнамернае распаўсюджаньне па ўсіх раёнах БССР, 5 проц. З гэтай табліцы відаць, што для некаторых раёнаў БССР чорная ножка мае магчыма большае значэньне, чым фітафтора.

Трэба адзначыць, што ў гэтым годзе асабліва значна ў БССР пашырана звычайная парша, галоўным чынам на белаклубянёвых

гатунках, прычым найбольшы процант паршы мы наглядаем у паўднёвых раёнах, як Жыткавічы, Тураў.

Цяпер некалькі слоў аб выяўленай новай хваробе сьцяблоў бульбы, якая ў СССР яшчэ нікім не апісана. Гэта хвароба сьцяблоў бульбы ўпяршыню была адзначана мною ў 1930 годзе на беларускай бульбяной станцыі, але распаўсюджаньне яе было нязначнае, і дзеля таго на яе ня было зьвернута асаблівае ўвагі. У 1931 годзе хвароба гэта прыняла большыя разьмеры і прымусіла зьвярнуць на сябе ўвагу. Знадворныя азнакі яе гэткія: на сьцяблох бульбы зьяўляюцца белыя пухірыкі, якія ідуць радком удоўж сьцябла. Праз некаторы час гэтыя пухірыкі лопаюцца і на месцы іх утвараюцца шклавідна-жоўтыя плямы, якія (плямы) паступова прымаюць больш цёмную афарбоўку і потым зусім чарнеюць, адначасна захопліваючы большую і большую частку сьцябла. Хвароба таксама пераходзіць і на лісьці, прычым яны сохнуць і набываюць выгляд нібы пашкоджаных фітафторай. (Глядзі малюнак 3).

Апроч бульбянай станцыі гэта хвароба была выяўлена ў БССР у часе абсьледваньня 1931 году ў Койданаўскім раёне і ваколіцах Менску. Падобнае захворваньне, як мне вядома па літаратурных даных, у СССР і заграніцай яшчэ нікім не апісана. Хвароба гэта, як відаць, бактэрыяльнага паходжаньня. Часова, думаю, магчыма ёй даць назву *пухірчата-чорная хвароба сьцяблоў бульбы.*

Зроблены ўлік гэтай хваробы на трох гатунках бульбянай станцыі ў розныя часы дае наступнае:

| Назва гатунку | 10 жніўня | 23 жніўня | 11 верасьня |
|---|---|---|---|
| 1. Парнасія . . . . . | 22% | не рабіл. | 97% |
| 2. Вольтман . . . . . | не рабіл. | 15% | 47% |
| 3. Юбель . . . . . . | „ | 40% | 85% |

11 верасьня яна была адзначана і на Сьвіцязі з пашкоджаньнем 5,3 проц. Улік быў зроблены асыстэнтамі А. С. Роўдо, таксама тав. Роўдо прымаў удзел і ў вывучэньні яе.

Як відаць, пухірчата-чорная хвароба сьцяблоў бульбы можа быць экономічна шкодна, дзеля таго зараз трэба мобілізаваць увагу вучоных Саюзу на ўсебаковае вывучэньне яе.

У дзень майго ад'езду ў Маскву было знойдзена тры клубяні бульбы, якія, відаць, былі пашкоджаны грыбком Pythyum debarianum, хоць сьцвярджаць гэтага не бяруся, бо ўсебакова не правяраў, раней-жа гэткага характару захворваньня ў БССР не спатыкалася.

Цяпер далей, у ваколіцах Менску ў нязначнай колькасьці выяўлена краёвае скручваньне лістоў бульбы, у іншых раёнах гэтага спатыкаць ня прыходзілася. Што належыць да мозаічных захворваньняў, дык па асобных відах улік не рабіўся, я рабіў агульны ўлік усіх відаў гэтай групы, гэты процант паданы ў раённай зводцы.

Колцавая гніліна зарэгістравана ў Полацкім, Узьдзенскім і Койданаўскім раёнах.

Жалезістая плямістасьць трапляецца ў раёнах Менску, Турава, Заслаўля і Полацку. У нашу задачу, як вядома, галоўным чынам, уваходзіла выяўленьне карантынных шкоднікаў — бульбянога рака,

парашыстай паршы і колорацкага жучка. Бульбянога рака і колорацкага жучка па абсьледваных раёнах выяўлена ня было, парашыстай паршы таксама, апроч бульбяной станцыі, мы нідзе ня выявілі.

Па ўсіх сабраных мною матар'ялах відавочна парашыстая парша была завезена ў Беларусь у 1925-26 гг. з клубянямі і там яна пачала распаўсюджвацца. Раней я меркаваў, што ў іншых раёнах яна ня можа быць, цяпер пасьля абсьледваньня прыходзіцца яшче раз адзна-



Краёвае скручваньне лістоў бульбы.

чыць, што ў іншых раёнах, апроч Менску, парашыстай паршы няма. Такім чынам, адным з небясьпечных пунктаў у сэнсе далейшага распаўсюджаньня парашыстай паршы зьяўляецца бульбяная станцыя, дый ня толькі парашыстай паршы, але іншых захворваньняў. Гэта тлумачыцца тым, што дасьледчыя станцыі і бульбяны інстытут ня выконвалі і ня выконваюць элемэнтарных карантынных правіл і таму, на вялікі жаль, яны зьяўляюцца распаўсюджвацелямі заразы па СССР.

На падставе ўсяго вышэйсказанага можна зрабіць наступны вывад па матар'ялах абсьледваньня бульбы БССР. Беларуская бульбяная станцыя зьяўляецца месцам і пунктам распаўсюджаньня новых захворваньняў па БССР, а іншыя станцыі — па іншых рэспубліках і краінах. Дзеля таго неабходна разглядзець увесь матар'ял у першую чаргу на беларускай бульбянай станцыі, а таксама і іншых на заражэньне карантыннымі шкоднікамі. Неабходна зараз-жа выдаць пастанову аб абавязковай організацыі карантынных вучасткаў пры ўсіх сельска-гаспадарчых дасьледчых навуковых установах. Неабходна забараніць усім навукова-дасьледчым установам пераброску заражаных карантыннымі шкоднікамі ўзораў бульбы для дасьледчых мэт у іншыя месцы без спэцыяльнага дазволу на гэта карантыннага кіраўніцтва АБШ, а вінаватых у гэтым прыцягваць да адказнасьці, як гэта робіцца ў іншых дзяржавах.

Апроч таго пры абсьледваньні выяўлена, што ня робіцца прагляду клубянёў у часе апробацыі бульбы, і такім чынам, заражаны можа карантынным шкоднікам матар'ял прымаецца за добраякасны, дзеля таго патрэбна ўвесьці пункт у інструкцыю аб абавязковым паклубянёвым праглядзе ў часе апробацыі пасадачнага матар'ялу, і толькі пасьля таго даваць пашпарт на годнасьць бульбы, як насеннага матар'ялу.

Таксама цяпер-жа неабходна заняцца ўсебаковым вывучэньнем новай, знойдзенай намі хваробы — тут, як і паўсюды, адзін чалавек ня можа справіцца,—колектыўнасьць пры разьвязаньні гэтага пытаньня павінна быць на першым пляне.

На гэтым я сканчваю папярэднюю далёка няпоўную справаздачу абсьледваньня. Увесь матар'ял знаходзіцца яшчэ ў стадыі апрацоўкі. Яшчэ не апрацаваны матар'ял распаўсюджаньня хвароб у залежнасьці: ад розных гатункаў бульбы, ад розных угнаеньняў, ад папярэдніх культур, а таксама перавагі колектыўнага земляробства, хоць папярэдні аналіз апошняга пытаньня характарызуе з усёй відавочнасьцю перавагу колгасаў перад індывідуальным сэктарам у сэнсе найменшае наяўнасьці рознага роду захворваньняў у колгасах, чым у індывідуальных гаспадарках.

———

У справе вывучэньня апісаных намі хвароб бульбы, асабліва карантынных, краязнаўчыя гурткі могуць зрабіць большую дапамогу і Белар. бульбянай станцыі, і Інстытуту біолёгічных навук БАН. Хваробы бульбы вывучаць магчыма ня толькі ў полі, але і ў сховах.

А. Рэдэр

# Становішча вывазной сыстэмы ў горадзе Менску да пуску каналізацыі

Пуск каналізацыі ў горадзе Менску 15 мая 1930 г. зьяўляецца буйнейшым фактарам у справе аздараўленьня гораду Менску. Гэта здарэньне павінна паслужыць штурхачом для перабудовы і перапляноўкі гораду на пачатках культурнай рэволюцыі. Стары Менск з сваімі вузенькімі, бруднымі вуліцамі і завулкамі, невялічкімі дворыкамі, з вялізнай колькасьцю паглынальных студняў, якія яго прасьвідравалі ўдоль і ўпоперак, з нязьлічонай колькасьцю драўляных выграбаў і памыйных скрынак, якія дапускаюць пераход нячыстот у глебу, чаму яшчэ больш дапамагае рэдкі вываз нячыстот поўнасьцю да дна, з прычыны малай ёмкасьці асанізацыйнага абозу, гэты Менск павінен быць нанова перапланаваны, перабудаваны і аздараўлёны. Наступныя даныя працы асабозу на працягу 5 гадоў, з 1925—30 г. у параўнаньні з колькасьцю награмоджаных нячыстот, вылічаных, згодна прынятых норм на 1 чалавека, на ўсё насельніцтва гораду Менску за тыя-ж гады паказваюць з дастатковай вызначанасьцю і рэльефнасьцю становішча вывазкі нячыстот да пуску каналізацыі і якія ў вядомай ступені маюць падобнасьць з данымі, атрыманымі доктарам Казанскай за 1924-25 г.[1]).

Табліца № 1.

| За які тэрмін | Колькасьць | | | Колькасьць у кубічных м. | | | | Колькасьць | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Зваротаў 1 бочкі | | | Зваротаў 1 павозкі | | |
| | Коняй | Бочак | Фурманак | Зваротаў | Вывезена вадкіх нячыстот за год | Зваротаў фурманак за год | Вывезенага сьмяцьця за год | За год | За месяц | За дзень | За год | За месяц | За дзень |
| 1925/26 | 55 | 26 | 11 | 45814 | 28175 | 18843 | 11435 | 1762 | 147 | 5 | 1713 | 142 | 4 |
| 1926/27 | 54 | 29 | 11 | 34981 | 21513 | 16418 | 9962 | 1206 | 100 | 3 | 1492 | 124 | 4 |
| 1927/28 | 56 | 17 | 6 | 39073 | 24029 | 14307 | 8682 | 2298 | 191 | 6 | 2384 | 198 | 6 |
| 1928/29 | 53 | 18 | 4 | 41538 | 25545 | 8839 | 5364 | 2308 | 192 | 6 | 2209 | 184 | 6 |
| 1929/30 | 99 | 33 | 15 | 25555 | 15716 | 5200 | 3200 | 774 | 129 | 4 | 348 | 58 | 2 |

[1]) В. В. Казанская. Водоснабжение и канализация г. Минска. Белорусск. Медиц. Мысль № 2-3, 24 г.

Табліца № 2.

| За які тэрмін | Колькасьць насельніцтва | Колькасьць у кубічных мэтрах | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Вывезеных вадкіх нячыстот | Вадкіх нячыстот, якія падлягі. вывазу | Нявывезеных вадкіх нячыстот | Вывезеных сухога і мокрага сьмяцьця | Сухога і мокрага сьмяцьця, якое падлягала вывазу | Ня вывезенага сухога і мокрага сьмяцьця |
| 1925/26 | 126257 | 28175 | 63128 | 34952 | 11435 | 750468 | 739033 |
| 1926/27 | 131528 | 21513 | 65764 | 44250 | 9963 | 781802 | 771835 |
| 1927/28 | 136890 | 24029 | 68445 | 44415 | 8682 | 813672 | 804989 |
| 1928/29 | 142079 | 25545 | 71039 | 45493 | 5364 | 844515 | 839151 |
| 1929/30 | 147555 | 15716 | 36889 | 21173 | 3200 | 438512 | 435311 |

Табліца № 3.

| За які тэрмін | Брушны тыфус | | Паратыфус | |
|---|---|---|---|---|
| | У безадносных лічбах | У адносных лічбах | У безадносных лічбах | У адносных лічбах |
| 1925 | 62 | 5,2 | — | — |
| 1926 | 75 | 5,9 | — | — |
| 1927 | 101 | 7,7 | 3 | — |
| 1928 | 149 | 11,4 | 18 | 1,3 |
| 1929 | 195 | 13,3 | 276 | 19,7 |
| 1930 | — | — | — | — |

Увага. 1) Колькасьць зваротаў бочак і фурманак і колькасьць вывезеных нячыстот вылічана па 1/V-30 г.

2) Аб'ём аднэй бочкі — 50 вядзёр, аб'ём аднэй калымагі—$^1/_{16}$ кубічн. саж.

3) Нормы вадкіх нячыстот і сьмяцьця ўзяты намі з правіл, выпрацаваных спэцыяльнай камісіяй пры сталым Бюро Ўсесаюзных вадаправодных і санітарнатэхнічных зьездаў і прынятых Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР (бюлетэнь СНКБ № 10 (69)—29 г.). Згодна гэтых норм на аднаго чалавека ў год падае: 34 кілёграмы=0,04 куб. мэтра фэкальных мас, 482 кілёграмы=0,46 куб. мэтра мачы, 15 літраў=0,0154 куб. мэтра (у суткі)—памыяў, 190 кілеграм=0,4 куб. мэтра сьмяцьця. Паводле профэсара Хлопіна на 1 чалавека падае ў год: 33 кілёграмы фэкальных мас, 438 кілёграм мачы, 36.000 кілёграм памыяў і 230 кілёграм сьмяцьця.

Трэба адзначыць, што ўсякія нормы залежаць ад характару залюднёнага месца, бытавых і эканомічных умоў насельніцтва, яго заняткаў, комунальнага дабрабыту, клімату і інш.

Аналізаваўшы матар'ял, які выкладзены ў табліцах № 1 і 2, бачым, што асабоз да 1929/30 году ня рос, а даваў рознага разьмеру ўхіленьні ў бок зьніжэньня. Параўнальныя даныя табліцы № 2 паказваюць, што штогодна асабоз пакідаў ад 34.000 да 45.000 куб. мэтраў вадкіх нячыстот і ад 700.000 да 800.000 куб. мэтраў мокрага і сухога сьмяцьця ў круглых лічбах нявывезенымі.

Якую небясьпеку ў эпідэміолёгічных адносінах прадстаўляе пакіданьне ў горадзе нячыстот і сьмяцьця, добра відаць з літаратуры.

Профэсар Хлопін у сваім курсе агульнай гігіены кажа: „Экскременты содержат в одном грамме до 380 миллионов зародышей; в том числе в них находятся и патогенные.“

„1 куб. сантиметр помоев из парижских прачешных содержит 25—40 миллионов зародышей; среди них могут находиться и патогенные микробы: брушного тифа, холеры, гнойные, дифтеритные, туберкулезные и др., попадающие в воду при мытье белья, а также тела в банях, в ванных, с кожи и отчасти (у детей) с калом и мочей“ (стар. 173). Значыцца, гэткае катастрофічнае палажэньне, у якім горад Менск апынуўся да пуску каналізацыі, гаворыць за тое, што з будоўляй каналізацыі спазьніліся на значны час. Наяўнасьць вялікага ліку паглынальных студняў, якія ачышчаліся неакуратна, наяўнасьць прапушчальных драўляных выграбаў і памыйных ям, нязначная колькасьць асабозу і яго зваротаздольнасьці—усё гэта за рад гадоў, калі штогодна ў горадзе пакідалася нявывезенай буйная колькасьць нячыстот, павінна было адбівацца на санітарным становішчы гораду. Даныя захворваньняў заразьлівымі хваробамі па гораду Менску за рад гадоў (гл. табліцу № 3), якая паказвае няўхільны рост і даныя хэміка-бактэрыолёгічнага дасьледваньня вады цэнтральнага вадаправоду [1]), атрыманыя за доўгі тэрмін і з няпэўнасьцю гавораць за тое, што глеба, вада, паветра значна забруджаны ў межах гораду і зьяўляюцца прычынай няўхільнага росту заразьлівых хвароб. Першай-жа прычынай усяго гэтага зьяўляецца дрэннае становішча зьбіраньня, адсуваньня і абясшкоджаньня нячыстот. Што гэткая сувязь існуе, добра відаць з літаратуры: „Столь большая заболеваемость и смертность зависит от многих причин, но среди последних скопление грязи и нечистот около жилищ, вызываемое отсутствием надлежащей организации для их удаления за черту селения, без всякого сомнения играет весьма видную роль“ (там-жа, стар. 172).

У сучасны момант горад патрабе шмат сродкаў і часу каб ліквідаваць „спадчыну“ старога Менску.

У сувязі з пускам каналізацыі, у многіх, мала знаёмых з справай ачысткі гарадоў, узьнікае пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня асанізацыйнага абозу, яны ніяк ня могуць згадзіцца з тым, што якраз цяпер, больш чым калі-б то ні было, трэба падумаць аб стварэньні асабозу, які сумесна з каналізацыяй сапраўды займаўся-б ачысткай гораду ад тых мільярдаў-мільёнаў мікробаў і атрутных матэрый, якія знаходзяцца ў тысячах куб. мэтраў нячыстот і сьмяцьця, што зьбіраюцца на працягу году.

Досьлед каналізацыйных гарадоў нашага Саюзу і замежных паказвае, што побач з каналізацыяй павінен існаваць добра абсталяваны санітарны транспарт, бо ў каналізацыю паступаюць толькі вадкія нячыстоты (фэкальныя воды, брудныя воды фабрык і заводаў, пральняў і лазьняў), цьвёрдыя-ж адкіды ніколі і нідзе ў каналізацыю не паступаюць, а вывозяцца; акрамя гэтага, каналізацыя ніколі ня зможа поўнасьцю ахапіць усе часткі гораду Менску, з прычыны таго, што далучэньне да каналізацыі каштуе больш далучаемага будынку, і акраіны, як усюды, будуць мець патрэбу ў сантранспорце. Значыцца, у задачы санітарнага транспорту будзе ўваходзіць абслугоўваньне неканалізацыйных вучасткаў усімі відамі транспорту, а каналізацыйных—часткова.

[1]) Д-р Останени П. В. Кризис Минск. центр. водоснабжения к 1929 г. „Працы Б.Д.С.-Г.І.“.

Раней, чым даць пэрспэктыву разьвіцьця асанізацыйнай справы, трэба намаляваць каротка становішча існуючага асабозу.

У сучасны момант асабоз знаходзіцца ў густа залюднёным месцы гораду, па Даўгабродзкай вуліцы і мяжуе з аднаго боку з новапабудаваным трамвайным паркам, а з другога боку дрэнна пабудаваны дашчаты плот выходзіць на вышэйпамянутую вуліцу. Двор часткова забрукаваны, трымаецца ў антысанітарных умовах (двор забруджаны гноем, сухім і мокрым сьмяцьцём). Будынкі і плошча недастатковы ўжо цяпер і пагэтаму ня можа быць ніякай гутаркі аб пашырэньні асабозу на гэтай тэрыторыі. Акрамя таго, густа залюднёнае месца не дазваляе пакінуць ў далейшым там асабоз.

Да 1929 году асабоз знаходзіўся ў распараджэньні Абкомтрэсту, а ў сучасны момант ён здаы ў арэнду спраўдому. Абслугоўваецца асабоз вольнанаёмнымі працаўнікамі і вязьнямі. Апошнія атрымліваюць харчаваньне, інтэрнат і 10 кап. з кожнай бочкі, а вольнанаёмныя выпрацоўваюць, у сярэднім, каля 67 руб. у месяц, атрымліваючы з кожнай бочкі па 46 кап., а з кожнай калымагі—27 кап. і спэцхарчаваньне (100 грам тлушчу). Спэцвопратка іх складаецца з 2-х пар ботаў, брэзэнтавага гарнітуру, брэзэнтавай накідкі, кажуха і рукавіц, 8-гадзінны рабочы дзень і месячны водпуск у гаду. Вывазка нячыстот адбываецца, згодна абавязковай пастановы Гарсавету, узімку (лістапад—сакавік) з 10 гадзін вечара да 7 гадзін раніцы, а ўлетку (сакавік—кастрычнік) з 1 гадзін ночы да 7 гадзін раніцы. Нячыстоты пры спраўным утрымліваньні бочак не разьліваюцца; саннаглядам робіцца агляд бочак, і нягодныя выводзяцца з ужываньня. Большая частка з іх наліўных, а 4 пнэўматычных. Напаўненьне наліўных—чарпакамі, а пнэўматычных—насосам. Прамыўкі і дэзынфэкцыі бочак ня робяць, паверхня іх загаджана і сваім відам робіць на насельніцтва няпрыемнае ўражаньне. Што датычыцца да фурманак, дык яны зусім не прыстасаваны да перавозкі мокрага і сухога сьмяцьця, бо прадстаўляюць звычайныя сялянскія фурманкі з асобных дошак, не абітых бляхай і без пакрышкі. Сьмяцьцё ў часе перавозкі высыпаецца на брук і не давозіцца да прызначанага месца. Тут-жа трэба адзначыць, што ніякіх свалачных месц у горадзе Менску няма, яны існуюць толькі на паперы і па ўласнаму жаданьню асанізатараў адводзяцца там, дзе ім прадстаўляецца больш зручным, карысным і г. д. Да красавіка г./г. асабоз з кожнай бочкі атрымліваў з прыватных асоб—2 руб., а з ўстаноў 1 р. 50 кап., а за скрынку сьмяцьця 95 кап. (прыватнік) і 85 кап. (установа). Зараз-жа ён цану павялічыў: 2 руб. 75 кап. (прыватнік), 1 р. 95 кап. (установа) за бочку, 1 р. 25 к. (прыватнік), 1 р. (установа) за скрынку. Сабекошт бочкі 1 р. 70 кап., скрынкі—96 кап.

Балянсы за 2 няпоўных гады наказваюць, што асабоз працаваў з стратай. З 15 студзеня 1929 году (момант перадачы ў арэнду) па 1 кастрычніка 29 году прыбытак—48.139 р. 93 кап., выдатак—49.485 р. 90 кап. і 9,66 проц. накладных выдаткаў, ня ўключаных у выдатак.

З 1-га кастрычніка 1926 г. па 1 кастрычніка 1927 году прыбытак—68.393 руб. 02 кап., выдатак—71.950 р. 93 к.

Гэты кароткі нарыс існуючага асабозу паказвае, што ён ні ў якім выпадку не адпавядае таму, што ад яго патрабуе сучаснае жыцьцё, дабрабыт і санітарыя гораду.

Неадпаведнае месца знаходжэньня, антысанітарнае становішча двара, наяўнасьць наліўных бочак у вялікай колькасьці, адсутнасьць

прамываньня і дэзынфэкцыі, непрыстасаванасьць існуючых фурманак для перавозкі сьмяцьця, адсутнасьць свалачных месц, высокія цэны, карыстаньне бясплатнай рабочай сілай, бязумоўна, гаворацць за тое, што зараз-жа неабходна карэнная рэорганізацыя ўсёй асанізацыйнай справы ў горадзе Менску. У якім напрамку павінна пайсьці гэта рэорганізацыя? Рэарганізацыю неабходна пачаць:

1) З месц зьбіраньня—зграмаджаньня нячыстот і сьмяцьця (на дварах).

2) З зьмены тэрмінаў вывазкі.

3) З перадачы асанізацыйнай справы ў рукі гарадзкога гаспадарчага органу, які павінен ведаць важнасьць гэтай справы, справы, якая гаспадарча сябе апраўдвае, але ня гоніцца за прыбыткам.

4) З перабудовы санітарнага транспорту на пачатках, якія адпавядалі-б патрэбнасьцям гораду і санітарным умовам, замяніўшы памагчымасьці аўтацягай.

5) Існуючыя па ўласнаму жаданьню свалачныя месцы замяніць агрыкультурнымі палямі.

6) Для сухога сьмяцьця пабудаваць сьмяцьцёва-палільную станцыю, па прыкладу іншых гарадоў Саюзу.

Далучаныя да каналізацыі вучасткі павінны прыступіць да ліквідацыі сваіх прапушчальных драўляных выграбаў на дварох, патрэба ў іх адпадае; застануцца на дварох ачагі, якія забруджваюць глебу, ваду і паветра, памыйныя і сьмяцьцёвыя скрынкі.

Апошняе таксама трэба ліквідаваць, замяніўшы іх скрынкамі пераноснага тыпу; пэўнай ёмкасьці і формы, яны павінны быць зроблены з лёгкага непрапушчальнага матар'ялу, лепш усяго з жалеза, афарбаваны ў масьляную фарбу і павінны выпаражнівацца ня менш, як праз 1-2 дні. Да гэтай сыстэмы прыдзецца перайсьці паступова. Сыстэма пераносных скрынак выклікае перабудову конструкцыі сантранспорту (фур—павозак) і яго павялічэньне. Якой-жа велічыні павінен быць сантранспорт пры наяўнасьці каналізацыі і падліку яе працы, прыняўшы пад увагу ўсе вышэйперадічаныя моманты? Па орыентовачным лічбам водна-каналізацыйнага аддзелу Эльводу каналізацыя будзе прапускаць у 30-31 годзе 776.000 куб. мэтраў сточнай вады, і, значыцца, каналізацыяй будзе ахоплена прыблізна 28.760 чалавек (згодна нормы—75 літраў на 1 чал.$\times$360 дзён.) Гэта ў тым выпадку, калі ў каналізацыю будуць паступаць сточныя воды толькі дамаўладаньняў, але ня фабрык і заводаў, а пры паступленьні з апошніх, гэтыя лічбы будуць значна зьмяншацца.

Прымаючы пад увагу, што адна бочка ў 500 літраў (40 вядзёр) зробіць 3 звароты ў дзень (пры наяўнасьці блізкіх палёў асанізацыі), яна зможа абслугоўваць 100 чалавек, а для 122.000 насельніцтва патрабуецца 1220 бочак.

150.000—28.000=122.000
500 літраў$\times$ 3= 1.500 літраў
1.500 „ : 15= 100
122.000 : 100=1.220

Для перавозкі толькі аднаго сухога сьмяцьця з усяго насельніцтва гораду Менску, ня прымаючы пад увагу сьмяцьця рынкаў—патрабуецца 38 фур (павозак).

Разьлік зроблены наступным чынам: адна фурманка пры трох зваротах у дзень, з нагрузкай у 650 кілёграм (40 пудоў), зможа абслугоўваць 3.900 чалавек, а насельніцтва ў 150.000 : 3.900=38, лічачы, што на аднаго чалавека падае 16 кілёграм сухога сьмяцьця ў месяц.

650 кілёграм×3=1.950 кілёграм

1.950 : 0,5 к.=3.900

1.500 : 3.900=38.

---

А—Л.

# Да пытаньня аб арганізацыі музэяў на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах

„Вековую отсталость нашей страны можно ликвидировать лишь на базе успешного социалистического строительства“ (СТАЛИН).

Ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва, калі ад кожнага працоўнага патрабуецца актыўны і сьвядомы ўдзел у правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў комуністычнай партыі і савецкай улады, пытаньні рацыяналізацыі і аздараўленьня працы набываюць выключнае значэньне ў справе павышэньня вытворчасьці працы і выкананьня прамфінплянаў.

Пры магутным росьце соцыялістычнай індустрыі і карэннай перабудовы сельскай гаспадаркі на падставе колектывізацыі ўцягваецца ў вытворчасьць вялізарная колькасьць новых рабочых, з якіх значны процант займаюць выхадцы з сялянскага асяродзьдзя. Патрабуецца вялікая політыка-асьветная (у тым ліку і антырэлігійная) праца, ад якой у значнай меры залежыць пасьпяховасьць ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, накіраваных у бок рацыяналізацыі і аздараўленьня працы, выхаваньня сярод рабочых вытворчых навыкаў, падняцьця іх тэхнічнага роўню і правядзеньня шырокай пропаганды сярод рабочых мас ведаў па тэхніцы (лёзунг—аўладаць тэхнікай!), безапаснасьці і прамсанітарыі. А таму фабрычна-заводзкія музэі у гэтай справе могуць і павінны адыграць вялікую ролю.

Акрамя выяўленьня і асьвятленьня вытворча-тэхнічнага і эканомічнага бакоў прадпрыемства, музэй павінен адбіць і ўсе іншыя бакі яго жыцьця, як, напрыклад, умовы працы, фабрычны быт, дамашні быт рабочых, культурнае абслугоўваньне, грамадзкую працу і г. д. Усё гэта ў музэі павінна быць паказана ў такім выглядзе і конкрэтных формах, каб наведвальнік музэю адчуваў, што завод ёсьць жывы організм, які кіруецца пры актыўным удзеле саміх рабочых і дзе ўсе бакі дзейнасьці яго знаходзяцца ў залежнасьці адзін ад другога.

Добра організаваны музэй на прадпрыемстве можа і павінен зьявіцца вельмі каштоўным цэнтрам політыка-асьветнай працы для ўсяго акаляючага насельніцтва, у тым ліку і школьнікаў. У сучасны момант, калі перад намі стаіць вялікая задача па політэхнізацыі школы (гл. пастанову ЦК КП(б)Б аб рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, „Зьвязда“, № 281 ад 15/Х-1931 г.), а таксама калі краязнаўству надаецца вялікае значэньне, фабрычна-

заводзкія музэі павінны адыграць вялікую ролю ў сэнсе азнаямленьня на наглядным матар'яле з мясцовай экономікай і прамысловасьцю.

Выходзячы з вышэйсказанага, перад намі стаіць пытаньне, як-жа павінен быць пабудаваны музэй на прадпрыемстве і які яго павінен быць зьмест, каб ён змог зацікавіць і абслужыць шырокія масы працоўных?

Перш за ўсё трэба адзначыць, што для музэю павінна быць адведзена належнае памяшканьне. У залях музэю павінен быць сабраны і паказаны ў нагляднай форме ўвесь каштоўны матар'ял, які атрымоўваецца музэем.

Матар'ялы гэтыя трэба паказаць так, каб атрымаўся паступова ясны малюнак дзейнасьці таго ці іншага прадпрыемства, прычым адным з прынцыпаў разьмяшчэньня экспонатаў трэба лічыць прынцып тэматычны. Гэты прынцып дазваляе гледачу з большай лёгкасьцю ахапіць і ўсвоіць увесь комплекс пытаньняў, якія ахапляе тая ці іншая тэма, пры гэтым трэба памятаць, што музэй разьлічаны ў першую чаргу на масавага наведвальніка, для якога асабліва важна чоткасьць распрацоўкі тэй ці іншай тэмы і конкрэтнасьць экспозыцыі. Таму трэба ўсямерна старацца паказваць featureнародны матар'ял як па форме, так і па зьместу. У праціўным выпадку выстаўленыя ў рад фотографіі, малюнкі, дыяграмы і інш. матар'ялы будуць стамляць гледача і прытупляць яго інтарэс.

Усе разьдзелы выстаўкі павінны быць пабудаваны ў дынамічным разрэзе. Напрыклад, для таго, каб была зразумелай дзейнасьць таго ці іншага прадпрыемства ў сучасным, трэба паказаць на адпаведным матар'яле гісторыю яго ўзьнікненьня і яго працу на працягу цэлага раду гадоў. Узяць, напрыклад, тую ці іншую фабрыку ці завод, які ўзьнік яшчэ ў дарэволюцыйны час. Тут вельмі цікава можна паказаць на розным матар'яле іх жыцьцё (тэхніку, працу, быт рабочых і шмат інш.) у царскія часы і супаставіць становішча іх пры савецкай уладзе. Пры гэтым трэба адзначыць, што не патрэбна асабліва захапляцца старым матар'ялам. Яго трэба прыцягваць толькі для нагляднага параўнаньня з сучасным становішчам, з тым, каб больш наглядна паказаць вялізарныя дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва, магчымага толькі пры савецкай уладзе.

Цяпер застановімся падрабязна на тых тэмах, якія павінны быць пакладзены ў аснову організацыі фабрычна-заводзкага музэю.

### I. Гісторыя і організацыя прадпрыемства

У зьвязку з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 10/X 1931 г. аб выданьні „Гісторыі заводаў“ (Правда, № 281, 1931 г.) патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэты і другі (ніжэйпаданы) разьдзелы музэю.

У гэты разьдзел павінны прыкладна ўвайсьці матар'ялы па наступных пытаньнях. Географічнае палажэньне прадпрыемства. Час узьнікненьня. Якія стадыі кіраўніцтва прайшло прадпрыемства ў дарэволюцыйныя часы (напрыклад, прыватная ўласнасьць, акцыянэрнае таварыства і т. п.). Пасьлярэволюцыйны пэрыод. У чыім веданьні знаходзіцца прадпрыемства ў сучасны момант. Паказаць схэму кіраўніцтва самага прадпрыемства. Плян заводу і капітальнае будаўніцтва ў пасьлярэволюцыйны пэрыод. Разьмяшчэньне цэхаў і разьмеркаваньне рабочай сілы па цэхах.

Само сабой зразумела, сюды могуць увайсьці і некаторыя іншыя пытаньні.

## II. Рэволюцыйны рух і грамадзянская вайна

У гэтым разьдзеле асабліва важна паказаць удзел рабочых таго ці іншага прадпрыемства ў рэволюцыйным руху 1905 і 1917 гг. (забастоўкі, моманты барацьбы, удзельнікі руху, партызаны і г. д.), а таксама роля комуністычнай партыі (як кіраўніка) у гэтым руху і барацьбе. Кастрычнікаўская рэволюцыя, грамадзянская вайна. (Сюды могуць быць аднесены розныя матар'ялы—як рэчы, зброя, ілюстрацыі, плякаты, так пісьмовыя і друкаваныя).

Пры організацыі гэтага разьдзелу музэю трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на інструкцыю па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялаў па „Гісторыі грамадзянскай вайны“, якая зьмешчана ў „Правде“, № 283 ад 13/X 1931 г., у якой паказаны асноўныя крыніцы матар'ялаў для „Гісторыі“ і іх зьмест.

## III. Вытворчасьць

Тут трэба наглядна паказаць схэму процэсу вытворчасьці ў пасьлядоўным парадку ад сыравіны да гатовага продукту. Паказаць цэхі і вытворчыя процэсы і сувязь цэхаў паміж сабой. Важнейшыя сілавыя і мэханічныя ўстаноўкі (тут вельмі цікава паказаць старыя і новыя і нават самыя навейшыя, якіх яшчэ няма на прадпрыемстве), узоры аднародных вырабаў за цэлы рад гадоў і іх палепшаньне ў залежнасьці ад тэхнічных дасягненьняў. Колькасьць і кваліфікацыя рабочых па цэхах. Сувязь вытворчай тэхнікі з тэхнікай безапаснасьці і іх узаемная залежнасьць адна ад другой. Рацыяналізацыя вытворчасьці. Конвэер. Як скарыстоўваецца сыравіна і ўтылізацыя адходаў. Колькасьць браку і яго прычыны і мерапрыемствы па барацьбе з бракам. Вынікі гэтай барацьбы. Асабліва трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на прарывы і на іх прычыны. Вытворчыя програмы і іх выкананьне. Рост вытворчасьці працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ударныя брыгады, сустрэчны прамфінплян. Паказаць ударныя брыгады і герояў працы. Гаспадарчы разрахунак, рабочае вынаходніцтва і вынікі дасягненьняў. Мерапрыемствы для пашырэньня прадпрыемства. Якое месца займае данае предпрыемства ў данай галіне прамысловасьці. Месца спажываньня гатовага продукту. Дынаміка сабекошту продукту (параўнаньне з даваенным). Выяўленьне прычын павялічэньня сабекошту гатовага продукту. Мерапрыемствы да зьніжэньня сабекошту.

## IV. Праца

*Рабочая сіла.* Колькасны склад, пол і ўзрост. Нацыянальны склад. Параўнаньне колькаснай і якаснай зьмены ў складзе рабочай сілы з вытворчасьцю працы. Заробак. Зьмена зарплаты ў розныя пэрыоды (параўнаньне з даваеннай). Зьмена нормы аплаты і тарыфікацыя. Пропускі і прагулы і барацьба з імі.

*Умовы працы.* Зьмена. Увядзеньне сямігадзіннага рабочага дня і пяцідзёнка. Як гэта адбілася на вытворчасьці працы.

*Ахова працы.* Санітарна-гігіенічныя ўмовы. Зьвярнуць увагу на памяшканьні, у якіх гэтыя ўмовы патрабуюць хуткага палепшаньня. Уплыў вытворчасьці на здароўе рабочых. Профхваробы. Статыстыка захворваньня за рад гадоў. Якія прымаюцца меры для папярэджаньня ўплыву шкоднай для здароўя вытворчасьці. Ахова жаночай працы

і падросткаў. Няшчасныя выпадкі, выяўленьне іх прычын (прычыны тэхнічнага характару, санітарна-гігіенічнага, альбо няправільныя ўчынкі саміх рабочых). Пастаноўка тэхнікі безапаснасьці, папярэднія інструкцыі і абучэньне рабочых у галіне безапаснасьці. Статыстыка няшчасных выпадкаў з падзелам у залежнасьці ад прычын. Новыя прапановы ў галіне мерапрыемстваў па тэхніцы безапаснасьці.

## V. Быт рабочых

*Вытворчы быт.* Профэсіянальнае жыцьцё. Фабзаўком. Колдагаворы за рад гадоў. Профэсіянальныя і вытворчыя нарады. Культурнаасьветная дзейнасьць (клюб, бібліотэка, гурткі, ліквідацыя няпісьменнасьці, антырэлігійная пропаганда). Праца сярод жанчын. Падросткі. Фабзавуч і інш.

*Хатні быт.* Зрэлішча. Рабочае жылбудаўніцтва (параўнаньне ўмоў раней і цяпер). Соцыяльнае (ясьлі, дзіцячыя сады, дамы адпачынку і да т. п.) і комунальнае абслугоўваньне (лазьні, пральні, кухні і г. д.). Бюджэт рабочага (харчаваньне, адзеньне, абутак, культурны адпачынак і т. п.). Сувязь рабочых прадпрыемстваў з колгасам, вёскай і т. п.

---

Зразумела, што ня ўсе з вышэйпералічаных пытаньняў магчыма будзе распрацаваць у кожным музэі таго ці іншага прадпрыемства, а таму музэй павінен выходзіць з тых мажлівасьцяй, якія ў яго ёсьць, і пачынаць сваю працу з малога, паступова павялічваючы сваю выстаўку.

Акрамя ўсяго гэтага музэй павінен рабіць пэрыодычныя выстаўкі на спэцыяльныя тэмы, напрыклад, у дапамогу розным кампаніям.

Цяпер застановімся на саміх матар‘ялах, якія могуць быць выстаўлены ў музэі. Гэтыя матар‘ялы падзяляюцца: на рэчавыя, ілюстрацыі.

У рэчавыя матар‘ялы ўваходзяць узоры сыравіны, паўфабрыкаты, гатовыя вырабы, апал, часткі машын, розныя прыборы, узоры продуктаў добрай якасьці і браку, адходы, якія ідуць на ўтылізацыю і г. д. Усе гэтыя рэчы павінны ўвайсьці ў разьдзел „вытворчасьць“.

У разьдзел „быту“ могуць увайсьці рэчы заводзкага і хатняга быту (спэцвопратка, адзеньне, узоры харчаваньня і г. д.). Як помінкі рэволюцыйнай барацьбы патрэбна паказаць сьцягі, зброю, сродкі барацьбы, трофэі і да т. п. Для кожнага разьдзелу павінны брацца рэчы, узятыя непасрэдна з самага жыцьця. Такія экспонаты прадстаўляюць асаблівую каштоўнасьць.

Акрамя рэчаў у орыгіналах, могуць быць скарыстаны і модэлі, хаця апошнімі трэба карыстацца асьцярожна, асабліва, калі гэта датычыць машын. Часам лепш скарыстаць добры чарцёж, чым дрэнную модэль.

Да ілюстрацыйнага матар‘ялу адносяцца фотографічныя здымкі мясцовасьці, будынкаў, унутраных памяшканьняў, здымкі розных машын і дэталяў, здымкі вытворчых процэсаў розных цэхаў, ударнікаў, героаў працы, вынаходцаў, удзельнікаў рэволюцыйнага руху і г. д., а таксама фотографічныя здымкі заводзкага і хатняга быту. Таксама да ілюстрацый трэба аднесьці розныя плякаты, малюнкі, чарцяжы і дыяграмы, прычым апошнія павінны быць наглядымі. Дыяграмы могуць быць „подвижными“ для перастаноўкі таго ці іншага графіка.

Сюды-ж трэба аднесьці і картаграмы, якія ў аснове прадстаўляюць сабою схэму географічнай карты. На картаграмах можна паказаць месцазнаходжаньне баз сыравіны і інш.

Ілюстрацыйны матар'ял дапаўняецца яшчэ і кніжным матар'ялам. Сюды-ж трэба аднесьці розныя докумэнты, друкаваныя справаздачы, акты, протоколы, розныя докумэнты, а таксама матар'ялы, якія малююць удзел у рэволюцыйным руху данага прадпрыемства і т. д.

Вышэй ужо адзначалася, што патрэбна ўхіляцца ад выстаўкі ў адным месцы аднолькавых матар'ялаў як па форме, так і па зьместу.

Акрамя гэтага вялікае значэньне на выстаўцы маюць этыкеткі-надпісы. Яны павінны быць па-магчымасьці кароткімі і паказваць прызначэньне экспонату. Акрамя надпісаў для паасобных рэчаў, патрэбна мець яшчэ агульны надпіс для цэлай групы экспонатаў тэй ці іншай тэмы.

Вялікае значэньне мае знадворная апрацоўка выстаўленых матар'ялаў. Так, напрыклад, дыяграмы, плякаты, пляны, чарцяжы, фотографіі і да т. п. пажадана зьмясьціць у рамку.

Фотографіі, малюнкі і іншыя рэдкія докумэнты патрэбна ашкліць. Усе гэтыя матар'ялы патрэбна зьмясьціць на шчытох, прычым апошнія не павінны быць вельмі высокія.

Калі ёсьць магчымасьць заказаць для экспонатаў вітрыны, дык патрэбна іх рабіць толькі ня ў выглядзе сталоў, бо лепш усяго рэчы і матар'ялы разглядаць, калі яны зьмешчаны простастаўна ў шафападобных (кругом шкляных) вітрынах.

Як ужо адзначалася вышэй, для музэю патрэбна адпаведнае памяшканьне. Але само сабой зразумела, музэй не павінен у сваёй працы замыкацца ў вузкіх рамках свайго памяшканьня. Музэй павінен скарыстаць усялякае прыгоднае месца для паказу часовых выставак. Такімі памяшканьнямі могуць быць сталовыя, пакоі адпачынку, калідоры да і т. п.

Для організацыі музэю павінна быць вылучана з мясцовага краязнаўчага гуртка (калі ёсьць такі на прадпрыемстве) група таварышоў, якая павінна заняцца гэтай справай пры падтрымцы і актыўнасьці ўсяго рабочага колектыву.

Павінен быць устаноўлены самы цесны контакт у працы з усімі вытворчымі і палітасьветнымі гурткамі і ячэйкамі. Неабходна прыцягнуць актыў інжынэрна-тэхнічных сіл і інш. асобных працаўнікоў. Толькі такім шляхам і можна будзе дасягнуць пасьпяховых вынікаў.

А. М. Бальшакоў

# Нормы выпрацоўкі

Уважліва прадуманыя і стала праверaныя на практыцы нормы выпрацоўкі—аснова ўсяе колгаснае вытворчасьці і колгаснае працы. Нормы выпрацоўкі ў роўнай меры неабходны як для людзей, так для жывога інвэнтару і для машын. Пры складаньні вытворчага пляну вучот патрэбнасьці і найбольш рацыянальнага выкарастаньня сродкаў вытворчасьці і рабочай сілы абапіраецца іменна на нормы выпрацоўкі. Пры адсутнасьці норм выпрацоўкі зусім нямысьліма зьдельшчына. Пры павярхоўнай прапрацоўцы норм выпрацоўкі значэньне зьдзельшчыны змазваецца, яно фактычна зводзіцца да нічога: абы-як прапрацаваныя нормы не даюць магчымасьці ня толькі ўлаўліваць якасьць працы, але нават і яе колькасьць. Прэм'яваньне за добрую і вылічэньні з заробку за дрэнную працу робяцца зноў такі выходзячы з норм выпрацоукі. Нормы выпрацоўкі дазваляюць рабіць ушчыльненьне рабочага дня. На аснове іх выбракоўваецца працоўная жывёла, машыны і розны сельска-гаспадарчы інвэнтар, як нядаўшыя тэй вытворчасьці, якая неабходна з гаспадарча-экономічнага боку.

Зразумела, што цэлы рад умоў уплывае на вышыню нормы выпрацоўкі ў тым або іншым асобным колгасе. Тут мае значэньне сур'ёзнасьць прапрацоўкі вытворчага пляну гаспадаркі, і ступень укомплектаваньня яе машынамі, чоткасьць у організацыі працы і іншае. Пагэтаму нормы выпрацоўкі як па асобных раёнах, так і па асобных колгасах у межах нават аднаго і таго-ж раёну, могуць быць вельмі рознастайнымі. Але гэта зусім не азначае, што ўся справа з працаю над нормамі выпрацоўкі павінна ісьці самацёкам. Колгаснай грамадзкасьці колгасу, куста колгасаў, раёну, вобласьці або рэспублікі пры распрацоўцы норм належыць трымаць устаноўку на нормы колгасьнікаў-ударнікаў, да якіх норм і належыць падцягваць колгасныя масы.

Няма нічога горшага ў справе складаньня норм выпрацоўкі, як складаньне іх габінэтным, бюрократычным шляхам, калі лічбы бяруцца або з розных даведнікаў, складзеных на падставе практыкі аднаасобных гаспадарак, або проста „з столі“. Колгасная практыка бязьлітасна выкідае такія нормы. Цікава паказаньне газэты „Социалистическое Земледелие“ (Москва) ад 28 мая 1931 году адносна норм Колгасцэнтру Украіны, даных колгасам вясною 1931 году ў якасьці прыкладных норм. Практыка Арбузінскага раёну Украіны паказала, што не якія-небудзь нормы колгасьнікаў-ударнікаў па ўсіх колгасах раёну, а сярэднія нормы і фактычная выпрацоўка колгасьнікаў па ўсіх колгасах

раёну куды вышэй „прыкладных“ норм Укрколгасцэнтру. Так, напрыклад:

| Назва сельска-гаспадарчых прылад | Нормы Укрколгасцэнтру | Прынятая колгасамі | Сярэдняй факт. выпрацоўкі |
|---|---|---|---|
| Плуг 3-лямешны . . . . | 1,5 га | 1,81 га | 2,35 га |
| „ 4 „ . . . . | 2 „ | 2,25 „ | 2,75 „ |
| Сеялка 11-рад. . . . . . | 3,75 „ | 4 „ | 4,5 „ |
| „ 13 „ . . . . . | 4,25 „ | 4,50 „ | 5,25 „ |
| „ 15 „ . . . . . | 5 „ | 5,5 „ | 6,5 „ |
| „ 19 „ . . . . . | 6 „ | 7 „ | 8,5 „ |
| Бароны 2 зьв. . . . . . | 5 „ | 5,5 „ | 6,0 „ |

„Гэта „табліčка“, правільна адзначае „Социалистическое земледелие“, дае яскравае прадстаўленьне аб тым, наколькі кіраўніцтва Укрколгасцэнтру адстала ад жыцьця. Нормы Укрколгасцэнтру фактычна орыентуюць не на ўдарніка, нават не на сярэдняга колгасьніка, а на лодыра“.

Краязнаўцы, пры вывучэньні пытаньня аб нормах выпрацоўкі колгасьніка, павінны памятаць, што нормы—бадай самае важнае пытаньне ва ўсёй сыстэме арганізацыі колгаснае працы. І краязнаўчае вывучэньне павінна ўскрыць, на каго-ж іменна орыентуюцца нормы—на колгасьніка-ўдарніка ці на лодыра.

Асноўныя пытаньні краязнаўчага вывучэньня:

Ці ўведзены ў колгасе нормы і калі. Па чыёй ініцыятыве яны ўведзены. Якія галіны вытворчасьці абхоплены нормамі і якія — не. Па якіх мотывах некаторыя віды прац засталіся ненормаванымі. Ці ўдзельнічалі ў выпрацоўцы норм шырокія масы колгасьнікаў (праз вытворчыя нарады, праз насьценную газэту і г. д.). Ці зацьверджаны нормы агульным сходам колгасьнікаў. У процэсе абмеркаваньня норм выпрацоўкі (на вытворчых нарадах, у насьценнай газэце, на агульных сходах) ці ўносіліся якія-небудзь папраўкі ў бок падвышэньня або зьніжэньня норм. Прадстаўнікі якіх груп колгасьнікаў уносілі тыя або іншыя папраўкі (колгасьнікі з батракоў, беднаты, серадцякоў, заможных). Чым мотываваліся ўнасімыя папраўкі. Што бралі за аснову пры распрацоўцы норм: сярэднія нормы па колгасу за мінулы год, вышэйшыя нормы па колгасу за той-жа мінулы год, дасягненьні лепшых колгасаў і лепшых брыгад у іх па данаму раёну, прыкладныя нормы з інструкцыі па арганізацыі працы, зданых абласным або рэспубліканскім колгассаюзам. Ці ўлічваецца нормамі кваліфікацыя і якасьць працы і як іменна адбываецца вучот якасьці. Для якіх відаў прац існуюць групавыя нормы. Чым тлумачыцца наяўнасьць групавых норм. (Напрыклад, аб‘яднаньнем групы працаўнікоў тэхнічна адным вытворчым процэсам работы — пры малацьбе хлеба малатарняй і інш.).

У якой меры нормы колгасьнікаў-ударнікаў данага колгасу падцягваюць да сябе шырокія масы колгасьнікаў. Да якіх соцыяльных груп адносяцца тыя колгасьнікі, якія перавыконваюць прынятыя ў колгасе нормы (да батракоў, беднаты, серадцякоў, заможных).

Фактычная выпрацоўка па асобных відах прац вышэй ці ніжэй прынятых у колгасе норм. Чым можна растлумачыць разыходжаньні паміж фактычным і прынятымі нормамі па кожнаму асобнаму віду

прац. Як колгас улічаў для сябе гэтыя разыходжаньні (скажам: выправіў прынятыя нормы ў той ці другі бок). Нормы данага колгасу (прынятыя і фактычныя) вышэй ці ніжэй норм (прынятых і фактычных) па суседніх колгасах, ці па колгасах усяго раёну. Чым тлумачацца разыходжаньні. У якой ступені паднялася вытворчасьць колгаснае працы пасьля прыняцьця норм у параўнаньні з тымі часамі, калі ў колгасе зусім не існавала норм.

---

Д. Струнін

# Лоеўскі завод сухіх мінэральных фарбаў

У мэтах максымальнага скарыстаньня прыродных багацьцяў гомелькім краязнаўцам неабходна было зьвярнуць увагу ня толькі на такія карысныя выкапні, як торф[1]), дапамагаючы пашырэньню энэргетычнай базы БССР, але і на рад мінэральных матар'ялаў, якія могуць і павінны быць скарыстаны соцыялістычным будаўніцтвам, як, напр., гліна, мэргель, крэйда і фарбавыя руды.

У 1928-29 г. асаблівую зацікаўленасьць да сябе выклікалі *фарбавыя руды,* якія распрацоўваюцца каля г. Лоева, і гэта было ня толькі таму, што на заводзе ў Лоеве вырабляецца вельмі добрая вохра, па сваёй якасьці ня ўступаючая францускай, а яшчэ і таму, што тады ўскладаліся вялікія надзеі на значныя залежы мінэральнай сыравіны на поўдзень ад Лоева, каля в. Шчытцы. Гэта сыравіна лічылася прыдатнай для вырабу „вапняковых“ фарбаў, якія ў злучэньні з аніліна-вымі для наданьня ім пажаданага тону могуць ужывацца для той-жа мэты, як вохра і сурык, толькі без алею, што мае вялікае значэньне пры нястачы расьлінных алеяў. Аб гэтым шмат абяцаўшым матар'яле ня раз гаварылася на гаспадарчых нарадах і зьездах.

У 1929 г. Гомельскае т-ва краязнаўства ў мэтах вывучэньня мінэральных фарбавых руд, якія здабываюцца ў Беларусі, арганізавала невялікую экспэдыцыю, у склад яе ўвайшлі: аўтар гэтага нарысу, Ф. С. Шацкі і М. І. Саламыкін. Не здаволіўшыся вынікамі орыентовачнага абсьледваньня 29 году, бо заданьню па Лоеву было вызначана вельмі мала часу, таварыства ў 1930 г. зноў арганізавала экспэдыцыю. Для азнаямленьня з месцазнаходжаньнямі карысных выкапняў экспэдыцыі давялося з Лоева зрабіць выезды ў в. Шчытцы і на Ляхаву Гару; у першым выезьдзе прыняў удзел мясцовы краязнаўца І. А. Ружкевіч.

## Лоеў

Горад Лоеў (раней мястэчка) знаходзіцца на поўдзень ад Гомеля, пры злучэньні Дняпра і Сажа, у 114 км ад Гомеля. Паездка ў Лоеў з Гомеля на параходзе. Першы раз у 1929 г. мы езьдзілі ў Лоеў у пачатку ліпня, у 2-гі раз (1930 г.) пасьля 15 ліпня. Па дарозе з Гомеля, з прыстанямі на Сажы ў Чонках, Дзятлавічах, Астраўках, Вічугах,—перад намі чаргуюцца пяшчаныя, з найчысьцейшым квар-

---

[1]) Гл. Е. Кушалевіч. Кабылянскае балота. Наш Край № 6-7, 1929 г.

цавым пяском, берагі і водмелі, лазовыя насаджэньні, раскіданыя там і сям дрэўцы, палі, гароды, лясы.

Аўтары нарысаў па БССР да гэтага часу не аддавалі асаблівай увагі Лоеву і нават у „Экономическом очерке Гомельской губернии" (выд. 1925 г.) амаль нічога няма аб Лоеве. Між іншым, у аналёгічных даведачніках, пры аглядзе прамысловасьці, аб вырабе ў Лоеве фарбаў абсолютна замоўчваецца, як і аб тым, што там пачынае разьвівацца цагляная вытворчасьць. Фізіономія гораду за апошнюю чвэрць стагодзьдзя значна зьмянілася. Вырас завод „Фарбацьвет", і ў раёне шмат колгасаў.

## Завод „Фарбацьвет" у 1929 г.

Пры нашым першым наведаньні заводу ў ліпні 1929 г. дырэктар заводу т. Зэлікаў, даведаўшыся аб мэце нашага прыезду, пазнаёміў нас з заводам і яго дасягненьнямі, даў некаторыя даныя з гісторыі заводу і дазволіў зрабіць фотографічныя здымкі. Ён даў нам некаторыя фактычныя лічбы продукцыі заводу ў выглядзе вохры, сурыку, умбры, а таксама паведаміў нас аб існуючым проекце вырабу вапняковых фарбаў розных тонаў, якія маюць вырабляць з сыравіны, выкрытай у вялікай колькасьці на беразе Дняпра каля в. Шчытцы, спосабам падмешваньня да прыроднага матар'ялу гразна-шэрага („ахоўнага") колеру пэўнага проценту анілінавых фарбаў. З гэтай мэтай да заводу прыбудоўваецца новы корпус і падрыхтоўваецца спэцыяльная арматура. Выявілася, што мінэральная сыравіна, на якую ўскладаў вялікія надзеі б. дырэктар заводу, цяпер не здабываецца, і распрацоўка яе ў Шчытцах закінута, бо ўзьнікаюць вялікія сумненьні адносна рэнтабельнасьці гэтай вытворчасьці. Папярэдняя калькуляцыя сабекошту вапняковых фарб паказала, што па цэнах 1929 г. 100 кг фабрыкату абойдзецца ў 12 р. 73 к. А калі да гэтага дадаць кошт замежнага аніліну (24 р.) і агульназаводзкія выдаткі (10 р. 16 к.),— будзе 46 р. 89 к. Кошт аднае тоны дасягае 469 р. Параўнальна з прадажнымі цэнамі іншых мінэральных фарбаў, а іменна 70 р.—тона жоўтай вохры, 85 руб.—тона муміі, 120 р.—тона францускай вохры,— цана нязьмерна высокая, і разьлічваць на збыт гэткай фарбы нельга. Такім чынам, трэба чакаць, пакуль Анілінавы трэст (у Маскве) вырашыць пытаньне аб замене дарагакаштуючых германскіх фарбаў мясцовымі фарбоўнікамі, і пакуль нашы хэмікі што-небудзь прыдумаюць і вывядуць з тупіку проектаваную вытворчасьць.

Завод сухіх фарбаў (Фарбацьвет) быў пабудаваны прыватнікам Н. Кандаковым у 1909 г. і вырабляў ходкія сухія фарбы: вохру, мумію, умбру і, між іншым, „капут-мортум"[1]). Самай ходкай фарбай была т. зв. вохра француская, якая здабываецца ў сырым выглядзе на Ляхавай Гары. Пабудове заводу ў Лоеве спрыялі дзьве акалічнасьці: 1) у ваколіцах Лоева (Ляхава Гара, Суткова, Шчытцы) і на процілеглым баку Дняпра (Чарнігаўшчына) знаходзяцца залежы фарбавых руд; 2) каля Лоева ёсьць дрывяны апал і выстарчальная колькасьць торфу. Пазьней завод перайшоў у арэнду інжынэра Эпштэйна, які і сконцэнтраваў пераважную ўвагу на Ляхавай Гары, багатай фарбавымі глінамі, будаўнічымі і агнятрывалымі глінамі, гляўконітавымі пяскамі і вохрай. Аднак, пласт вохры таўшчынёю ад 3 да 5 вяршкоў знаходзіцца тут на глыбіні ад 5 да 6 саж., і таму здабыча яе можа

[1]) Ужываецца ў сярніковай вытворчасьці.

рабіцца толькі ў комбінаваньні з цаглянай і іншай керамічнай вытворчасьцю.

У дарэволюцыйны час на заводзе працавалі прыкладна да 20 чал. рабочых, і штогодны выраб фарбаў дасягаў прыблізна 640 тон. Фарбы, галоўным чынам, мелі збыт пры пабудове чыгунак, у сярніковай



Лоеўскі завод сухіх фарбаў.

і шпалернай вытворчасьці. У 1920-23 г. завод працаваў слаба, бо гэтаму перашкаджала нямецкая і польская окупацыі. У 1924 г. завод перайшоў да дзяржавы. Мерапрыемствы да яго пашырэньня пачаліся ў 1925 г., калі на яго зьвярнуў сваю ўвагу Саўнаргас. У 1926 г. на заводзе ўсталявана вэнтыляцыя і троху пазьней пачалося абсталяваньне новага корпусу для вырабу вапняковых фарбаў, аб якіх вышэй паміналася. Аб дынаміцы вытворчасьці красамоўна кажуць лічбы. Лік рабочых па гадох у сярэднім:

У 1927/28 г. — 27 чал.
„ 1928/29 „ — 15 „
„ 1929/30 „ — 27 „

Продукцыя: у 1927/28 г.—779 тон, у 1928/29 г.—412 тон і ў1929/30 г. (да 1/VII) — 560 тон. За 1931 г. вызначана вырабіць фарбаў да 800 тон.

У ліпні 1930 г. на заводзе адчувалася ажыўленьне. Труба дыміла. Старанна працаваў у машынным аддзяленьні стары „Вольф“ (лёкомобіль у 40 конскіх сіл). На панадворку ў штабялях ляжалі запасы апалу: торфу, дроў і карчэўя; усюды кучы фарбавых руд, налёты бакана і вохры. У адным з аддзяленьняў заводу абпальвалася руда для ператварэньня яе ў мумію; у т. зв. „шаровым“ аддзяленьні грукатаў барабан, у якім рабілася першае раздрабненьне каменя пасьля абпальваньня і сушэньня. У жаронным аддзяленьні грукаталі машыны, якія канчаткова раздраблялі фарбавыя пароды для атрыманьня звычайнай чырвонай і баканавай муміі.

Продукцыя заводу цяпер не залежыцца: яе цалкам перадаюць Усесаюзнаму аб'яднаньню хэмічнай прамысловасьці, якое разьмяркоўвае продукцыю па фарбацёрных заводах. Палубы адплываючых параходаў завалены продукцыяй заводу „Фарбацьвет".

Сабраўшы ўзоры мінэральных парод і выраблямых на заводзе фарбаў, мы зацікавіліся і той вартай увагі пародай, якая, зьмешаная з анілінавымі фарбоўнікамі, здольна нібы замяніць на шмат якіх франтох натуральныя мінэральныя фарбы.

Тав. Зэлікаў паказаў нам яе ў зьмененым выглядзе, хоць нас больш цікавіла гэта парода ў яе натуральным стане. У памяшканьнях заводу запасаў сыравіны не знаўшлося, і толькі ў адным месцы на дварэ была закінутая грудка мінэральнага матар'ялу, які ў прыродным заляганьні можна бачыць у 12 км на поўдзень ад Лоева, на высокім беразе Дняпра, каля в. Шчытцы.

Гавораць, што ў іншых мясцох Саюзу, калі патрэбна фарба „ахоўнага" колеру, матэрыя прыблізна такога-ж складу выраблеяцца штучна. Між іншым, аб мыючыхся вапняковых фарбах у „Сборнике технохимических рецептов по различным отраслям производств" М. Александроўскага сказана наступнае:

„Фарба вапняковая мыючаяся: 6 ч. здробненага крамнёвага каменя, 6 ч. здробненага пескавіка, 4 ч. паленай гліны і 4 ч. сьвежапагашанай вапны абліваюць вадою, зьмешваюць і дадаюць якую трэба фарбу. Фарбай змазваюць паверхню, даюць ёй прасохнуць і на другі дзень абліваюць вадою. Фарба вельмі трывала, мыецца і не баіцца атмосфэрных уплываў".

Да сказанага трэба дадаць, што гэткая фарба (без алею) трымаецца добра на цэгле, але не на дрэве. Дасьледчым сэктарам Навуковай цэнтральнай лябараторыі дзяржтрэсту „Лакокраска" дадзен аналіз, які паказвае, што „ўкрыўнасьць" яе вельмі слабая і яна не падыходзіць ні да аднае малярнае фарбы. Такім аналізам усё-такі пытаньне аб значэньні памянёнай пароды ня вычэрпваецца. Леташняя наша надзея на вынаходніцтва ўласнымі нашымі сіламі трывалых, але танных анілінавых фарб яшчэ ня спраўдзілася. Значыць, час для эксплёатацыі заляганьняў у раёне в. Шчытцоў яшчэ ня прышоў.

### Ляхава Гара і першая Беларуская шахта

Каля самага Лоева і ў іншых мясцох Лоеўскага раёну сустракаецца шмат напластаваньняў вохры сярэдняй і ніжэйшай якасьці, і мясцовае насяленьне даўно ўжо карыстаецца ёю. Але лепшая вохра, т. зв. „францускаая", выяўлена ў гэтым раёне покуль што толькі на Ляхавай Гары[1]). Мы двойчы былі там. У 1929 г. на Ляхаву Гару выяжджалі т. Шацкі і Саламыкін, у 1930 г., апрача аўтара гэтага нарысу,— т. Шацкі і Забела.

Ляхава Гара зьяўляецца выступам правага ўзвышанага берагу Дняпра, прыблізна ў 20 км на поўнач ад Лоева, між паселішчамі Ісакавічы і Казіміравічы. У ліпні 1929 г. там рабілася толькі выведка адносна больш рэнтабельнага пласту вохры. Гэты пласт выяўлены на значнай глыбіні пад напластаваньнямі іншых парод і, прыватна, глін, зусім падыходзячых для вырабу цэглы і керамікі, чым і тлумачыцца існаваньне тут цагельні, выраблявючай за сэзон да 800 тыс. цэглы.

Былі гутаркі аб неабходнасьці пабудовы тут шахты.

---

[1]) Аб іншых месцазнаходжаньнях вохры ў СССР гл. „Химико-технический справочник", пад рэд. А. Е. Фэрсмана.

Сапраўды ў верасьні таго-ж году была закладзена першая шахта,— правільней кажучы, „штольня“, бо зробленыя тут падземныя галерэі маюць адкрыты з боку Дняпра знадворны выхад.

У 1930 г. 17 ліпня пры дапамозе рабочага Каваленкі мы пазнаёміліся з гэтай новай шахтай. Пры ўваходзе ў яе, сфотографаваным намі, красуецца шыльда з савецкім гербам, з надпісам: „Першая Беларуская шахта Чырвоны Шахцёр“. Мы сышлі ў яе з боку Дняпра (усходні бок), прайшлі да канца галерэі, дзе пры сьвятле ліхтара



добра можна бачыць геолёгічны разрэз. Гэта галерэя і паралельная ёй перасякаюцца другой больш доўгай галерэяй, расплянаванай у мэрыдыяльным напрамку, дзе таксама робіцца распрацоўка вохры.

Выпрацаваныя галерэі ўмацоўваюцца дрэвам. Для вывазу вохры і пустой пароды ў тачках ручным спосабам пракладзены рэйкі. Пры дапамозе т. Каваленкі, ведаючага Ляхаву гару як свае пяць пальцаў нам удалося сабраць колекцыю мінэральных парод, утвараючых тут напластаваньні. Наогул высьветліўся такі малюнак напластаваньняў (зьверху ўніз) з азначэньнем прыблізнай таўшчыні пласту:

1) Глебавы пласт — 1 м.
2) Чырвоная гліна — 1,5 м.
3) Жоўтая гліна — 0,5 м.
4) Рознакаляровая гліна — 2 м.
5) Агнятрывалая гліна — 1 м.
6) Пясок буйн. — 0,5 м.
7) „Рускі“ пласт вохры — 27 см.
8) Пясок белы — 1 м.
9) Пясок жоўты — 1 м.
10) Вохра француская (4 сорт) — да 18 см.
11) Вохра француская (1 сорт) — 5-22 см.
12) Пясок (белы і жоўты) — 3 м.

13) Суглінак цёмна-сіні з прапластаваньнямі — 1 м.
14) Чорны пласт гліністай пароды — 2-3 м.
15) Гляўконіт (на роўні Дняпра і ніжэй).

Усе гэтыя напластаваньні, за выключэньнем самых верхніх, адносяцца да трацьцёвай сыстэмы: пласты 2—5 утвараюць ярус рознакаляровых глін. Пласты 6—12 утвараюць Палтаўскі ярус трацьцёвай сыстэмы. Гэта—асад зьмялеўшага мора. Пласты 13—15 адносяцца да Харкаўскага ярусу, глыбокаводнага паходжаньня.

Прымаючы пад увагу нязначную параўнальна таўшчыню пласту францускай вохры, да таго-ж, глыбока закладзенай, пытаньне аб рэнтабэльнасьці вырабу яе патрабуе тэхнічных досьледаў і калькуляцыі,— тым больш што ўзімку транспартаваньне продукцыі (фарбаў і цэглы) робіцца выключна чужым спосабам. Бясспрэчна ўсё-такі, што ў бліжэйшы час узрасьце мясцовы попыт на цэглу, а магчыма і на керамічныя вырабы, у сувязі з чым да выяўленьня іншых месцазнаходжаньняў будаўнічай сыравіны Ляхава Гара і пры адсутнасьці чыгункі адыграе сваю ролю. Апрача таго, спробы, меўшыя мэтай вызначыць інтэрвал спаўзаньня глін з Ляхавай Гары і даць якасную ацэнку прыдатнасьці іх для вырабу будаўнічай цэглы, чарапіцы і клінкера, зробленыя па даручэньні заводу Дзяржаўным экспэрымэнтальным інстытутам сылікатаў у Маскве, далі станоўчыя вынікі, а іменна:

адзін з узораў гліны прызнаны годным для вырабу звычайнай, будаўнічай, ліцавой, брукавай цэглы і чарапіцы; другі прызнаны падыходзячым для вырабу ліцавой цэглы, чарапіцы і каналізацыйных труб; трэці—для вырабу каналізацыйных труб, чарапіцы і посуду; чацьверты—для вырабу каменнай пасудзіны, цэглы тыпу „Кудзінаўскай“ (агнятрывалая), падлогавых пліт, каналізацыйных труб і абліцоўнай цэглы; пяты—для вырабу агнятрывалай цэглы; шосты і сёмы могуць быць скарыстаны ў цаглянай вытворчасьці ў якасьці дадаткаў да гліны (замест пяску).

Апрача таго, тут ёсьць кварцавы пясок, зусім прыдатны для шкляной вытворчасьці.

### Шчытцы і іх проблематычная парода

Як сказана вышэй, заляганьні мінэральнай сыравіны, якая пры падмешцы анілінавых фарбоўнікаў ператвараецца ў фарбы розных колераў і можа замяніць існуючыя выпрабаваныя мінэральныя фарбы, знаходзіцца каля в. Шчытцы. У 1929 г., будучы ў Лоеве на заводзе, мы ўвесь час думалі аб гэтай сыравіне і цікавіліся выраблянымі з яе фабрыкатамі. Фабрыкату ў натуры не аказалася. Ці-ж магчыма было адмовіцца ад спакушэньня зьезьдзіць у Шчытцы і пабачыць на месцы гэту каштоўную залеж, гэты адзіны ў сваім родзе скарб? І мы паехалі. Мы сышлі ўніз і агледзелі закінутыя раскопы мінулых гадоў. Каля самага берагу і вышэй валяліся буйныя кавалкі пескавіку, афарбаванага ў жаўтаваты і чырванавата-жоўты колер вокісламі жалеза. Мясцамі з „жыўцоў“ цякла крыштальна-чыстая вада, якую запасаюць мясцовыя жыхары для піцьця. Мясцамі абгаляліся пласты пяску, вохры і гліны розных адценьняў. Наткнуцца-ж на сьляды цікавячай нас мінэральнай пароды „ахоўнага“ колеру нам на гэты раз не пашанцавала. 20 ліпня 1930 г. мы зноў наведалі завод і пераканаліся, што ў напрамку вырабу вапняковых фарбаў і трывалых танных фарбоўнікаў тэхніка за мінулы год нічога новага не зрабіла. Прыехалі ў Шчыт-

цы. Тут выявілася, што мясцовае насяленьне вельмі цікавіцца фарбавымі пародамі, зьвярнуўшымі на сябе ўвагу інжынэраў, і ўсе разьбіраюцца ў „достопримечательностях“ дняпроўскага берагу, у тым ліку і „ахоўным“ пласту. З чыста эканомічных меркаваньняў яны нецярпліва чакаюць аднаўленьня распрацовак. Дзякуючы Апанасу Андрэўцу і яшчэ аднаму аматару прыроды, добраахвотна далучыўшамуся да пошукаў проблематычнай пароды, нам удалося, ня гледзячы на пайшоўшы дождж, на некаторых выступах берагу дарыцца да цікавячага нас пласту. Гэты пласт у Шчытцах залягае між іншымі асадкавымі пародамі на значнай глыбіні ад паверхні, пад прапластаваньнем чыстага пяску і вохрыстай гліны, ніжэй за ярус рознакаляровых глін. У геолёгічным разрэзе Ляхавай гары такога пласту ня выяўлена. Трэба думаць, што там калісьці адбылося яго „выкліньваньне“, як пласту лагуннага паходжаньня. У гэту пластавую па структуры пароду, як паказаў зроблены па нашаму даручэньню якасны аналіз, уваходзяць калі, натры (?), кальцы, алюмін жалеза (у выглядзе окіснага злучэньня), магні, манган, бары ў форме сылікатаў, сярчанакіслых і хлёрыстых злучэньняў. Адзнак вуглякіслаты ня выяўлена.

Атрыманае намі ўражаньне: калі адчыненым зьяўляецца пытаньне аб рэнтабэльнасьці распрацоўкі вохры на Ляхавай гары,—дык тым больш гэта трэба сказаць аб проблематычнай фарбавай пародзе, выяўленай у Шчытцах і прызначанай для вырабу „вапняковых“ фарбаў.

Адсюль зусім не вынікае, што апісаная парода ня мае ў сабе тых ці іншых карысных магчымасьцяў. І час ужо кінуць паўтараць, што Шчытцы зьяўляюцца амаль што адзіным яе месцазнаходжаньнем[1]). Наадварот, геолёгам трэба было-б зьвярнуць на яе ўвагу і высьвятліць у больш шырокім маштабе яе пашырэньне. Шчытцы і Лоеў і самі павінны ўнесьці ў гэту справу долю сваёй працы.

## Пэрспэктывы разьвіцьця вытворчасьці

Побач з высокасартовай вохрай, Лоеўскі завод вырабляе мумію (жалезн. сурык) і умбру. Мумія бярэцца з натуральных жалезных руд з пэўным процантам жалеза, якія здабываюцца ў розных мясцох Лоеўскага раёну. Сыравіна для умбры, самай таннай і ходкай карычневай фарбы, якая складаецца з гліны, афарбаванай окісламі жалеза і манган, здабываецца ў Чарнігаўшчыне, каля в. Кратынь Рэпкінскага раёну. Продукцыя заводу, ня гледзячы на вымушаныя прарывы і перабоі ў працы, а таксама на ўстарэлае абсталяваньне, усё-ткі досыць добрай якасьці. Навуковая цэнтральная ляборатория Дзяржтрэсту „Лакокраска“ ўстанавіла, што, напр., з продукцыі заводу мумія цёмная вызначаецца добрай укрыўнасьцю і для ўжываньня прыдатна; умбра цёмная, пры добрай укрыўнасьці, таксама прыдатна; і адзін від умбры можна скарыстаць як умбру даваемай якасьці. Усё пытаньне цяпер у тым, ці забясьпечана заводу і як надоўга сыравінная база. Ці ёсьць шансы на зьніжэньне сабекошту продукцыі? Ці робяцца спробы рацыяналізацыі вытворчасьці?

Пачнем з апошняга. Творчай думкі адносна рацыяналізацыі вытворчасьці на заводзе асабліва не адчуваецца. Што-колечы, праўда, зроблена. Напр., з 1930 г. завод цалкам перайшоў на торфавае палі-

---

[1]) На адхонавым беразе Дняпра ў самім Лоеве П. І. Забела выявіла прапластаваньні той-жа пароды. Трэба праверыць.

ва і на „карчэўе“. Цеплатворная здольнасьць дроў некалькі вышэй параўнальна з торфам, але затое 10 к. мэтр. торфу каштуюць не 50 р. (цана дроў), а толькі 22 руб. Экономія. І яшчэ невялікая новаўводзіна: для абрэзваньня доньняў тары пастаўлена „цыркулярка“, дзякуючы чаму цяпер 1 рабочы за 8-гадзінны дзень робіць ня 80 штук, як было да гэтага, але 800 доньняў. Яшчэ: дабаўленьнем аднае клёпкі павялічаны памер бачонка, дзякуючы гэтаму 1 бачонак зьмяшчае ў сабе фарбы на 16 кг больш і лік бочак пры нагрузцы вагона скарачаецца на 20 шт. (патаненьне тары). Аднак, усяго гэтага для ўздыму вытворчасьці мала. Аб астатнім мы будзем гаварыць са слоў дырэктара заводу т. Зэлікава.

З прычыны значнага зьніжэньня адпускных цэн на продукцыю ў 1930-31 г. (супроць 1929-30 г.), неабходна ў тэрміновым парадку павялічыць програму хоць-бы на 75 проц. Для забясьпечаньня-ж выкананьня апошняй патрабуецца некаторае пераабсталяваньне заводу, а іменна:

1) Капітальны рамонт печы і пераробка яе для поўнага пераходу на торфавы апал.

2) Пабудова дадатковай сушні.

3) Устаноўка станка для размолу з 2-ма парамі жорнаў.

4) Устаноўка яшчэ аднаго рухавіка ў 20—30 конскіх сіл для абслугоўваньня дынамо-машыны і на выпадак дадатковай нагрузкі, а таксама для замены асноўнай машыны ў выпадку вымушанага стаяньня ці рамонту яе.

Усё гэта можа і павінна быць ажыцьцёўлена пры ўмове выяўленьня забясьпечваючай вытворчасьць *сыравіннай базы*. Да гэтага часу раскопкі робяцца саматужным спосабам бяз ніякага пляну і без выкананьня тэхнічных правіл.

Завод разьлічвае на прыезд вышукальнай партыі, каб мець ясны малюнак аб крыніцах сыравіны. Неабходна павялічыць продукцыю з 800 хоць-бы да 3.000 тон.

Да ўсяго вышэйсказанага мы дадамо яшчэ адно пажаданьне: няхай нашы маладыя хэмікі і геолёгі зацікавяцца гэтай хронічна хварэючай вытворчасьцю і сыравіннымі базамі для яе аздараўленьня!

Існуючыя на Ляхавай гары і ў раёне Шчытцоў залежы трэба добра дасьледваць і максымальна скарыстаць, не рызыкуючы асабліва буйнымі капітальнымі укладаньнямі ў вытворчасьць.

Мікалай Войтка

# Навасёлкаўская цагельня

*(Смалявіцкі раён)*

## Навасёлкі

Мясцовасьць наша глінай багатая. Па прыблізных падліках і то выходзіць, што на ста гектарах плошчы між Навасёлкамі першымі—Кашканом—Жажэлкай—Чорным-Лесам ды колгасам „Орка“ ляжыць вялікі пласт добраякаснай гліны, з якой можна рабіць цэглу. На гэтай плошчы залягае пласт гліны да 9 мэтраў таўшчыні. Для больш яскравага нагляданага ўяўленьня аб багацьці нашай мясцовасьці глінай прывяду разрэз грунту па калодзежы тав. Дарашкевіча Адама з колгасу „Орка“.

Пласты:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Чорназем . . . . . | 5,6 | сант. |
| 2. Белая зямля (падзоліца) . . | 5,6 | „ |
| 3. Гліна якасная, годная на выраб цыглы | 5,9 | м. |
| 4. Скала камень . . . . | 18,2 | сант. |
| 5. Пясок „шкляны“ (мяккі) . . | 4,2 | м. |
| 6. Буйны пясок (баляст) . . . | 2,1 | „ |
| 7. Дробны пясок—„бягун“ . . | 2,1 | „ |
| 8. Ваданосны пласт. | | |

Трэба мімаходзь зазначыць, што пласт скала-камень быў вельмі моцны: ні лом, ні кірка ня бралі, трэба было буравіць і ламаць кавалкамі.

Як відаць з таблічкі, пласт добраякаснай, годнай на цэглу гліны даволі вялікі, глыбока залягае ў зямлі. Прычым мясцовасьць ля цэнтру колгасу „Орка“, дзе выкапаны калодзеж Дарашэвіча, у адносінах гліны карыстаецца меншым аўторытэтам. Самы таўсьцейшы пласт добраякаснай гліны залягае ля першых Навасёлак, дзе пабудавана цагельня. Тут таўшчыня яго даходзіць да 9 і больш мэтраў, а таўшчыня пластоў вышэйляжачых (падзоліца) усяго 3-4 вяршкі. Значнай таўшчыні пласт гліны залягае і каля в. Чорны Лес, дзе таксама пабудавана цагельня. Нельга сказаць, што гліна ўсюды добраякасная і можа з посьпехам выкарыстоўвацца на выраб цэглы. У некаторых мясцох ля Навасёлак у гліне часта сустракаюцца вапенны каменчык (яго называюць „дуцікам“ або маргелем). Калі вапенны каменчык („дуцік“) велічынёй з гарошыну пападае ў цагліну, дык ён пры пажыганьні цэглы „дуецца“, разрывае цагліну і прыносіць вялікія страты.

З 1-га мая 1930 г. Смалявіцкі райкомбінат распачаў у гэтай багатай глінай мясцовасьці будаваць вялікую цагельню, якая-б сваёй продукцыяй забясьпечвала патрэбы будаўніцтва ў раёне. На пабудову цагельнага заводу на 1930 год Райкомбінатам было адпушчана 12 тысяч рублёў, але гэта сума была недастаткова. На пабудову заводу за 1930 год пайшло 22 тысячы рублёў. За гэту суму былі пабудаваны: паветкі для сушкі цэглы-сырцу, навес пад касілеўскую печ і самая печ. Аднэй печы і пабудаваных навесаў для сушкі сырцу аказалася зусім недастаткова, пабудова заводу працягнулася і пашырылася. На 1931 будаўнічы год Райкомбінат яшчэ адпусьціў на пашырэньне пабудовы 60 тысяч рублёў. На гэту суму павінна быць пабудавана другая касілеўская печ для пажыганьня цэглы, навес для печы і паветкі для сушкі цэглы-сырцу, з якіх да чэрвеня месяца пабудавалі паветку 40 м.×8 м., 80 м.×8 м. і навес для печы.

Асноўны капітал (каштоўнасьць усяго прадпрыемства) на чэрвень 1931 г. вызначыўся ў 82 тысячы рублёў.

* * *

У лагчынцы, ля гары, стаяць будынкі высланых кулакоў Кляніцкіх. Тут цапер у зялёнай мураўцы жывуць рабочыя і служачыя цагельні.

Побач, праз сенажаць,—лясок (год назад тут быў яшчэ добры лес) з гонкіх пахучых елак і сівых асін. У ляску блішчыць новая страха сталоўкі і відаць зэдлікі і сталы на жоўценькім пясочку падлогі, і кругом паветкі, паветкі, пад якімі хораша, акуратна складзена цэгла-сырэц. Там далей, ля самага лугу,—вялікая труба і высокая будыніна,—труба дыміць, сіні дым падымаецца ў вячэрняе блакітнае неба—гэта новая касілеўская печ для пажыганьня цэглы.

Вечарэе, але праца яшчэ ня скончана. Жвава накладаюць у формы вязкую гліну фармоўшчыкі, лоўка выкідаюць цэглу, яе падхоплівають і роўненька кладуць на зямлю, што пасыпана тоненькім пласьцікам жоўтага пяску. Ля самай дарогі скрыпіць дышла прэса. Панура ідуць дзьве паркі сівакоў. Рабочы без кашулі накідае на барабан гліну. З-пад прэса вылазіць гліна, яе рэжуць у роўныя цаглінкі...

Ля печы ляжаць вялікія кубічныя кучы торфу, побач сухія яловыя, бярозавыя дровы. Усюды, ля паветак, акуратна складзены апал для патрэб печы, каб без перабояў пажыгаць цэглу-сырэц. У сэзон 1930 году—першы год існаваньня цагельні—працавала толькі адна палявая печ, старажытнай конструкцыі, якою карысталіся дзяды і прадзеды дзесяткі год таму назад, у ёй пажыгалася цэгла.

Апалам для печы служылі дровы і торф. На сэзон 1930 году было закуплена 900 куб. мэтраў дроў на суму 2.250 руб. і 150 куб. мэтраў торфу на суму 240 рублёў.

На сэзон 31 году апалу закуплена значна больш з тае прычыны, што, акрамя палявой печы, працуе новая касілеўская печ. Закуплена 850 куб. мэтраў дроў і 3.000 куб. мэтраў торфу на суму 7.800 рублёў. (Торф закупляецца ў Высока-Лядзкім тарфяным таварыстве Пліскага с/с.). Пры скарыстаньні апалу ў палявой печы і касілеўскай выявілася, што ў палявой печы ідзе значна больш апалу на пажыганьне аднэй тысячы штук цэглы-сырцу. Для пажыганьня 1 тыс. штук цэглы ў палявой печы (у яе лезе 35 тыс. штук цэглы) трэба затраціць 7,5 куб. мэтраў дроў або торфу. Значна менш ідзе апалу, калі 1 тысяча штук цэглы пажыгаецца ў касілеўскай печы (касілеўская печ падзяляецца на два

аддзяленьні, у кожнае аддзяленьне лезе 45 тысяч штук цэглы; калі адно аддзяленьне працуе, дык другое „астые“). Тут на 1.000 штук цэглы, што пажыгаецца, ідзе толькі 3 куб. мэтры апалу. Адсюль відаць, што палявая печ дарма „есьць“ амаль 4,5 куб. мэтры апалу на кожную тысячу штук цэглы. А колькі дарма „зьесьць“ палявая печ дроў і торфу за сэзон? За ўвесь час свайго існаваньня? Гэта дае вялізарныя страты для прадпрыемства, вялікую шкоду для нашых лясных багацьцяў. Калі прызадумацца над тым, што апалу ў нас ня так ужо многа і што яго ўжываць трэба рацыянальна, экономна, каб меншая колькасьць затрачанага апалу давала найбольшую карысьць для соцыялістычнай вытворчаеьці,—дык зусім правільным вывадам будзе як-мага хутчэй зьнішчыць палявую печ, замяніць яе новай касілеўскай. Задачу замены палявой печы касілеўскай дырэкцыя цагельні і Смалявіцкі райкомбінат ужо ўхвалілі, і палявая печ—увасабленьне прымітыўнасьці, старасьвецкасьці цагельнай тэхнікі—будзе хутка заменена новай касілеўскай печчу з вялікай карысьцю для прадпрыемства.

Маладыя хлопцы-пагоншчыкі паганяюць коняй. Напяліўшы персьці, панура ідуць коні, скрыпіць дышла, круціцца прэс, вылазіць тоўстая лента гліны, жанчына нажом адразае роўныя цаглінкі. Іх падхватваюць і складаюць на зямлі, хораша пасыпанай жоўценькім пясочкам. Сохне цэгла-сырэц.

...У сэзон 1930 году на цагельні працавала ўсяго 20 рабочых-сэзоньнікаў, з іх было 15 чалавек мужчын. У гэтым годзе сэзоньнікаў 25 чалавек. Сэзоньнікамі на цагальні сяляне-аднаасобнікі і колгасьнікі з бліжэйшых вёсак: Восава, Жажэлка, Калюга, Чорны-Лес, Навасёлкі, колгасу „Орка“. Сэзоньнікі ідуць на працу на сэзон з мая да кастрычніка месяца.

Цякучасьць рабочай сілы дрэнна адбіваецца на організацыі рабочых-сэзоньнікаў, на культпрацы сярод іх. З усіх рабочых толькі 8 чалавек пастаянных рабочых. Для далёкіх рабочых і служачых ёсьць дзьве жылыя хаты.

Сэзоньнікі цагельні падпісаліся на „пазыку трэцяга рашаючага году пяцігодкі“ на суму 840 рублёў і служачыя, якіх пяць чалавек, на суму 395 рублёў.

Цякучасьць рабочай сілы вельмі шкодна адбіваецца на выкананьні вытворчага пляну прадпрыемства.

За сэзон 1930 году было выпрацавана ручным спосабам 270 тыс. штук цэглы. Большая частка выпрацаванай цэглы была скарыстана на пабудову касілеўскай печы. Рэшта прадана савецкім установам, прадпрыемствам м-ка Смалявічы і зусім нязначная частка—сялянам аколічных вёсак. За сэзон 1931 году цагельні трэба выпрацаваць 1 мільён штук пажыганай цэглы. Гэта заданьне трэба выканаць, каб не зрабіць прарыву ў будаўніцтве ў раёне. Праца на цагельні пачалася 20-га мая і да 1 ліпня выканана толькі 20 проц. пляну, што трэба лічыць вельмі недастатковым. Дзе-ж прычына невыкананьня пляну? Першая прычына—самацёк рабочае сілы.

Адзін раз прыдзе на працу 20 чалавек, другі—15, 13 і г. д. Некаторыя сэзоньнікі на тыдзень робяць два выхадныя дні. Гэта ня спрыяе выкананьню цьвёрда намечаных плянаў цагельні.

На працу ходзяць некаторыя колгасьнікі з колгасаў „Орка“, „Зьвязда“. У час гарачай уборачнай кампаніі праўленьні колгасаў адзываюць сваіх колгасьнікаў з цагельні, бо і ў колгасе працы—хоць адбаўляй. Цагельня траціць рабочыя рукі, зьяўляюцца вялікія прарывы ў выкананьні пляну. Бывалі дні, калі прадпрыемства зусім не

працавала, бо ня было рабочых. Цякучасьць рабочай сілы, неорганізаваны прыход яе на прадпрыемства—вось адна з прычын прарываў у выканьні пляну.

Прадпрыемства хоць і мае пяць навесаў (паветак) для сушэньня цэглы-сырцу, але гэтая колькасьць паветак, плошча сушэньня, аб'ём сушэньня—не здавальняе патрэб. Нярэдка трэба адкамандыроўваць частку рабочай сілы, у якой і так адчуваецца вялікі недахоп, каб перакладаць цэглу-сырэц з месца на месца. Гэта нерацыянальнае скарыстоўваньне рабочай сілы таксама адмоўна ўплывае на выкананьне пляну.

Цяпер аб мэханізацыі.

Што значаць некалькі пар тонкіх рэек для перавозкі ваганэтак?! На першы погляд зусім мала. Каб гэтых рэек на цагельні прыладзілі некалькі пар, дык павысіўся-б тэмп нагрузкі, выгрузкі ў шэсьць разоў!

Фармаўшчыком, якіх пяць чалавек, гліна падаецца на тачках, падсохлая цэгла-сырэц адвозіцца таксама на тачках. У тачку можна пакласьці толькі 50 штук цэглы або гліны на 50 штук цэглы. Зусім іншае было-б, каб былі ваганэтныя рэйкі і калі-б грузы да фармаўшчыкоў і ад іх перавозіць на ваганэтках. У ваганэтху можна пакласьці 300 шт. цэглы або гліны на 300 шт. цэглы. Гэта маленькая рацыяналізацыя ў шэсьць разоў зьменшыла-б вандраваньне ад месца капаньня гліны да фармаўшчыкоў і ад іх пад паветкі.

Цагельня мае два прэсы, якія працуюць на конскай сіле. Адзін з прэсаў не працуе з прычыны адсутнасьці цягавай сілы. Прэс выпрацоўвае ў дзень 3.000 шт. цэглы-сырцу, у той час, як пяць фармаўшчыкоў выкідаюць за працоўны дзень пяць тысяч штук цэглы. Каб павысіць вытворчасьць цэглы, трэба мэханізаваць яе хаця-б шляхам увядзеньня ў вытворчасьць прэсаў.

Цагельня ня мае кваліфікаванай сілы, што тлумачыцца цякучасьцю рабочай сілы.

## Заробак

З першага дня працы ў сэзон 1931 г. на цагельні ўведзена зьдзельшчына, выпрацавана норма выпрацоўкі па кожнаму віду працы. За аснову ўзята выпрацоўка 1 тысячы штук цэглы-сырцу.

| | |
|---|---|
| Формоўка ў ручную 1 тысячы штук цэглы-сырцу аплачваецца | 4 р. 50 к. |
| Падача на стол гліны—„сталоўка“ | 4 р. 50 к. |
| Копка з дастаўкай у скрынку Шнэйдара (глінамялка) | 3 р. — |
| Уборка з пляцу пад паветку | 2 р. — |

Нормы выпрацоўкі 1 тысячы штук цэглы-сырцу прэсам крыху іншыя:

| | |
|---|---|
| Копка гліны на 1 тысячу штук цэглы-сырцу каштуе | 3 р. — |
| Накідка на барабан | 1 р. 50 к. |
| Адрэзка | 1 р. — |
| Здымка | 1 р. — |
| Адвозка і складка пад паветкай | 4 р. — |
| Падкідка | 1 р. 50 к. |
| Паганяць коняй за працоўны дзень | 1 р. 25 к. |

Агулам выпрацоўка 1 тысячы штук цэглы (усе віды працы ад капаньня гліны да пажыганьня цэглы) у ручную каштуе 14 р. 50 к., выпрацоўка тысячы штук сырцу пры дапамозе прэса каштуе 13 р. 25 к. Кваліфікаваны рабочы заробіць каля 9 рублёў у рабочы дзень ці ў месяц да 200 рублёў. Менш кваліфікаваныя рабочыя, якія выкідаюць за працоўны дзень толькі 700 шт. цэглы-сырцу, зарабляюць у дзень 3 р. 15 к., а ў месяц да 80—90 рублёў. Вывад адсюль адзін: цагельні неабходны кваліфікаваныя работнікі.

У гонкім зялёным ельніку зроблена летняя сталоўка для рабочых. Акуратна пастаўлены пахучыя сасновыя зэдлікі, сталы, на падлозе жоўты пясочак, шчыльна прыбіты нагамі. З маленькай куханькі ідзе смачны пах тлустых буракоў і паранага малака... Тут абедаюць рабочыя. Абеды ў сталоўцы каштуюць усяго толькі 35—40 капеек. Абеды добрыя: рыба, мяса, тлустыя буракі, малочны суп і хлеба колькі хочаш.

Пасьля яды чытаюць газэты, часопісы.

Неахвотнікі чытаць — пад шэпты зялёных верхавін елак і сівых асін дрэмлюць, а пасьля кладуцца на лавы або ідуць у пуню паспаць дзьве гадзіны да званка. Роўна ў дзьве гадзіны падаюць сыгнал на працу.

І зноў — у гарачых праменьнях сонца, у срабрыстай зеляніне хмызьнякоў, травы, пад звон тысяч нябачных пяшчотных званочкаў, пад шэпты пахучых яловых верхавін, калі ўсё навокал працуе і творыць,—пачынаецца праца на цагельні.

---

А. М. Бальшакоў

# Краязнаўцам трэба зьвязацца з Р. С. І.

Краязнаўства — гэта грамадзкі рух, які яднае мясцовае працоўнае насельніцтва, прымаючае актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве свайго краю на аснове ўсебаковага, сынтэтычнага і строга марксыцкага яго вывучэньня. Пры такім разуменьні краязнаўства (а інакш яго разумець савецкі краязнаўца і ня можа) уся краязнаўчая праца павінна быць грунтоўна ўвязана з дзейнасьцю плянуючых органаў. Гэтая ўвязка неабходна па ўсёй сыстэме і краязнаўчых і плянуючых органаў як зьверху ўніз, так і зьнізу ўверх—ад Ц. Б. К. і Дзяржпляну да раённых бюро краязнаўства і райпланаў. І нават далей, паколькі ніжэйшым краязнаўчым ячэйкам (на фабрыках, заводах, у савгасах, у колгасах) належыць строга ўзгадняць сваю працу з адпаведнымі плянуючымі ячэйкамі, або, калі такіх няма, — з асобнымі плянавікамі сваіх прадпрыемстваў і гаспадарак [1]). Без такой увязкі зусім немажліва краязнаўчая праца, абсолютна немагчымы актыўны ўдзел краязнаўцаў у соцыялістычным будаўніцтве, якое і ўсё цалкам і ў асобных частках сваіх базуецца на дасканала прадуманым пляне, які зьяўляецца аднэй з крыніц Саюзу ССР і яго перавагі над капіталістычнымі краінамі.

Практычныя формы сувязі краязнаўцаў з плянуючымі органамі— гэта пытаньне вялікае і шматбаковае. Яно ўжо ставілася і, пэўна, яшчэ неаднокраць будзе ставіцца ўпарадак дня і краязнаўчага друку і краязнаўчых конфэрэнцый. Мы асабіста зараз ня зьбіраемся чапаць гэтага пытаньня.

У гэтым артыкуле мы хацелі-б пагаварыць аб неабходнасьці ўвязаць краязнаўчую працу з працаю органаў Рабоча-сялянскай інспэкцыі (Р. С. І). І мы раней усяго падкрэсьліваем, што ўвязаць працу краязнаўцаў з працаю РСІ трэба ў інтарэсах разьвіцьця самога краязнаўчага руху.

Пазнаёмімся ў кароткіх словах з самою сутнасьцю працы РСІ. Гэта дазволіць нам пераканацца ў сапраўднай карыснасьці для справы краязнаўства яго ўвязкі з працаю РСІ. „Правяраць людзей і правяраць фактычнае выкананьне справы — у гэтым, яшчэ раз у гэтым, толькі ў гэтым гвозд усёй працы, усёй палітыкі“,—вучыў Ул. І. Ле-

[1]) Калі браць савгасы або колгасы, дык у вельмі буйных з іх ёсьць спэцыяльныя ячэйкі ці ў іншым выпадку пэўныя асобы, на якіх поўнасьцю ўскладзена справа плянаваньня гаспадарчага і культурна-бытавага жыцьця данага савгасу або колгасу. Але не падлягае ні малейшаму сумненьню, што ў сувязі з разьвіцьцём і ўзмацненьнем грамадзкасьці ў соцыялістычным сэктары вёскі і пашырэньнем руху за сустрэчны прамфінплян, у кожным савгасе і колгасе, у канцы канцоў, выкрышталізуюцца па лініі грамадзкасьці групы па плянаваньню.

нін. Возьмем да прыкладу плянаваньне. Само сабою зразумела, што нават стала прадуманы і дасканала распрацаваны плян таго ці іншага вучастку нашага соцбудаўніцтва ў процэсе правядзеньня яго ў жыцьцё можа цярпець дзеля розных прычын вялікія і зусім непажаданыя зьмены. Усё залежыць ад таго, у чые рукі пападае выкананьне пляну, якімі тэмпамі ён ажыцьцяўляецца, у якіх конкрэтных умовах праходзіць яго рэалізацыя і г. д. Значыць, каб забясьпечыць выкананьне пляну соцыялістычнага будаўніцтва поўнасьцю і ў тэрмін— трэба сыстэматычна і бесьперастанку контроляваць і правяраць працу шматлікіх савецкіх установ і організацый, установкі працы, тэмпы яе, асабісты склад і г. д. Вось гэты абавязак па контролю і праверцы ўсяго аб'ёму працы ўсіх літаральна савецкіх установ і організацый і ляжыць на сетцы органаў РСІ: на ўсесаюзным і рэспубліканскіх наркаматах, на абласных, краёвых і раённых органах.

Пры абсьледваньні працы ўстаноў, зьведзенай, па сутнасьці кажучы, да выкананьня грандыёзнага пляну соцбудаўніцтва (прынамсі, яна павінна да гэтага зводзіцца), РСІ, разам з многімі і многімі практычнымі прапановамі па выпраўленьню або разьвіцьцю дзейнасьці ўстаноў, нярэдка высоўвае на абгаварэньне належных урадавых і партыйных органаў новыя орыгінальныя проблемы, якія і знаходзяць сабе сваё прыстасаваньне.

Каб мець упаўне яснае і выразнае прадстаўленьне як аб характары, так і аб аб'ёме працы РСІ, было-б карысна азнаёміцца з плянамі працы ўсёй сеткі РСІ—ад НК РСІ СССР да асобных РайРСІ. Аднак разьвязаць гэтую задачу ў невялікім артыкуле немагчыма. Пагэтаму прагледзім хаця-б мелькам плян працы на 1931 год па якомунебудзь аднаму з раёнаў СССР, якіх у нас у саюзе каля 3.000. Мы бяром іменна плян працы РайРСІ, бо РайРСІ, як нізавыя органы, знаёмы шырокім колам працоўных. З шматлікіх плянаў прац раённых РСІ мы прыводзім адзін, бяз усякага нарачытага выбару, нават скажам проста—па раёну выпадкова трапіўшаму пад рукі (з 3.000 раёнаў усёроўна немагчыма выбраць адзін, які быў-бы „тыповым“), прычым і сама распрацоўка гэтага пляну самая „сярэдняя“. Бяром якраз такі плян, які ў пераважнай большасьці выпадкаў можа апынуцца ў руках краязнаўцаў.

Мы спыняемся на Валосаўскім раёне, цэнтар якога знаходзіцца на адлегласьці 100 км ад Ленінграду, напрамак гаспадаркі—малочна-жывёлаводчы, па тэрыторыі раёну праходзіць чыгунка—Ленінград—Кінгісэп (і далей на Рэвель). Па пляну працы Валосаўскай РайРСІ мы прыводзім толькі назву тэм і паказаньні на об'екты абсьледваньня, удзельнікаў абсьледваньня і тэрміны.

| Пытаньні абсьледваньня | Об'екты, абсьледваньня | Удзельнікі абсьледваньня | Тэрміны |
|---|---|---|---|
| 1. Праверыць ход зімовых лесанарыхтовак | Ізварскі, Бегуніцкі, Верэсцкі ўчлеспрамгасы і 7 сельсаветаў | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя | Студзень |
| 2. Праверка падрыхтоўкі да вясновай пасеўнай кампаніі | Райза, Райколгассаюз, Малжывёлсаюз, 2-3 колгасы, 2-3 сельсаветы | Лёгкая кавалерыя, актыў РСІ | Люты |

| Пытаньні абсьледваньня | Об'екты абсьледваньня | Удзельнікі абсьледваньня | Тэрміны |
|---|---|---|---|
| 3. Праверка ходу ўсеагульнага навучаньня і лікнеп'у | Райіна і 13 школ | Актыў РСІ, сэкцыі РСІ сельсаветаў | Сакавік |
| 4. Праверка падрыхтоўкі да сплаву | Малоскавіцкі і Бегуніцкі ўчлеспрамгасы | Актыў РСІ | 2-ая палова красавіка |
| 5. Падрыхтоўка да вясновай пасеўнай кампаніі | Сумінская група саўгасаў і саўгас „Каложыцы“ | Група спэцыяльналёгкай кавалерыі і брыгадзіры | Красавік |
| 6. Падрыхтоўка к будаўніцтву ў саўгасах і колгасах | Сумінская група саўгасаў, колгассаюз, 2-3 колгасы | Актыў РСІ, спэцыялісты | 2-ая палова красавіка і 1 палов. мая |
| 7. Праверка выкананьня бюджэту. | Р. В. К. і 2 сельсаветы | Актыў РСІ, спэцыялісты, сэкцыі РСІ | 2-ая палова красавіка, ліпень, кастрычнік |
| 8. Праверка выкананьня фактычнага пляну колектывізацыі | Райза, Райколгассаюз, 3-4 колгасы, 2-3 сельсаветы | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя, сэкцыі РСІ пры сельсаветах | Май |
| 9. Мобілізацыя сродкаў усіх відаў. | Дзяржбанк, Райфа, Райспажсаюз, Раймалжывёлсаюз, Ашчадкаса, 4 сельсаветы | Актыў РСІ, спэцыялісты, лёгкая кавалерыя | Май, верасень |
| 10. Падрыхтоўка да дарожнага будаўніцтва | Аддзел мясцовай гаспадаркі, кантора дарожнага транспорту | Сэкцыі РСІ Р.В.К. Актыў РСІ | Май |
| 11. Праверка фактычнага выкананьня пляну зімовых лесанарыхтовак | 4 Учлеспрамгасы | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя | Май |
| 12. Праверка дачы цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам і фактычнае іх выкананьне | Райфа, Райза, Райспажсаюз, Раймалжывёлсаюз, 5 сельсаветаў, 3 пасялковыя т-вы | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя | Май, лістапад |
| 13. Падрыхтоўка да ўборачнай кампаніі | Райза, Колгассаюз, Райспажсаюз, 2-3 сельсаветы, 2-3 колгасы 2 пасялк. т-вы, Р.К.С-ту, 1-2 саўгасы | Актыў РСІ, спэцыялісты, лёгкая кавалерыя | 2-ая палова чэрвеня |
| 14. Разьвіцьцё таварна-малочнага стада | Раймалжывёлсаюз, Райза, 2-3 колгасы, 1 саўгас, 2-3 пасялк. т-вы | Сьпэцыялісты, актыў РСІ, самаправерка | 1 пал. чэрвеня |
| 15. Выкананьне прамфінпляну па якасным і колькасным паказчыкам | Сабскі лесапільны завод, малочны завод | Актыў РСІ, самаправерка | Ліпень—сьнежань |
| 16. Праверка выкананьня каштарысаў, гаспадарчага разьліку, прадпрыемстваў і ўстаноў | Дзяржбанк, Райспажсаюз, Малжывёлсаюз, Колгассаюз, Сумінская група саўгасаў і саўгас „Маласковіцы“ | Спэцыялісты, актыў РСІ | Ліпень—сьнежань |
| 17. Праверка тавараабароту і забясьпечаньне таварамі вёскі | Райспажсаюз, 2-3 сельпо, 2-3 рабкопы | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя | Жнівень |
| 18. Падрыхтоўка да васеньняга севу | Райза, Райколгассаюз, Райспажсаюз, 2-3 колгасы, 2-3 сельсаветы, 2 пасялк. т-вы | Актыў РСІ, лёгкаа кавалерыя | Жнівень |

| Пытаньні абсьледваньня | Об'екты абсьледваньня | Удзельнікі абсьледваньня | Тэрміны |
|---|---|---|---|
| 19. Разгрузачныя і пагрузачныя працы, сваечасовая падача вагонаў | Ст. Валосава, ветка Даламітаўскага заводу, ветка Кюрнеўскага кар'еру | Актыў РСІ, транспортнікі, лёгкая кавалерыя | Жнівень |
| 20. Скарыстаньне сродкаў самаабкладаньня па іх простаму прызначэньню | Райфа і 5 сельсаветаў | Актыў РСІ, сэкцыі РСІ сельсаветаў | Жнівень |
| 21. Падрыхтаванасьць памяшканьняў для хаваньня гародніны і збожжа, да васеньніх нарыхтовак | Райспажсаюз, Раймалжывёлсаюз, 2 сельпо, 2 саўгасы | Лёгкая кавалерыя, сэкцыі РСІ, самаправерка | Жнівень |
| 22. Стан мэдыцынскага і вэтэрынарнага абслугоўваньня насельніцтва | Райздраў, 2 бальніцы, вэтпункт | Актыў РСІ, сэкцыі РСІ і сельсаветаў | Жнівень |
| 23. Падрыхтоўка да зімовых лесанарыхтовак | 4 учлеспрамгасы | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя | Верасень |
| 24. Праверка нарыхтовак усіх відаў | Райспажсаюз, Раймалжывёлсаюз, 2 пасялковых т-вы, 2 сельпо, Дзяржгандаль і саюз Паляўнічых | Актыў РСІ, лёгкая кавалерыя і сэкцыі РСІ | Верасень |

Тэмы абсьледваньняў прыведзены намі ў іх голым відзе без расшыфроўкі, якая прыкладзена да пляну і займае некалькі старонак. З пералічэньня тэм мы бачым, што яны абхопліваюць значную колькасьць разьдзелаў гаспадарчага і культурнага будаўніцва раёну. Але ў той-жа час далёка ня ўсе разьдзелы, бо на працягу году, пры наяўнасьці многіх і многіх пазаплянавых заданьняў (іх высоўвае літаральна кожны бягучы дзень) немагчыма дасканала праверыць літаральна ўсе бакі жыцьця раёну. (У пляне на 1931 г. няма абсьледваньня працы суда і шмат інш. устаноў). Рад адсутнічаючых тэм па пляну 1931 году праходзілі раней і пойдуць пазьней. Але, бясспрэчна, адно: усе тэмы пляну прадстаўляюць надзвычайны інтарэс для краязнаўцаў. Для нас, краязнаўцаў, асобы, выключны інтарэс.

Мэтоды працы РСІ. Штатных працаўнікоў РСІ мае нязначную колькасьць. Так, звычайны штат РайРСІ (бяром сярэдні раён па Ленінградзкай вобласьці): старшыня, загадчык бюро скаргаў і адзін інспэктар[1]). Але РСІ зусім і ня імкнуцца павялічваць свае штаты, бо ўсю сваю працу, аграмадную па аб'ёму і значную па сваіх станоўчых выніках, праводзяць сіламі шырока прыцягваемай савецкай грамадзкасьці. Працоўных, штогодна ўдзельнічаючых у шматлікіх абсьлед-

[1]) Трэба адзначыць, што па сваёй організацыйнай структуры органы РСІ (ад раённых да Ўсесаюзнага Наркамату) носяць дваісты характар: яны адначасова зьяўляюцца і савецкімі і партыйнымі контрольнымі органамі. Поўная назва як раённага, так і вышэйстаячых органаў такое—РайКК РСІ (контрольная камісія—па партыйнай лініі і Рабоча-сялянская Інспэкцыя—па савецкай лініі), ОблКК РСІ і г. д. Штат працаўнікоў КК РСІ праводзіць працу і па савецкай і па партыйнай лініі. Прыведзены намі плян працы па Валосаўскаму раёну—гэта толькі плян працы па савецкай лініі. Па партыйнай лініі Валосаўская РайКК РСІ мае асобны плян працы.

ваньнях, якія праводзяцца органамі РСІ, трэба вылічаць лічбаю ня менш мільёна. Установка-ж РСІ—дабіцца таго, каб прыцягнуць да сваёй працы мільёны і дзесяткі мільёнаў працоўных. Абсьледваньні РСІ, у залежнасьці ад колькасьці і якасьці прыцягненых сіл і часу, патрачанага на кожнае з іх, носяць больш ці менш паглыблены характар. Але абсьледваньне РСІ само па сабе ўжо зьяўляецца першапачатковаю стадыяй вывучэньня краю (орыентовачным, зразумела), якое ставіць сваёю канечнаю мэтаю его соцыялістычнае перабудаўніцтва.

Па самой сутнасьці сваёй праца органаў РСІ блізка да краязнаўчай працы. Але мы ні ў якім разе ня хочам паставіць паміж імі знак роўнасьці. Мы добра разумеем, што гэтага нельга рабіць, бо краязнаўчае вывучэньне—гэта іменна вывучэньне і як гэткае адрозьніваецца ад абсьледваньня, хаця-б нават і паглыбленага, і сваёй дэталізацыяй, і сваёй мэтодыкай, і сваімі практычнымі мэтамі і задачамі і г. д.

Рэзюмуем:

1) З прычыны таго, што праца органаў РСІ насычана краязнаўчымі матар'яламі (мясцовы матар'ял) і па сваіх мэтодах (абсьледваньне з прыцягненьнем шырокай савецкай грамадзкасьці) блізка да краязнаўчай працы, краязнаўчым організацыям неабходна ў максымальнай ступені ўвязаць плян сваёй працы з плянам працы мясцовай РСІ.

2) Паказаная ўвязка пляну павінна насіць актыўны характар, гэта значыць, уносіць у плян сваёй краязнаўчай працы рад тэм, якія маюцца ў пляне працы РСІ і прадстаўляюць з краязнаўчага пункту погляду значны інтарэс; краязнаўцы ў той-жа час высоўваюць свае тэмы, найбольш актуальныя для данага моманту, у адносінах якіх пажадана правесьці орыентовачнае абсьледваньне, для ўключэньня іх у плян працы мясцовай РСІ.

3) Краязнаўцам належыць прымаць самы непасрэдны і блізкі ўдзел у абсьледвацельскай працы РСІ, па тэмах, маючыхся адначасова як у пляне працы РСІ, так і ў пляне працы краязнаўчай організацыі; па сканчэньні абсьледваньня РСІ, па гэтых тэмах краязнаўцы вядуць далей сваё, ужо больш сталае, вывучэньне об'ектаў, якія яны абсьледвалі пад сьцягам РСІ.

4) Краязнаўцам трэба заўсёды памятаць, што актыў РСІ — гэта магчымыя кадры краязнаўцаў (абсьледаньне РСІ будзіць у прыцягненых да абсьледваньня інтарэс да вывучэньня ў поўным сэнсе гэтага слова мясцовага краю, адным словам — смак да краянаўчай працы). І таму належыць энэргічна праводзіць сярод актыву РСІ пропаганду краязнаўства; свае-ж краязнаўчыя кадры краязнаўчай організацыі належыць абавязкова ўключаць у абсьледвацельскую працу РСІ, якая ўскрывае перад краязнаўцамі самыя асноўныя пытаньні гаспадарчага і культурнага соцбудаўніцтва мясцовага краю ў іх актуальным пераламленьні і прыводзіць краязнаўцаў да шырокіх зносін з масамі, а гэта палягчае мажлівасьць організоўваць краязнаўчыя ячэйкі пры гаспадарках і прадпрыемствах, якія абсьледуюцца РСІ (савгасы, колгасы, фабрыкі, заводы, школы і г. д.).

Ітак, краязнаўцам трэба, не марудзячы, зьвязацца ў сваёй працы з мясцовымі органамі РСІ. Але і РСІ належыць магчыма паўней контактаваць сваю працу з краязнаўцамі, бо апошнія, зьяўляючыся мясцовымі людзьмі і актыўна ўдзельнічаючы ў соцбудаўніцтве свайго краю на аснове ўсебаковага, сынтэтычнага і строга марксыцкага яго вывучэньня, заўсёды змогуць падвесьці пад абсьледваньне РСІ грунтоўную базу, нярэдка вельмі тонка ведаючы пастаўленую на абсьледваньне тэму.

Я. Агееў

# Шкодніцтва ў пытаньнях індустрыялізацыі с.-г. БССР

М. С. Мацярыкін. — *Асновы індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР, Менск, БДВ, 1930 г., 10.000 экз. Цана 50 кап.*

Пытаньні індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі займаюць цэнтральнае месца ў сыстэме пытаньняў па соцыялістычнай рэканструкцыі с/г., таму кожная навуковая праца ў гэтай галіне павінна прыцягваць да сябе вялікую ўвагу шырокіх колаў нашай пролетарскай грамадзкасьці. Правільнае асьвятленьне пытаньняў індустрыялізацыі с/г. магчыма толькі ў тым выпадку, калі яно будзе вынікаць з правільнай марксыцка-ленінскай тэорыі ў галіне будаўніцтва соцыялізму ў сельскай гаспадарцы, калі гэтае асьвятленьне пытаньняў індустрыялізацыі будзе праходзіць у бязьлітаснай барацьбе з буржуазнымі тэорыямі па індустрыялізацыі с/г, у барацьбе за генэральную лінію партыі па соцыялістычнаму будаўніцтву ў с/г. Усякі іншы шлях немінуча вядзе да простага шкодніцтва соцыялістычнаму будаўніцтву ў с./г.

Аўтар рэцэнзаванай кніжкі стаіць на гэтым апошнім шляху, гэта мы папрабуем давесьці, разглядаючы зьмест. Шкодніцкая-ж работа аўтара выкрыта і спынена органам пролетарскай дыктатуры—ДПУ.

Прэтэнзіі аўтара у данай працы надта вялікія. Так, у прадмове ён піша: „Даная праца зьяўляецца вынікам заходняй і нашай тэхнолёгічнай думкі і нашай савецкай экономікі і політыкі“ (стар. 3). Праўда, ніжэй прыведзена агаворка, што ўсе гэтыя пытаньні закрануты ў кнізе не з належнай паўнатою—„недахоп часу і месца, кажа аўтар, — ня даў магчымасьці паглыбіць закранутыя пытаньні і апісваць іх прыкладамі. Прышлося абмежавацца выкладаньнем толькі асноўных думак і вынікаў па закранутых пытаньнях“ (стар. 3); „мы ставілі на мэце ў данай кніжцы даць адказы на асноўныя пытаньні індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі“ (стар. 4). Значыць, задачай данай працы зьяўляецца падвесьці вынікі заходня-эўропейскай і нашай тэхнолёгічнай думкі, асьвятліць іх пад кутом погляду нашай экономікі і політыкі, даць адказы на асноўныя пытаньні практыкі нашай працы па індустрыялізацыі с/г. у БССР.

Якія-ж гэтыя асноўныя пытаньні аўтар абірае і як ён іх асьвятляе і вырашае?

Для гэтага ён бярэ наступныя галоўныя пытаньні:

1) Выяўленьне пытаньня індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі.

2) Кароткая характарыстыка сельскай гаспадаркі БССР. Пэрспэктывы яе разьвіцьця.

3) Агроіндустрыяльныя комбінаты.

4) С.-г. прамысловасьць БССР.

Пойдзем парадкам, вызначаным самім аўтарам.

I

Пачнем з „выяўленьня пытаньня індустрыялізацыі с./г.“. У гэтым разьдзеле кнігі, маючым зусім нявыразны загаловак, даецца рад тэорытычных формулёвак для азначэньня індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі і па характарыстыцы с/г.

Гэтыя тэорытычныя формулёўкі зьмяшчаюць у сабе тэорытычныя ўстаноўкі буржуазных рэстаўратараў—Кандрацьева, Чаянава.

Увесь ход разважаньняў аўтара па вызначэньні разуменьня індустрыялізацыі падагульваецца наступнай формулёўкай:

*„У шырокім сэнсе гэтага слова індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі ўяўляе сабою працэс укараненьня прамысловых мэтодаў працы ва ўсе часткі сельска-гаспадарчай вытворчасьці“* (стар. 5, падкрэсьлена аўтарам). Пад індустрыялізацыяй трэба разумець „увядзеньне ва ўсе галіны с/г. вытворчасьці (паляводзтва, жывёлагадоўля, прамысловасьць (?) і г. д.) прамысловых мэтодаў працы буйной вытворчасьці“ (стар. 7). У гэтых азначэньнях індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі, як і ва ўсім ходзе разважаньняў па гэтаму пытаньню, аўтар стаіць, *па-першае,* на позыцыі адрыву індустрыялізацыі с/г. ад індустрыялізацыі нашай краіны наогул, ад разьвіцьця буйной прамысловасьці і, *па-другое,* адсюль вынікае зьмешваньне індустрыялізацыі з мэханізацыяй с/г., з узбройваньнем бедняка і серадняка-колгасьніка простай і складанай с/г. машынай для павышэньня яго вытворнасьці працы. Сваімі азначэньнямі разуменьня індустрыялізацыі с/г. аўтар не дае нічога новага ў параўнаньні з тым, што ўжо сказалі пра гэта Хаккерт і інш. буржуазныя вучоныя. Гэтыя азначэньні зьяўляюцца нічым іншым як слабасільнымі перапевамі сваіх колег.

Індустрыялізацыя с/г. вытворчасьці зьяўляецца галоўным зьвяном у нашай экономічнай палітыцы, накіраванай на перавод бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак у колгасы, на організацыю буйных соцыялістычных с/г. фабрык—саўгасаў, што ў першую чаргу абазначае зьнішчэньне ўсякай эксплёатацыі ў вёсцы, зьнішчэньне ранейшага соцыяльнага тыпу с/г. у нашай краіне, зьяўленьне новага соцыяльнага тыпу с/г., які зьяўляецца поўнай супроцьлегласьцю соцыяльнаму тыпу той індустрыяльнай с/г. вытворчасьці, якая існуе на аснове высокай тэхнікі ў капіталістычных краінах, дзе галоўнай задачай ставіцца эксплёатацыя рабочых і бяднацка-серадняцкіх мас вёскі. Наша-ж соцыялістычная індустрыялізацыя с/г. мае сваёй мэтай зьнішчыць усякую эксплёатацыю, палепшыць экономічны і культурны дабрабыт батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас.

Гэтай розьніцы паміж капіталістычнай буйной с/г. вытворчасьцю і соцыялістычнай аўтар не адзначае, зусім не дае разуменьня гэтай розьніцы. Ён будуе ўсе свае разважаньні бяз усякага ўліку асаблівасьцяў нашай соцыялістычнай экономікі, яго разважаньні аднолькава ім прыстасоўваюцца як да капіталістычнай, так і да соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Усюды галоўнай задачай будаўніцтва ў нашай сельскай гаспадарцы ён бачыць толькі адно, што „на основе мэтодаў

прамысловай вытворчасьці неабходна павялічыць таварную продукцыю і паменшыць вытворчы сабекошт продукцыі“ (стар. 6).

Асабліва яскрава паказвае сябе аўтар у разуменьні ім політычных вынікаў індустрыялізацыі с/г. Для гэтага мы прывядзем поўную закончаную формулёўку:

„Увядзеньне прамысловых мэтодаў работы ў с/г. паказвае нам, што тэхнічныя фактары (новая тэхнічная і энэргетычная база экономікі) перэтвараюцца ў экономічныя (вытворчасьць гаспадаркі і эфэктыўнасьць) і пераходзяць нават у фактары політычныя (вырашэньне рабочага пытаньня і г. д.)“ (стар. 7). Кажучы аб малочнай гаспадарцы, аўтар некалькі шырэй раскрывае коскі і да політычных фактараў індустрыялізацыі адносіць дадатковыя моманты:

...„і нават пераходзяць у фактары політычныя (вырашэньне рабочага пытаньня ў с/г. і забесьпячэньне рабочых цэнтраў малаком)“ (стар. 17).

Такім чынам, політычным фактарам індустрыялізацыі с/г. у нашай краіне зьяўляецца „вырашэньне рабочага пытаньня і забесьпячэньне рабочых цэнтраў малаком“. Можна сказаць, што гэта проста бязглуздзіца, што аўтар проста не дадумаў да канца, пішучы пра політычныя фактары, але гэта зусім ня так. Аўтар адданы сваёй справе пасьлядоўна і да канца, бо яго задачай у пытаньнях азначэньня разуменьня індустрыялізацыі с/г. зьяўляецца абыйсьці самае для яго страшное—эксплёатацыю ў капіталістычных краінах і вольную працу ў нас. Ён свае азначэньні робіць такімі, каб яны поўнасьцю падыходзілі ў аднолькавай ступені і для капіталістычнай і для социялістычнай індустрыяльнай с/г. і гэтым самым паказвае сябе ва ўсёй сваёй „неприглядной наготе“.

Політычным вынікам індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі ў нашай краіне зьяўляецца зьнішчэньне капіталізму, зьнішчэньне яго каранёў, з якіх ён можа разьвівацца.

Гэта з усёй відавочнай яскравасьцю неаднакроць адзначаў У. І. Ленін і гэта зьмяшчаецца нават у тым эпіграфе, які аўтар з бястыжымі вачыма прыляпіў на першай старонцы першага разьдзелу сваёй кніжкі.

Ленін вучыў, што капіталізм „трымаецца на дробнай гаспадарцы і, каб падарваць яго, ёсьць адзін сродак — перавесьці гаспадарку краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснай буйной вытворчасьці“ (Ленін аб электрыфікацыі с/г., стар. 52).

Калі мы пад земляробства падводзім „тэхнічную базу сучаснай буйной вытворчасьці“, дык мы гэтым самым дасягаем не такой політычнай задачы, якую вызначае аўтар—„вырашэньне рабочага пытаньня і забесьпячэньне рабочых цэнтраў малаком“, а мы гэтым дасягаем нашай сапраўднай політычнай мэты зьнішчэньня капіталізму, зьнішчэньня ўсякай асновы, з якой ён мог-бы расьці.

Зробленыя аўтарам політычныя вынікі індустрыялізацыі с/г. яўна варожыя рэволюцыйнаму вучэньню Леніна і знаходзяцца у суадпаведнасьці з буржуазнымі тэорыямі.

## II

Акрамя пералічаных вышэй азначэньняў індустрыялізацыі с/г. аўтар дае цэлы рад тэорытычных характарыстык сельскай гаспадаркі, на некаторых з якіх мы павінны застанавіцца, бо яны зьяўляюцца асновай для далейшай працы аўтара па разьмяшчэньню прамысловых прадпрыемстваў.

Перш за ўсё ён наступным чынам азначае сыстэму с/г-кі:

„Сыстэма або лад сельскай гаспадаркі характарызуецца, з аднаго боку, колькасьцю ўзаемаадносін і суадносін розных яе галін, а з другога—вышынёй іх вытворчасьці“. Гэта ўзята пры зусім няўмелай перабудове выразаў з буржуазных падручнікаў па с/г. экономіі. У гэтай самай формулёўцы сыстэмы с/г. адсутнічае непарыўная сувязь у разьвіцьці с/г. з прамысловасьцю. Па-другое, у гэткай формуле сыстэмы с/г. зьмяшчаюцца толькі тэхнічныя паказчыкі, — як колькасьць і ўзаемаадносіны галін с/г., вышыня іх вытворчасьці. Тут вельмі яскрава выяўляецца буржуазная тэорыя адрыву формулы ад зьместу, што ў даным выпадку азначае неўпамінаньне пра социяльныя паказчыкі, характарызуючыя сыстэму с/г., а трэба, кажучы пра тэхнічныя паказчыкі, гаварыць і аб тым, якія-ж адносіны паміж вытворцамі маюцца пры данай сыстэме с/г., у якіх формах адбываецца эксплёатацыя пры тых або іншых сыстэмах с/г. у капіталістычных краінах і якія новыя адносіны адпавядаюць вядомым тэхнічным паказчыкам ва ўмовах нашай экономікі, як гэтыя новыя вытворчыя адносіны спрыяюць уздыму вытворчасьці працы ў земляробстве.

Па-трэцяе, у гэтай формуле і ў другіх месцах данай працы аўтар робіць наскрозь буржуазнае сьцьверджаньне аб вытворчасьці розных галін с/г. Не магло быць ніякай размовы аб вытворчасьці галін с/г. самых па сабе, можа і павінна ісьці размова *аб вытворчасьці працы ў той ці іншай галіне,* а раз гэта так, то неабходна гаварыць і аб тых социяльных умовах, у якіх адбываецца процэс працы, як гэтыя социяльныя адносіны ўплываюць на гэты процэс працы. Гэтага аўтару не дазваляе гаварыць буржуазна-рэстаўратарская сутнасьць яго тэорытычнай концэпцыі. Яшчэ больш паказальнай для характарыстыкі аўтара будзе наступная характарыстыка нашай с/г., дзе ён гаворыць:

„Сельская гаспадарка ў выніку сваёй дзейнасьці (?) мае продукцыю ад поляводзтва, жывёлаводзтва і інш. галін. Гэтыя атрымоўваныя продукты служаць у канечным выніку альбо для задавальненьня патрэб самае гаспадаркі альбо для рэалізацыі гэтых продуктаў на рынку з тым, каб пры дапамозе атрыманых грошай задаволіць свае патрэбы пакупнымі продуктамі. Адсюль мы бачым, што дзейнасьць гаспадаркі пачынаецца з земляробства (?) і канчаецца рынкам, дзе адбываецца продаж сваёй продукцыі і купля продукцыі чужой“ (стар. 8).

Наўрад ці патрэбна разьбіраць гэту вытрымку, даную аўтарам для характарыстыкі с/г., бо яе можна ахарактарызаваць адным усім вядомым словам: *кандрацьеўская характарыстыка.* Згодна гэтай формулёўцы, задача нашых с/г. социялістычных прадпрыемстваў у тым, каб задаволіць свае ўласныя патрэбы, з аднаго боку, непасрэдна продуктамі, якія імі выпрабляюцца, а з другога боку — пакупнымі продуктамі, якія набываюцца на рынку пры дапамозе грошай „пасьля рэалізацыі на ім сваіх продуктаў“. Улічваць плянавае заданьне, якое выражае сабой патрабаваньне народнай гаспадаркі ў адносінах да данага с/г. прадпрыемства, згодна концэпцыі аўтара, зусім непатрэбна, і гэта знаходзіцца ў поўнай суадпаведнасьці з яго ранейшымі разважаньнямі, якія разглядаюць с/г. не ў залежнасьці яе ад прамысловасьці і не як частку ўсяе народнае гаспадаркі краіны.

Уся дзейнасьць с/г. пачынаецца з земляробства і канчаецца рынкам, дзе гаспадар атрымоўвае грошы, каб на іх купіць *патрэбныя для сябе* прамысловыя продукты, і гэта аўтар сьмела называе разважаньнем пра „нашу савецкую экономіку і палітыку“. Гэта няпрыкрытая, яўная контррэволюцыйная кандрацьеўшчына, тэорыя рэстаўрацыі

капіталістычных адносін у с/г нашай краіны, тэорыя, галоўнай задачай якой зьяўлялася ажыцьцяўленьне інтэрвэнцыі на СССР, каб зрабіць яго колёніяй імпэрыялістычных краін.

Далей мы будзем бачыць, як, выходзячы з буржуазна-рэстаўратарскіх тэорытычных установак, аўтар прышоў да свае спэцыялізацыі с/г., на падставе якой ён разьмясьціў прамысловыя прадпрыемствы па апрацоўцы і пераапрацоўцы с/г. сыравіны, а цяпер-жа мы зьвяртаем увагу на тое, як ён ігноруе бясспрэчную марксысцка-ленінскую ісьціну, вядомую ў сучасны момант кожнаму вучню II ступені і кожнаму больш-менш пісьменнаму чалавеку. Аўтар, кажучы пра індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, нічога не гаворыць, ігноруе соцыяльную розьніцу, якая існуе паміж імі. Сялянскія гаспадаркі ён не падзяляе на гістарычныя соцыяльныя групы: бядняк, серадняк, кулак, а ўсюды аднолькава называе іх „нашы звычайныя сельскія гаспадаркі", „у звычайных нашых сельскіх гаспадарках пераважае нізкая тэхніка і скарыстоўваецца ў максымуме мускульная сіла" (стар. 6, 13, 21, 22, 23 і інш.). Нідзе ніводным словам не ўпамінаецца аб тым, якія гэтыя „нашыя звычайныя сельскія гаспадаркі", ён складае ў адну кучу бедняка, серадняка, кулака, больш таго—сюды-ж да „нашых звычайных" адносіцца пэўна саўгас і колгас, ён, гаворачы аб ужыванай тэхніцы ў с/г., не прабуе падумаць пра тое, якая розьніца ва ўжываньні тэхнікі існуе ў розных соцыяльных групах, тыпах гэтых „нашых звычайных сельскіх гаспадарак", якія паміж імі ўстанаўліваюцца на гэтай аснове адносіны і г. д.

Як відаць, ігноруецца бясспрэчная, азбучная ісьціна марксысцка-ленінскага вучэньня, што выцякае з буржуазна-рэстаўратарскай сутнасьці аўтара.

Але гэтага мала. Аўтар, характарызуючы капіталістычную і соцыялістычную сельскую гаспадарку на базе высокай тэхнікі, не дае соцыяльнай розьніцы паміж імі. Мы ня будзем прыводзіць доўгіх вытрымак пра характарыстыку індустрыяльнай гаспадаркі капіталістычных краін, адзначым толькі, што гэта характарыстыка зьмяшчае ў сабе толькі тэхнічныя паказчыкі, ды і то ня ў поўным іх аб'ёме. Ніякай соцыяльнай клясавай характарыстыкі капіталістычнага с/г. індустрыяльнага прадпрыемства не даецца.

Характарыстыку-ж соцыялістычнай індустрыяльнай с/г. аўтар укладвае ўсяго ў наступную формулёўку: „Тэхніка, экономіка і політыка ў індустрыяльнай сельскай гаспадарцы, таксама як і ў частцы, што ўваходзіць у яе склад,—мэханізаванай малочнай гаспадарцы, выцякае пасьлядоўна адна з другой і разам даюць адно непарыўнае цэлае—структуру сельскай гаспадаркі, аб'яднаючай усю распыленую сельскую гаспадарку ў адно гармонічнае цэлае на аснове прамысловых мэтодаў работ буйной фабрычнай вытворчасьці" (стар. 17).

Не зьвяртаючы асаблівай увагі на празьмерную заблытанасьць гэтага азначэньня і не ўдаючыся ў дэтальны разбор яго, мы толькі адзначым адно, што, характарызуючы соцыялістычную сельскую гаспадарку на базе высокай машыннай тэхнікі, аўтар зноў зусім выкінуў галоўны паказчык для характарыстыкі *соцыялістычнай* с/г.—іменна, зьнішчэньне эксплёатацыі, палепшаньне дабрабыту бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, павышэньне продукцыйнасьці іх сумеснай працы і г. д.

Не павінен наводзіць на сумненьне паказчык аўтара „політыка", бо пад політыкай ён разумее, як гэта ім зазначана ў вышэйпрыведзенай вытрымцы, „вырашэньне рабочага пытаньня ў сельскай гаспадарцы і забесьпячэньне рабочых цэнтраў малаком".

*Аўтар, даючы характарыстыку буржуазнага і соцыялістычнага с/г. прадпрыемства, пабудаванага на базе высокай тэхнікі, ня бачыць паміж імі ніякай розьніцы, не адзначае соцыяльнай розьніцы паміж імі і выдае гэтым самым ва ўсёй сваёй няпрыглядпасьці сваю буржуазную сутнасьць.*

Немагчыма прайсьці міма такой характэрнай рысы аўтарскага разважаньня, як тое, што літаральна ва ўсёй рабоце, кажучы аб прамысловасьці, ён не гаворыць, аб якой прамысловасьці ідзе размова— капіталістычнай ці соцыялістычнай, называючы ўсюды яе проста „прамысловасьць“, „с/г. прамысловасьць“ (?!) і г. д. Таксама і ў адносінах да індустрыяльнай сельскай гаспадаркі. Гэта пацьвярджае тое, што ён бяз усякай элемэнтарнай маскіроўкі якой некаторыя з кандрацьеўцаў карысталіся, адкрыта пропагандуе буржуазную тэорыю, карыстаючыся савецкай паперай і ротацыйнай машынай.

Пераходзячы да пытаньня аб спэцыялізацыі с/г. і вызначэньні вытворчых раёнаў на тэрыторыі БССР, нельга не адзначыць аднэй табліцы, якая прыведзена аўтарам для характарыстыкі перспэктыў разьвіцьця жывёлаводзтва, як ён кажа „паводле проектоўкі НКЗ БССР“. У гэтай табліцы мы маем наступныя лічбы па буйной рагатай жывёле:

1928 г. — 1.348.368 галоў
1929 г. — 1.319.900 „
1930 г. — 1.301.889 „
1931 г. — 1.277.837 „
1932 г. — 1.325.096 „

Гэта мацярыкінская проектоўка ня мае нічога супольнага з тымі дырэктывамі, якія даюцца нашай партыяй па пытаньню аб вырашэньні жывёлагадоўчай проблемы. Гэта проектоўка дыямэтральна супроцьлегла таму, што вызначана пастановамі студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб контрольных лічбах народнай гаспадаркі на 1931 г., дзе па пытаньню аб разьвіцьці жывёлагадоўлі гаворыцца: „павялічэньне ўсяго статку буйной рагатай жывёлы вызначыць на 21 проц., па сьвіньнях— на 70 проц.“ Па „пяцілетцы-ж“ Мацярыкіна статак буйной рагатай жывёлы (кароў) у 1931 г. нават зьніжаецца ў параўнаньні з тым, што было ў 1930 г., на 2 проц.

## III

Усе гэтыя тэорытычныя разважаньні аўтара пра індустрыялізацыю с/г., характарыстыку с/г., проектоўкі яе далейшага разьвіцьця і г. д. зьяўляюцца тэорытычным уступам да галоўнай задачы данай працы—разьмяшчэньня прамысловых прадпрыемстваў па апрацоўцы і пераапрацоўцы с/г. сыравіны на тэрыторыі БССР.

Правільнае разьмяшчэньне прадпрыемстваў па апрацоўцы і пераапрацоўцы с/г. сыравіны магчыма толькі на аснове правільнага вытворчага раёнаваньня с/г. Шкоднікі таму і зьвярталі вельмі вялікую ўвагу на зрыў с/г. раёнаваньня (Смоліч, Гарэцкі, Бонч-Асмалоўскі і інш.) для таго, каб будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў пакінуць без дастатковай колькасьці патрэбнай сыравіны і тым самым не апраўдаць ні ў якай меры зробленых на іх выдаткаў. Для правядзеньня такога раёнаваньня гэтыя „вучоныя“ лёкаі капіталістаў скарыстоўвалі як буржуазную мэтодолёгію, так і фальшывыя лічбовыя даныя.

Аўтар ў даным пытаньні займае позыцыю нібы не наўмысьля, але гэта толькі яго характэрная лёкайская ўхватка.

Пасьля зробленай ім характарыстыкі с/г. і яе асобных галін (жывёлаводзтва, птушкаводзтва і гародніцтва), ён пераходзіць да вызначэньня с.-г. раёнаў на падставе наступных даных:

„*Выяўленьне с.-г. раёнаў мы будзем абгрунтоўваць на вышэйпрыведзеных даных як аб проценце засеву тых або іншых культур*, так роўна і аб проценце ўкомплектаваньня статку кароў“ (стар. 42, падкрэсьлена мною.—Я. А.).

Дзіўна, што ў 1930 годзе знайшоўся „пісака“ эканоміст-індустрыялізатар, які праводзіць с/г. раёнаваньне на падставе проц. засеву культур і проц. укомплектаваньня статку кароў (чаму-ж хаця-б не ўсяго статку жывёлы, а толькі кароў). Дзіўна, але гэта факт. Гэта зроблена не па недамысьленьню, а наўмысьля, з разьлікам на ажыцьцяўленьне контррэволюцыйных плянаў у галіне індустрыялізацыі с/г. БССР, гэта асаблівы мэтод шкодніка—скарыстаць усе годныя і нягодныя сродкі для барацьбы супроць політыкі нашай партыі і савецкай улады.

На падставе гэтых даных аб проц. засеву тых ці іншых культур і ўкомплектаванасьці статку кароў аўтар вызначае тры вытворчых напрамкі с/г. БССР: ільняна-малочны, канапляна-жывёлагадоўчы і бульбяна-жывёлагадоўчы, прычым гэтымі напрамкамі мацярыкінская спэцыялізацыя не абмяжоўваецца, акрамя іх „могуць быць *усякія комбінацыі*, выходзячы з пералічаных тыпаў гаспадарак з даданьнем да іх садова-гароднага ўхілу і яйка-птушкаводнага“ (стар. 43).

Не даецца яснага паказаньня аб вузка-спэцыялізаваных напрамках у разьвіцьці с/г. БССР, улічваючы патрабаваньні ад яе ўсяе народнае гаспадаркі краіны, складанай часткай якой яна зьяўляецца. У выніку гэтага аўтар не дае дакладных межаў вытворчых раёнаў, зазначаючы (!), што ўжо аказваецца „выяўленьне раёнаў не ўваходзіць у нашу задачу“ і што гэта вызначэньне раёнаў было яму патрэбна пастолькі, пакольکі гэта патрэбна будзе ў далейшым пры праектаваньні тых або іншых прамысловых прадпрыемстваў па апрацоўцы і пераапрацоўцы с/г. сыравіны. Прыведзеныя вышэй даныя аб раёнаваньні зусім дастатковы для таго, каб магчыма было запраектаваць неабходную колькасьць с/г. прамысловых прадпрыемстваў“ (стар. 43). Правільна, што выяўленьне с/г. раёнаў патрэбна аўтару *ўсяго толькі* для таго, каб на падставе гэтага зрабіць разьмяшчэньне прамысловых прадпрыемстваў і, бязумоўна, для мэт аўтара зусім даволі даных, каб гэта раёнаваньне зрабіць па проц. культур і статак кароў.

Тут зноў-ткі ясна праглядвае манера аўтара—„наивничанье“, як-бы няведаньне рашаючага значэньня дасканалага раёнаваньня с/г БССР для таго, каб на гэтай аснове праектаваць „с/г. прамысловыя прадпрыемствы“. Але гэта для віду, для няўмелага прыкрыцьця сваёй сапраўднай задачы *па-шкодніцку запроектаваць капіталаўкладаньні ў будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў па апрацоўцы і пераапрацоўцы с/г. сыравіны на тэрыторыі БССР*.

## IV

Пераходзім да апошняга разьдзелу кнігі аб „с/г. прамысловасьці БССР“, дзе даецца разьмяшчэньне прамысловых прадпрыемстваў пасьля зробленага „кароткага агляду даваеннай прамысловасьці БССР“ (?) (здаецца, БССР да вайны ня мела сваёй прамысловасьці, была капіталістычная прамысловасьць царскай Расіі на тэрыторыі сучаснай БССР, але гэта паміж іншым, бо мы ўжо ведаем, што аўтар ня бачыць розьніцы паміж капіталістычнай і соцыялістычнай прамысловасьцю).

Для таго, каб давесьці зробленыя намі вышэй вывады аб са праўднай задачы аўтара, мы разгледзім, з магчымай для рэцэнзіі поў насьцю, разьмяшчэньне малочнай прамысловасьці.

Проектоўка разьмяшчэньня прадпрыемстваў носіць у сваёй аснове адвольны характар. Як выходны пункт, бярэцца ўкомплектаваньне статку кароў, 50 галоў на 100 га—0,5 галоў на 1 га пры гадавой агульнай продукцыйнасьці кожнае каровы 2 тоны малака і 50 проц. яе таварнасьці, г. зн. 1 тона ў год.

Калі мы запытаем, чаму аўтар бярэ гэтыя лічбы, а не якія-небудзь іншыя, дык адказу не атрымаем. Гэта яму самому толькі і вядома. Невядома таму, на падставе якіх проектовак зроблены такія разьлікі.

За ўстанаўленьнем укомплектаванасьці статку і продукцыйнасьці кароў ідзе ўстанаўленьне тыпу заводу, а пасьля—радыусу яго дзейнасьці. Аўтар абірае мэханізаваны масларобчы завод, супроць чаго, бязумоўна, ня можа быць ніякіх пярэчаньняў з нашага боку, але ён дае вельмі цікавую аргумэнтацыю для гэтага, аргумэнтацыю па сутнасьці сваёй накіраваную на абарону саматужных заводаў.

„Буйныя масларобчыя заводы, з пераапрацоўкай 12—18.000 л. малака ў суткі, далі значнае падаражэньне сабекошту продукцыі ў параўнаньні з саматужнымі заводамі і з мэханізаванымі, якія пераапрацоўваюць 5—8.000 л. малака ў суткі. Гэта гаворыць за тое, што ў нашых умовах, пры сучаснай тэхніцы больш выгодным зьяўляецца масларобчы завод, які пераапрацоўвае ў суткі 5—8.000 л. малака. На заводзе такога тыпу мы і спынімся пры проектаваньні сеткі масларобчых прамысловых прадпрыемстваў на тэрыторыі БССР“ (стар.66).

Саматужныя заводы, выходзіць, лепш, чым буйныя мэханізаваныя па орыентацыі на сабекошт адзінкі продукцыі, але-ж гэтага мала, трэба ўлічваць яго агульную продукцыйнасьць, продукцыйнасьць працы на ім, умовы працы рабочага і г. д., і г. д.

Нарэшце, апошні выходны пункт мацярыкінскай проектоўкі разьмяшчэньня—гэта радыус дзейнасьці заводаў. Ён абіраецца таксама, бяз усякіх экономічных разьлікаў, як-бы ўмоўна ў 10 кілёмэтраў, даючы да пацьверджаньня гэтага наступнае абгрунтаваньне:

„Улічваючы сучасны стан малочнай прамысловасьці, нашы мясцовыя асаблівасьці, організацыйныя здольнасьці і пэрспэктывы разьвіцьця жывёлагадоўлі ў БССР, лічым неабходным узяць стаўку на радыус абслугоўваньня адным заводам у сярэднім да 10 км“ (стар. 67). Як-жа ўлічваліся гэтыя „нашы мясцовыя асаблівасьці, організацыйныя здольнасьці“ нашых кароў і г. д. пры вывядзеньні 10 км радыусу, аб гэтым аўтар зусім нічога не гаворыць, ён „лічыць неабходным браць стаўку“ на падставе такіх агульных развsituation разважаньняў.

Вызначыўшы выходныя пункты проектоўкі разьмяшчэньня прамысловых прадпрыемстваў па малаку, аўтар робіць разьмяшчэньне зусім проста:

„Выходзячы з тэрыторыі БССР у *13 млн. га* і абслугоўваньня адным заводам 31.400 га, трэба для ўсяе БССР 414 заводаў. Выкінуўшы гарады і прылягаючыя да іх гаспадаркі, можна лічыць, што для БССР патрэбна ня болей 400 звводаў для таго, каб ахапіць усю тэрыторыю БССР неабходнай сеткай с/г. прамысловых прадпрыемстваў па пераапрацоўцы малака.

Выходзячы з радыусу абслугоўваньня адным заводам 10 клм, укомплектаванасьці статку (50 галоў на 100 га ральлі) па акругах будзем мець наступны лік заводаў:

| | |
|---|---|
| Полацкая . . . . . . | 34 заводы |
| Віцебская . . . . . . | 36 " |
| Аршанская . . . . . . | 37 " |
| Магілеўская . . . . . . | 58 " |
| Гомельская . . . . . . | 51 " |
| Менская . . . . . . | 66 " |
| Бабруйская . . . . . . | 67 " |
| Мазырская . . . . . . | 51 " |
| Усяго . . . . . | 400 заводаў |

На падставе гэтых-жа выходных пунктаў аўтар робіць разьлікі і аб колькасьці заводаў на паасобныя раёны. Для перагляду ён бярэ б. Полацкую акругу і намячае такое разьмяшчэньне: Асьвея—3 заводы, Дрыса—2, Расосна—7, Валынецкі—3, Ветрынскі—3, Вульскі—3, Вушачы—4, Лепель—4, Полацак—5. Гэта прыкладны разьлік па паасобных раёнах і аўтар кажа, што „па гэтаму разьліку кожны можа лёгка падлічыць па любой акрузе патрэбную колькасьць заводаў і магчымую іх загрузку“.

На падставе норматыўных даных вылічваецца сума капітальных укладаньняў па будаўніцтву прадпрыемстваў па перааапрацоўцы для ўсёй БССР у колькасьці 19.050.000 руб.

Прыведзенае разьмяшчэньне прадпрыемстваў па перааапрацоўцы малака знаходзіцца ў поўнай суадпаведнасьці з той спэцыялізацыяй с-г. БССР, якую аўтар вызначыў, бо згодна гэтай спэцыялізацыі ўся БССР зьяўляецца жывёлагадоўчай, пад чым (жывёлагадоўляй), як відаць з разьлікаў па малочнай прамысловасьці, аўтар разумее толькі кароў. Зусім зразумела, што ў розных экономічных с-г. раёнах БССР будзе разьвівацца розная жывёла, як пераважная, накіроўваючая ў даным раёне (каровы, сьвіньні), а таму рознай павінна быць для розных раёнаў колькасьць заводаў па перааапрацоўцы малака ў разьліку на 1 адзінку плошчы, як гэта робіць аўтар. Разьмяшчэньне малочнай прамысловасьці па ўсёй тэрыторыі БССР роўнамерна, так як робіць аўтар, прывядзе нямінуча да таго, што пабудаваныя заводы будуць стаяць недагружанымі, ня змогуць ні ў якай меры апраўдаць зробленых на іх выдаткаў, што аўтару і патрэбна для выкананьня сваіх шкодніцкіх плянаў, але што патрэбна вывесьці на чыстую ваду, паказаць перад шырокімі масамі для таго, каб раз-назаўсёды пазбавіцца ад падобных тэорэтыкаў — па-першае, і, па-другое, як-мага мацней ударыць па тых штампоўшчыках, якія далі магчымасьць выдаць гэтую кнігу праз БДВ і распаўсюджваць яе да гэтага часу.

Ня будзем разглядаць разьмяшчэньня прамысловасьці па апрацоўцы і перааапрацоўцы с.-г. сыравіны ад другіх галін сельскай гаспадаркі, бо ўжо прыведзенага даволі, каб зрабіць наступныя вывады з усяго нашага разгляду:

1) Рэцэнзуемая кніга Мацярыкіна аб „Асновах індустрыялізацыі с.-г. БССР“ па сваёй мэтодолёгіі, тэорэтычным установкам зьяўляецца буржуазна-рэстаўратарскай кнігай, зьяўляецца непрымірымай попу-

лярызацыяй у 1930 годзе тэорый контррэволюцыйнай профэсуры — Кандрацьева-Чаянава ды інш.

2) Задачай кнігі зьяўляецца абгрунтаваць і папулярызаваць шкодніцкія пляны буржуазных рэстаўратараў—лёкаяў імпэрыялізму па разьмяшчэньню прамысловасьці па апрацоўцы і перапраацоўцы с.-г. сыравіны на тэрыторыі сучаснай БССР.

Таму гэта шкодная кніжка павінна быць безадкладна забаронены ў продажы, а вінаватыя ў яе друкаваньні — прыцягнуты да пэўнай адказнасьці.

---

## РЭЦЭНЗІІ і БІБЛІОГРАФІЯ

В. Д. Соколов. *Охрана природы и повышение урожайности.*

Выданьне Цэнтральнага Бюро краязнаўства. Масква—1930 г. 21×15 см. Тыраж 2.000. Цана 35 кап. Прадмова С. Пакроўскага.

Паводле пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі прадугледжваецца павялічэньне ўраджайнасьці ня менш як на 35 проц. (па СССР і ня менш 45 проц. па БССР). Адным з сродкаў павялічэньня ўраджайнасьці зьяўляецца барацьба са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, якія зьнішчаюць да 30 проц. ураджаю. Па пляну к канцу пяцігодкі ўраджайнасьць шляхам організацыі барацьбы са шкоднікамі павінна быць павялічана ня менш як на 5—8 проц. Гэта задача павінна стаяць перад адпаведнымі органамі Наркамзему, Колгасцэнтру, перад навукова-дасьледчымі ўстановамі, грамадзкімі організацыямі (Асоавіяхэмам) і ўсёй савецкай грамадзкасьцю (рабочыя савгасаў, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы вёскі). У справе організацыі барацьбы са шкоднікамі с.-г. культур вялікую ролю павінны адыграць школы, піонэрскія, і комсамольскія організацыі, а таксама і ўсе краязнаўчыя організацыі. Брошура В. Д. Сакалова, напісаная ў простай і популярнай форме, даступная для шырокіх колаў працоўных мас (рабочых, колгасьнікаў, вучняў) мае сваёй мэтай дапамагчы працоўным масам СССР, організаваць масавую барацьбу са шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы і тым самым выканаць задачу вызначанага ўрадам і партыяй проценту павялічэньня ўраджайнасьці. Праўда, аўтар разглядае шкоднікаў паўднёвай часткі СССР, але брошура мае пэўнае практычнае значэньне і для іншых частак Саюзу, у прыватнасьці для БССР, паколькі многія разглядваныя аўтарам шкоднікі сустракаюцца і ў БССР. Брошура зьмяшчае ў сябе шмат даных па біолёгіі і размнажэньню, галоўным чынам, грызуноў і шкодных птушак; біолёгіі і шкоднасьці шасьціножак (шкодных) аўтар не разглядае, абмежаваўшыся толькі хрыбетнымі. Зусім правільна аўтар адзначае, што „толькі ведаючы жыцьцё шкоднікаў, іх звычкі, хваробы, іх ворагаў мы можам пасьпяхова змагацца з імі. Чым паўней будуць нашы веды, тым лягчэй і хутчэй дасягнем мы посьпеху“. І аўтар сапраўды дае шмат цікавых даных аб жыцьці шкоднікаў і сродках барацьбы з імі, застанаўліваючыся і на некаторых прыёмах дасьледваньня шкоды, якую прыносяць сельскай гаспадарцы паасобныя віды шкоднікаў.

Аўтар досыць падрабязна разглядае наступныя віды шкоднікаў: мышэй, сусьляка, хамяка (грызуны), ястрабоў, сокалаў, сарок і інш. (птушкі). Меры барацьбы са шкоднікамі аўтар падзяляе на: 1) папераджальныя, якія перашкаджаюць шкоднікам размнажацца; 2) ахоўныя, накіраваныя на ахову с-г. культур ад шкоднікаў (напр., раскід-

ваньне і разьліваньне матэрый, паху якіх не пераносяць грызуны; 3) зьнішчальныя (пасткі, хэмічныя і атрутныя матэрыі).

У брошуры падкрэсьліваецца вялікая роля ў змаганьні са шкоднікамі прыяцеляў сельскае гаспадаркі з сысуноў: ліс і тхор (шашок)—воддаль ад жыльля, і ласка—каля жыльля і птушак—сокалы, канюх, сыч, совы, гракі і інш. У канцы брошуры аўтар вызначае шляхі да аховы карысных для сельскай гаспадаркі сысуноў і птушак (змаганьне з разбурэньнем гнёзд, шэфства школ над паркамі, садамі і гаямі, „Дзень птушкі“ і г. д.).

Трэба аднак адзначыць, што аўтар недастатков улічвае новыя ўмовы ў справе барацьбы со шкоднікамі і аховы прыроды ў сувязі з магутным ростам колектывізацыі, будаўніцтва саўгасаў і наогул культурным ростам працоўных мас. У гэтым напрамку аўтар толькі адзначае, што „нашы саўгасы і колгасы, якія маюць вялікія сродкі і добра організаваную рабочую сілу, павінны падняць пытаньне аб організацыі кадраў зьнішчальных каманд, навучаньні рабочых, інструктароў і кіраўнікоў“. Гэтага мала. Як барацьба са шкоднікамі, так і ахова прыроды наогул (і карысных сысуноў і птушак) у саўгасах і колгасах, а таксама і ва ўсіх колгасных школах можа быць і павінна быць пастаўлена значна шырэй.

Наогул-жа брошура зьяўляецца карыснай для колгасных, школьных і краязнаўчых бібліотэк. Яна дае кірунак для організацыі даследчае працы па вывучэньню шкоднікаў сельскае гаспадаркі і організацыі барацьбы з імі, што зьяўляецца вельмі актуальным пытаньнем.

В. С.

* * *

С. Малашэнка і А. Лейман. *Новы цэх варашылаўцаў*. Выд. БДВ. Менск, 1931 г. 28 стар. 15×10 см, цана 7 кап.

Аўтары гэтай невялічкай брошуркі—рабочыя заводу імя К. Я. Варашылава (б. зав. „Энэргія“). У простай і популярнай форме яны расказваюць аб посьпехах нашага соцыялістычнага будаўніцтва, аб змаганьні „трыкутніка“ і ўсёй рабочай масы менскага чырвонаштандартнага машына-будаўнічага заводу імя К. Я. Варашылава („Беларускі Пуцілавец“) за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. „Лік рабочых на заводзе імя Варашылава расьце гіганцкімі тэмпамі: 1920 г.—120 рабочых, 1931 г. — 1400. Хваля соцспаборніцтва і ўдарніцтва ахапіла ўвесь рабочы колектыў заводу. Дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву з боку партколектыву, своечасова былі мобілізаваны сілы на выкананьне прамфінпляну“, які ў 1930 г. быў выкананы на 103 проц. Далей аўтары-рабочыя паказваюць, як сталоўка і наогул організацыя справы грамадзкага харчаваньня на заводзе тармазілі і перашкаджалі справе павялічэньня тэмпаў вытворчасьці. Работа сталоўкі і справа рабочага харчаваньня аўтарамі цесна ўвязваецца з пытаньнем змаганьня за выкананьне прамфінпляну. Цеснага, бруднае ўтрыманьне сталоўкі, чарга, пасылка „дэлегатаў“—гэтыя і шмат іншых прычын стварылі „вузкае месца“ ў адным з цэхаў прадпрыемства, перашкаджаючы ўсёй сыстэме яго працы. „У зьвязку з дрэннымі абставінамі работы сталоўкі шмат рабочых гадзін трацілася кожны дзень. На заводзе, дзе працуе каля паўтары тысячы рабочых, кожны дзень гэта страта перавышала 100 працгадзін, ня менш“.

Далей аўтары расказваюць, як ЦСПСБ, „трыкутнік“ заводу, комсамольская і наогул рабочая маса „колектыўна пайшлі рабіць рэволюцыю ў сталоўцы“ пад лёзунгам „сталоўка—цэх прадпрыемства“.

У выніку ўпартай і настойлівай бальшавіцкай работы варашылаўцы ў справе організацыі рабочага харчаваньня дасягнулі вялікіх посьпехаў, выкарыстаўшы практыку лепшых маскоўскіх сталовак. Цяпер „сталоўку не пазнаць. Зусім непадобная да старой, бруднай... Сталы стаяць у два рады па дзесяць у рад. Крэслы расстаўлены па 12 каля кожнага. На стале вазоны, графіны з вадой, сальнічкі, гарчычніцы. Салодкая страва ў шклянках і першая ў пасудзінах—падрыхтавана за пяць хвілін да гудка“. Сталоўка перайшла на новыя мэтоды работы: праведзена мэханізацыя некаторых работ (рэзка хлеба, гародніны, чыстка бульбы і інш.) у кухні поўны падзел працы, організаваны ўдарныя брыгады, работа пераведзена на мэтоды ўдарніцтва і соцспаборніцтва, уведзены стандартныя абеды. „Аджылі свой век „дэлегаты“, штурханіна, чарга за месцамі і талёнамі“. Сталоўка стала чыстай, культурнай, радыёфікаванай. „Сталоўка, кажуць аўтары, зрабілася ўдарным цэхам прадпрыемства. Ёсьць чаму навучыцца другім сталоўкам. Сюды сапраўды перанесена практыка лепшых маскоўскіх сталовак, практыка організацыі грамадзкага харчававаньня“. Варашылаўцы паказалі прыклад сапраўднага бальшавіцкага змаганьня і выкананьня задачы партыі па палепшаньню рабочага харчаваньня і ператварэньня сталоўкі ў адзін з ўдарных цэхаў прадпрыемства.

Практыка варашылаўцаў павінна быць шырока популярызавана сярод рабочых іншых прадпрыемстваў. Гэту задачу добра выканалі аўтары ў разгледжанай тут кніжцы.

Вельмі пажадана, каб краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах па прыкладу аўтараў паказалі дасягненьні паасобных цэхаў прадпрыемстваў і значэньне гэтых дасягненьняў у справе павялічэньня вытворчасьці і выкананьня прамфінпляну.

**В. С-іч.**

---

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Да ўсіх краязнаўчых арганізацый

Выходзячы з пастаноў чырвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), пастановы ЦК УсеКП(б) аб тэмпах колектывізацыі і прамовы і тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў, ЦБК прапануе ўсім краязнаўчым арганізацыям усю краязнаўчую працу ячэек падпарадкаваць азначаным дырэктывам партыі, выходзячы з конкрэтных умоў свайго раёну, прадпрыемства.

Асноўнай тэматыкай на даным этапе павінна быць:

### I. Па прамысловасьці

1. Вывучыць, як ажыцьцяўляецца задача організаванага набору рабочай сілы ў парадку дагавору прамысловых прадпрыемстваў з колгасамі; выявіць і популярызаваць практыку лепшых прадпрыемстваў.

2. Мэтоды ліквідацыі цякучасьці рабочай сілы (зьнішчэньне ўраўнілаўкі, правільная рэалізацыя зарплаты, палепшаньне бытавых умоў і інш.).

3. Падрыхтоўка і выхаваньне на прадпрыемствах вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочай масы.

4. Пастаноўка тэхпропаганды і тэхвучобы на прадпрыемствах.

5. Укараненьне і ўмацаваньне гаспадарчага разьліку і ўнутрыгаспадарчае накапленьне.

6. Правядзеньне політэхнізацыі школы.

Усе гэтыя пытаньні павінны вывучацца з пункту погляду выкананьня прамфінпляну кожнага прадпрыемства, павялічэньня вытворчасьці і палепшаньня якасьці продукцыі. Практыку і дасягненьні лепшых прадпрыемстваў трэба шырока популярызаваць і пранесьці ў больш адсталыя.

### II. Па сельскай гаспадарцы

1. Вывучэньне і актыўны ўдзел у організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў у іх сучаснай арцельнай стадыі разьвіцьця (організацыя працы, пастаноўка вучоту, правядзельне зьдзельшчыны, барацьба за якасьць работы высокатаварных колгасных фэрмаў, стварэньне кадраў).

2. На конкрэтнай практыцы пэўных савгасаў і колгасаў навукова абгрунтаваць выгады зьдзельшчыны і правільнай пастаноўкі ўчоту.

3. Уключыцца ў кампанію правядзеньня зяблівага ворыва і на практыцы савгасаў і колгасаў навукова абгрунтаваць перавагу зяблівага ворыва над веснавым ворывам.

4. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні „Дня колектывізацыі і ўраджаю“ (інструкцыйны матар'ял высланы; 2) у бульба-і хлебазагатоўках, адначасова вывучаючы і популярызуючы лепшыя прыклады організацыі і правядзеньня кампаній, выкрываючы кулацкую агентуру, рвацкія настроі; 3) у месячніку жывёлагадоўлі.

5. Вывучыць наяўнасьць вольнай рабсілы ў колгасе і магчымасьці скарыстаньня яе ў прамысловасьці і на сэзонных работах (дарожнае будаўніцтва, лесараспрацоўкі і інш.).

### III. Па транспорту

1. Усім раённым бюро краязнаўства прыняць неадкладныя меры да організацыі краязнаўчых ячэек на чыгуначным транспорце і спэцыяльных камісій пры райбюро.

2. Організаваць сыстэматычнае вывучэньне і барацьбу з сустрэчнымі перавозкамі, за сваечасовыя пагрузкі, выгрузкі, падвоз і вываз грузаў.

3. Вывучэньне работы чыгуначных дэпо, асноўнага вытворчага зьвяна чыгуначнага транспорту.

4. Прыняць актыўны ўдзел у плянаваньні разьвіцьця шляхоў зносін у раёне і організаваць вывучэньне запасаў будаўнічых матар'ялаў.

### IV. Па гарадзкой гаспадарцы

Усім краязнаўчым організацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне крыніц вадазабясьпечаньня гарадоў, санітарнага становішча, новых будаўнічых матар'ялаў і работы па палепшаньню грамадзкага харчаваньня.

2. Прыняць актыўны ўдзел у выяўленьні недахопаў плянаваньня гарадоў і распраца-

ваць прапановы па палепшаньню гарадзкой гаспадаркі.

3. Усе краязнаўчыя арганізацыі павінны рашуча і неадкладна прыступіць да арганізацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах, на чыгуначным транспорце, пры комунальных прадпрыемствах. Сваю работу краязнаўчыя арганізацыі павінны цесна ўвязаць з мясцовымі партыйнымі, савецкімі і профэсіянальнымі організацыямі.

Для выкананьня пастаўленых задач і гадавых плянаў краязнаўчыя арганізацыі павінны правесьці сыстэму індывідуальных заданьняў паасобным краязнаўцам на аснове пляну колектыўнае работы, прычым павінна быць праведзена рашучае ажыцьцяўленьне адказнасьці за выкананьне даручаных задач і абавязкаў. Да працы неабходна прыцягнуць і ўсіх старых краязнаўцаў, перайшоўшых на рэйкі савецкага краязнаўства і аказаць ім таварыскую дапамогу ў іх працы.

Вынікі краязнаўчай працы неабходна абавязкова ўлічваць і шырока популярызаваць у мясцовай і цэнтральнай прэсе „Савецкай Краіне“.

Старшыня ЦБК В. Серафімаў.

Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

---

# ХРОНІКА

## Плян тэхнічнае пропаганды БАН

### 1. Організацыя працы.

1. Плянаваньне, опэрацыйнае выкананьне і адказнасьць за правядзеньне працы па тэхнічнай пропагандзе ўскладаецца на сэктар масавае працы БАН.

2. У паасобных інстытутах і дасьледчых станцыях праца па тэхнічнай пропагандзе і адказнасьць за яе правядзеньне ўскладаецца на нам. дырэктароў або вуч. сакратароў з падпарадкаваньнем іх у гэтай працы сэктару масавае працы БАН.

У правядзеньні тэхнічнае пропаганды БАН шчыльна ўвязвае сваю працу з адпаведнымі ведамствамі, як ВСНГ, НКЗ і інш., а таксама ўздымае пытаньне перад адпаведнымі органамі аб організацыі цэнтралізаванага кіраўніцтва тэхнічнай пропагандай у рэспубліканскім маштабе.

### II. Формы тэхнічнай пропаганды БАН

1. Спэцыяльная часопісь з выхадам ня менш 1 разу ў месяц.

2. Спэцыяльныя выданьні навукова-популярнага характару (зборнікі, брошуры, артыкулы ў газэты)) з вызначэньнем колькасьці ня менш аднаго зборніку, 2 брошур і 10 газэтных артыкулаў у год на кожную ўстанову (ін-т, станцыя).

Праз выданьні па п. п. 1 і 2 популярызуюцца дасягненьні навукі ў СССР і замежамі па найбольш актуальных пытаньнях соц. будаўніцтва. Пераклады замежнае тэхнічн. літаратуры. Шырокая консультацыя па тэхн. пытаньнях з нарукаваньнем тыповага матар'ялу ў спэцыяльным аддзеле часопісі.

3. Лекцыі па радыё (ня менш 1 лекцыі ў 5-ку ад БАН).

4. Публічныя лекцыі ў гарадох, на заводах, саўгасаў і колгасах БССР (ня менш 1 лекцыі ў 10-ку).

Наладзіць пры БАН выраб дыапозытываў і забясьпечыць лекцыйную працу ліхтарамі. Набыць для БАН эпідыаскоп.

5. Праца са спэцыяльнымі гурткамі на заводах, саўгасах і колгасах (організаваць ня менш 10 тэхн. гурткоў).

6. Перагляд праз адпаведныя спэцыяльныя ўстановы БАН існуючых падручнікаў (асабліва на белмове); консультацыя і праверка тых падручнікаў, якія выпускае БДВ, а таксама напісаньне падручнікаў. (Колькасна вызначыць поўную праверку на працягу году ўсіх існуючых падручнікаў, ажыцьцяўляць усе консультацыі ў напісаньні падручнікаў і праверку выходзячых, а таксама напісаць ня менш 1 падручніка на ўстанову).

7. Перагляд і выпрацоўка школьных програм (перагляд усіх, выпрацоўка па аднэй програме на кожную ўстанову для вышэйшых школ адпаведных спэцыяльнасьцяў).

8. Монографічныя выданьні аб заводах, савгасах і колгасах. (Выдаць за год ня менш 5-ці монографій).

9. Організацыя завочных курсаў (організаваць ня менш 3-х курсаў).

10. Організацыя музэю БАН.

11. Падрыхтоўка сумесна з Белкіно ня менш 2-х тэхн. фільмаў.

### III. Зьмест працы і прыцягваемыя ўстановы

А. Па пытаньнях плянаваньня, спэцыялізацыі і раёнаваньня соцыялістычнай гаспадаркі ў БССР (мэтодолёгія, тэхніка, напрамкі) прыцягваюцца ўстановы: экономічны Інстытут БАН, экономічны Інстытут Дзяржпляну і адпаведныя працаўнікі ведамстваў.

Б. Па прыродазнаўчых навуках праца разгортваецца па наступных пытаньнях:

1) па прымяненьню хэміі ў скураной прамысловасьці (Інстытут хэміі і адпаведныя спэцыялісты);

2) па прымяненьню хэміі ў пераапрацоўцы дрэва (сухая перагонка, падсочка, экстракцыя, штучны шоўк і г. д. — (Інстытут хэміі і адпаведныя спэцыялісты);

3) па хэмічных процэсах у дражджавой і броварной прамысловасьці (Інстытут хэміі і адпаведныя спэцыялісты);

4) па хэміі вады па с-г. і прамысловасьці (Інстытут хэміі);

5) па хэміі апалу ў прамысловасьці (Інстытут хэміі).

6) па хэмічнай пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых продуктаў (Інст. хэміі і агро-хэмічны Інстытут);

7) па хэміі ўгнаеньня (Інстытут хэміі і агро-хэмічны Ін-т.)

8) па тэхніцы вышуканьня выкапняў (Інстытут геолёгічны);

9) па пытаньням практычнага выкарыстаньня розных выкапняў (Інстытут геолёгічны і адпаведныя спэцыялісты);

10) па пытаньням інкубацыі (сэкцыя зоолёгіі);

11) па пытаньню штучнага запладненьня (сэкцыя зоолёгіі і адпаведныя спэцыялісты).

12) па пытаньню пушное гаспадаркі (сэкцыя зоолёгіі)

С. *У галіне тэхнікі*: праца павінна праводзіцца ў наступных кірунках: 1. электротэхніка; 2. цеплатэхніка; 3. электрыфікацыя; 4. радыётэхніка і інш.

Да працы трэба прыцягнуць: 1) фізыкатэхнічны Інстытут БАН; 2) Інстытут прамысловасьці: 3) энэргетычны Інстытут і інш.

У галіне фізыка-матэматычных навук: 1) астраномія; 2) кліматолёгія; 3) матэматыка; 4) фізыка і інш.

Да працы трэба прыцягнуць: 1) фізыкатэхнічны Імстытут; 2) фізыка-матэматычны факультэт БДУ; 3) гідра-мэтэоролёгічны Інстытут і інш.

У галіне прамысловасьці праца павінна праводзіцца ў наступным напрамку:

1) экономіка прамысловасьці; 2) скураная прамысловасьць; 3) папяровая прамысловасьць; 5) тарфяная прамысловасьць; 5) керамічная прамысловасьць; 6) шкляная прамысловасьць; 7) дрэваапрацоўчая прамысловасьць і інш.

Павінны працаваць: 1) Інстытут прамысловасьці пры ВСНГ БССР; 2) прамысловая сэкцыя Дзяржпляну; 3) Лесбел і інш.

Д. У галіне сельскай гаспадаркі праца павінна разгортвацца ў наступных напрамках:

1. Пытаньне вытворчых плянаў для саўгасаў і колгасаў розных кірункаў спэцыялізацыі; пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці і організацыі працы (прыцягваючы эконом. Ін-т БАН, Інстытут соц. рэконструкцыі, сьвінаводчы Ін-т, станцыю буйной рагатай жывёлы).

2. Па тэхніцы малочнае жывёлагадоўлі (прыцягваецца ст. буйной рагатай жывёлы).

3. Па тэхніцы сьвінаводзтва (сьвіноводчы Інстытут).

4. Па тэхніцы тэхнічных культур (льнаводная стан., бульбяная станцыя).

5. Па тэхніцы садоўніцтва і гародніцтва (садова-гародная станцыя).

6. Па тэхніцы пчалярства (адпаведныя спэцыялісты ведамстваў).

7. Па тэхніцы дробнай жывёлагадоўлі і птушак (адпавед. спэцыялісты ведам.).

8. Па тэхніцы збожжавых культур (расьлінаводная станцыя).

9. Па тэхніцы вырашэньня кармовага пытаньня (лугавая ст. і Інстытут соц. рэконструкцыі).

10. Па тэхніцы аховы расьлін і жывёлы (біолёгічны Ін-т і адпаведныя станцыі.).

11. Па пытаньнях гаспадарчае спэцыялізацыі саўгасаў і колгасаў (эконом. Ін-т і Ін-т соц. рэконструкцыі).

12. Па пытаньнях індустрыялізацыі і мэханізацыі саўгасаў і колгасаў (спэцыялісты ведамстваў і машынапробная станцыя).

13. Па тэхніцы торфаздабываньня і выкарыстаньня (балотны Інстытут).

13. Па тэхніцы дарожнага будаўніцтва ў БССР (спэцыялісты адпаведных ведамстваў).

Увага: тэматыка і каляндары плян працы распрацоўваюцца паасобнымі ўстановамі пад кіраўніцтвам сэктару масавае працы БАН.

## Праца ЦБК за ліпень—верасень месяцы 1931 г.

За ліпень—верасень месяцы ЦБК была праведзена наступная праца:

а) Праведзена абсьледваньне краязнаўчых організацый у 7 раёнах (Полацкі, Асьвейскі, Дрысенскі, Расьнянскі, Сіроцінскі, Віцебскі і Аршанскі) і на мясцох даны конкрэтныя ўказаньні і аказана дапамога ў разгортваньні краязнаўчай сеткі і організацыі масавай дасьледчай працы.

б) Распрацавана інструкцыя аб удзеле краязнаўчых організацый у правядзеньні „Дня ўраджаю і колектывізацыі“.

в) Напісана (ад імя Гідра-Мэтэоролёгічнага Інстытуту і ЦБК) адозва да ўсіх краязнаўчых організацый аб організаваным правядзеньні фізыолёгічных нагляданьняў.

г) Даны ўказаньні аб уключэньні краязнаўчых організацый у падрыхтоўку да складаньня генпляну і другой пяцігодкі; праведзена падрыхтоўчая праца да складаньня гадавых плянаў (матар'ялы ў № 8 „Савецкая Краіна“).

д) Прадстаўнікі ЦБК прымалі ўдзел у працы нарад і камісій пры Дзяржпляне па складаньню плянаў дасьледчай працы.

е) Распрацаваны і разасланы ад імя НКА і ЦБК усім гарадзкім і раённым інспэктаром народнай асьветы, дырэктаром ВНУ, тэхнікумаў і загадчыкам ФЗС, КС і ШКМ дырэктыўны ліст аб разгортваньні краязнаўчай працы ў навучальных установах.

ж) ЦБК зроблена справаздача на паседжаньні Прэзыдыуму БАН (рэволюцыя зьмешчана ў № 8 „Сав. Краіны“).

У галіне дасьледчай працы праведзена экспэдыцыя па комплекснаму вывучэньню Койданаўскага раёну суцэльнай колектывізацыі.

Апрацаваны і выданы програмы і інструкцыі:

1) Д-р З. К. Магілеўчык—Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай яе рэконструкцыяй (500 экз.).

2) В. Самцевіч—Як організаваць монографічнае вывучэньне раёну (500 экз.).

3) Аб вывучэньні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў.

4) Рагавы—Кароткая інструкцыя для вывучэньня глеб БССР (300 экз.).

5) В. Самцэвіч—Проблема соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі і задачы краязнаўчых організацый (№ 8 „Сав. Краіны").

Выданы №№ 7 і 8 часопісі „Савецкая Краіна".

У мэтах падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў разаслана палажэньне аб завочных курсах пры ЦБК РСФСР і зроблена прапанова ўсім краязнаўчым організацыям популярызаваць гэтыя курсы і правесьці запіс на іх.

ЦБК быў організаваны збор сродкаў на пабудову самалёту „Краявед". Сабрана 304 р. 10 кап.

Старшыня ЦБК Серафімаў

Навук. сакратар Самцэвіч

## Справаздача ЦБК РСФСР за ліпень—жнівень 1931 году

За мінулы пэрыод Прэзыдыум ЦБК меў 4 паседжаньні, на якіх: а) быў зацьверджаны плян, склад брыгады ЦБК па садзейнічаньню наладжваньня краязнаўчай працы ў раёне Урала-Кузбаскага комбінату. Брыгада выехала 28 ліпня і ў сучасны момант праводзіць працу ў Уральскай вобласьці.

б) Зацьверджаны плян працы ЦБК па організацыі краязнаўчай працы ў Ногінскім раене Маскоўскай вобласьці (плян у сучасны момант ажыцьцяўляецца).

в) Разгледжана пытаньне аб стане студэнцкага краязнаўчага руху, у сувязі з чым прынята пастанова рэорганізаваць студэнцкую сэкцыю ў камісію па садзейнічаньню краязнаўчаму руху сярод моладзі з ахватам усёй моладзі—рабочай, колгаснай і вучнёўства.

Прынята палажэньне аб нанава складаўшайся камісіі.

г) Разгледжаны плян працы і ўкомплектаваньне краязнаўчага аддзяленьня гісторыка-філёзофскага факультэту МДУ, у сувязі з чым дасланы ліст на месца аб камандыраваньні краязнаўчымі організацыямі на паказанае аддзяленьне кандыдатаў (дана раскладка). Падтрымана перад Наркамасьветы хадайніцтва Казанскага Унівэрсытэту аб організацыі пры ім краязнаўчага аддзяленьня для абслугоўваньня Сярэдняй Волгі і Прыкам'я.

д) Прыняты і дасланы ліст краязнаўчым організацыям аб удзеле ў прадстаячай конфэрэнцыі Дзяржпляну па пытаньню аб разьмяшчэньні вытворчых сіл.

е) Прыняты плян правядзеньня краязнаўчага месячніка, пачынаючы з 15 лістапада с./г.

ж) Устаноўлены на люты 1932 г. созыў XI пленуму ЦБК і парадак дня пленуму.

з) Заслуханы даклады аб стане краязнаўчае справы ў Мардоўскай вобласьці і Ногінскім раёне Маскоўскай вобласьці.

і) Пастаноўлена прыступіць да масавага выпуску прасьцейшых інструкцый па розных галінах краязнаўчай працы (гл. працу Рэд. выдав. камісіі).

к) Зацьверджаны (і дасланы на месца) сумесны ліст ЦБК і ТПТЭ аб узгадненьні працы краязнаўчых і турыстычных організацый.

Акрамя таго за мінулы час краязнаўчым організацыям разаслана адозва ЦБК і Дзяржпляну, да навукова-дасьледчых інстытутаў з прапановаю намеціць тэмы і даць інструкцыі краязнаўчым організацыям па іх спэцыяльнасьцях, ліст ЦБК і Народнага Камісарыяту Забесьпячэньня СССР аб вывучэньні страт у пладовагароднай справе, ліст ЦБК і Пладовагароднага Інстытуту аб зьбіраньні вестак па дзікарослых ягадах.

### Праца прамысловай сэкцыі

1. Складзена памятка для фабрычна-заводзкіх краязнаўчых ячэек аб удзеле іх у выпрацоўцы сустрэчных плянаў.

2. Праводзілася праца па організацыі вопытна-паказальнай краязнаўчай работы ў Ногінскім раёне.

3. Праводзілася праца супрацоўнікамі сэкцыі на Урале ў складзе Урала-Кузбаскай брыгады.

### Праца сельска-гаспадарчай сэкцыі

1. За справаздачны пэрыод праведзена падрыхтоўчая праца па організацыі краязнаўчай працы ў Ногінскім раёне Маскоўскай вобласьці.

2. Здана ў друк брошура А. І. Радчэнка— „Изучение культурно-бытовой работы в колхозе в целях ее улучшения".

3. Заказана програма па вывучэньню МТС.

4. Здана ў друк брошура Бальшакова— „Краеведное изучение организации труда в колхозе"

5. Складзена інструкцыя па ўдзелу краязнаўчых ячэек у правядзеньні дня колектывізацыі і ўраджаю.

### Праца сэкцыі вытворчых сіл

1. Падрыхтаваны і часткова зданы ў друк наступныя інструкцыі:

а) адшуканьне і прасьцейшыя выпрабаваньні прамысловых глін;

б) вывучэньне крыніц вадазабесьпячэньня;

в) вывучэньне страт у пладова-гароднай справе;

г) вывучэньне грыбнога промыслу і грыбных багацьцяў;

д) у СССР будзе свой каўчук:

е) аб сапонінавых расьлінах;

ж) аб новых прадзільных расьлінах.

### Праца сэкцыі абароны

За справаздачны пэрыод сэкцыя прарабіла рад організацыйных мерапрыемстваў, якія галоўным чынам былі накіраваны на афармленьне, пасьля працяжнага перарыву

самой сэкцыі і вызначэньне яе ролі ў агульнай сыстэме ЦБК.

У процэсе перагавораў з радам установ удалося к сучаснаму моманту ўцягнуць у сэкцыю прадстаўнікоў ад наступных устаноў і організацый: 1) ВСНГ РСФСР 2) НКЗ СССР 3) Упраўл. Вайскова-Паветраных сіл РСЧА. 4) Упр. штабу РСЧА, 5) сэктару абароны Дзяржпляну РСФСР 6) Цэнтральнага Савету Асоавіяхэму і 7) Гідра-Мэтэоролёгічнага камітэту СССР.

Сэкцыя зьвярнулася да ўстаноў з просьбаю намеціць рад абаронных пытаньняў, якія могуць быць пераданы для прапрацоўкі краязнаўчымі організацыямі.

Намечана організацыя краязнаўчых ячэек у часьцях РСЧА., штабах РСЧА адкладзена да звароту часьцей РСЧА з лягерных збораў (лістапад—сьнежань).

Складзены плян організацыйных мерапрыемстваў, намечаных да выкананьня на працягу другой паловы 1931 г. У асноўным намечаныя мерапрыемства выконваюцца. Складзена і даслана зацікаўленым установам на ўзгадненьне і заключэньне палажэньне аб сэкцыі абароны пры ЦБК.

Складзена дырэктыва для ніжэйшых краязнаўчых організацый аб організацыі на мясцох работ па садзейнічаньню выданьню гісторыі грамадзянскай вайны. Складаюцца тэзісы для дакладчыкаў аб абароннай працы для брошуры, якая выдаецца ў сувязі з правядзеньнем краязнаўчага месячніку.

### Праца студэнцкай і школьнай сэкцыі

1. Праведзена рэорганізацыя студэнцкай сэкцыі ў камісію па рабоце сярод моладзі. Выпрацаванае сэкцыяй палажэньне зацьверджана Прэзыдыумам ЦБК. Сэкцыя зьвязалася ў працы з ЦК УсеЛКСМ.

2. Удзел на нарадзе культурна-масавага сэктару ЦК УсеЛКСМ па пытаньню аб працы комсамольцаў па краязнаўству.

3. Падрыхтаваны да друку 10 артыкулаў для зборніку „Молодой Исследователь“ і „Практыка Краязнаўчай працы школ“. Казанскі—„Краязнаўчы падручнік для масавай школы“. Пад'ямпольскі — „Школа і ахова прыроды“. Брошура Фаміна „Як організаваць вучнёўства на вывучэньне свайго раёну.

Друкуецца зборнік—„Краязнаўства ў політэхнічнай школе“.

### Праца вучотна-плянавай камісіі

Камісіяй прапрацоўваліся і падрыхтоўваліся наступныя пытаньні да Прэзыдыуму ЦБК: аб удзеле краязнаўчых організацыі і ЦБК ва Ўсесаюзнай конфэрэнцыі па разьмяшчэньню вытворчых сіл; разгледжаны і прыняты з зьменамі плян Чувáскіх краязнаўчых курсаў; прапрацаваны профіль спэцыяліста, які выпускаецца краязнаўчым аддзяленьнем гістарыка-філёзофскага інстытуту; распрацаваны прынцыпы організацыі работы інстытуту краязнаўства ў Ногінску Маскоўскай вобласьці (раён вопытнай краязнаўчай працы). Складзены і разасланы формы вестак ОБК, РБК і ячэйках для складаньня даведніка краязнаўчых організацый.

### Праца рэдакцыйна-выдавецкай камісіі

Выпушчаны № 6 „Советское Краеведение“. Зданы ў друк аб'яднаны № 7, 8. Зданы ОГІЗ'у работы:

Толстова — „Введении в Советское Краеведение“.

Сур'янінава — „Норская мануфактура“.

Адамава — „Гісторыя аднэй пабеды“.

Ніканава — „Проект ж. д. магістралі Кінель-Ермоліна“.

Акрамя таго зданы ў друк для масавага тыражу:

Сьцяпанаў П. Н.—„Урала-Кузбаскі комбінат і задачы краязнаўства і 7 інструкцый“.

### Праца бібліотэчна-бібліографічнай камісіі

1. Складзены для часопісі „Советское краеведение“ два сьпісы бягучай краязнаўчай літаратуры за 1931 г. № 5, 6.
2. Складзены сьпіс організацыйна-мэтодычнай літаратуры па краязнаўству (108 назваў).
3. Папоўнены сьпіс літаратуры па Урала-Кузьнецкаму комбінату (176 назваў).
4. Бібліографічная картотэка ў ЦБК папоўнена карткамі нановавышаўшай літаратуры за чэрвень—жнівень м-цы.

### Праца бібліотэкі

*Па частцы ўкомплектаваньня бібліотэкі*

Паступіла кніг ў бібліотэту 445 друкаваных адзінак на суму 548 руб. 49 кап. Рэгулярна праглядалася бягучая кніжная летапіс і дасылаліся па ёй запытаньні на новую выходзячую літаратуру.

*Па абмену і забесьпячэньню літаратураю*

Даслана часопісь „Советское краеведение“ ў абмен 223 організацыям і выдана і даслана мэтодычная літаратура краязнаўчым організацыям у колькасьці 200 розных брошур.

*Па частцы апрацоўкі кніг*

Апрацавана (апісана па картках) 445 кніжок. Напісана і расклеена картак—889. Растаўлена картак па каталёгах 913.

*Па абслугоўваньню чытача*

Карысталася бібліотэкаю 70 чытачоў, ня лічачы супрацоўнікаў ЦБК, наводзячых даведкі па літаратуры ў процэсе працы. Выдана кніжок—400. Попыты на літаратуру за гэты час былі, галоўным чынам, у сувязі з экскурсіямі і экспэдыцыямі (Урала-Кузбас, Паўн. Каўказ, Маскоўская вобласьць), а таксама патрабавалася і праглядалася літаратура ў сувязі з бібліографічнымі працамі, з складаньнем мэтодычных дапаможнікаў па

краязнаўству і монографічнаму апісаньню прадпрыемстваў.

### Усерасійскае таварыства аховы прыроды і садзейнічаньня разьвіцьцю прыродных багацьцяў

Прадстаўнік таварыства прымаў удзел у паседжаньнях цэнтральнага штабу па санітарнаму становішчу Масквы і штабу па азеляненьню Масквы. На зьлёт „трох пакаленьняў“ накіравана 20 чал. актыўных членаў т-ва для ўвязкі і інструктажу па зялёных насаджэньнях у Маскве ўвосень 1931 г.

Прачытаны даклад т. Ананьевым на пашыраным пленуме Красна-Прэсьненскага Райсавету.

Організаваны ячэйкі і гурткі сярод рабочых будаўнікоў Аэропарку і вылучана з іх ударная брыгада ў 25 чал. Організавана ячэйка ў Клепках (Маск. вобласьць). Зацьверджаны ўпаўнаважаны т-ва ў саўгасе „Сухі хрыбет“, організавана ячэйка ў с. Багародзкім (Маск. вобл.). Праводзіцца праца па організацыі аддзяленьня т-ва ў раёне „Голай прыстані“ на Хэрсоншчыне і ў Хабараўску. Выпушчана і разаслана часопісь за 1931 г. і набіраецца 4, 5, 6. Праводзіцца рэгулярны абмен літаратураю. Уступіла новых членаў—181 чал.

### Завочныя краязнаўчыя курсы

За справаздачны пэрыод па завочным курсах праводзілася організацыйная і падрыхтоўчая праца.

Быў надрукаваны ў масавым тыражы (50.000) проект курсаў і разасланы рэспубліканскім, краёвым і абласным бюро краязнаўства, а таксама райпрофсаветам і райколгассаюзам для распаўсюджваньня па фабрыкам, заводам, саўгасам і колгасам, Аб'явы аб адчыненьні курсаў былі даны ў радзе цэнтральных і мясцовых газэт.

Рыхтуюцца да друку першыя лекцыі курсаў—„Асновы Савецкага Краязнаўства“. Організаваны Савет курсаў і прыёмная камісія зацьверджаны Прэзыдыумам ЦБК.

З ліпня гг. пачаўся прыём заяў на курсы: на 15 верасьня прыёмнай камісіяй курсаў прынята 770 чал.

Склад прынятых наступны:

а) па соцыяльнаму стану.

| | |
|---|---|
| Рабочых | 10% |
| Колгасьнікаў | 18% |
| Сялян-аднаасобнікаў | 14% |
| Служачых | 26% |
| Настаўнікаў | 12% |
| Вучняў | 11% |
| Чырвонаармейцаў | 6% |
| Іншых (самат)., | 3% |

б) па партыйнасьці:

| | |
|---|---|
| Членаў УсеКП(б) | 7% |
| „ УсеЛКСМ | 20% |

в) па асьвеце:

| | |
|---|---|
| Вышэйшая | 5% |
| Сярэдняя | 54% |
| Ніжэйшая | 41% |

г) па ўзросту:

| | |
|---|---|
| Да 20 год | 36% |
| Ад 20—30 г. | 40% |
| Вышэй | 24% |

д) па полу:

| | |
|---|---|
| Мужчын | 89% |
| Жанчын | 11% |
| | 100% |

Заявы аб прыёме зараз паступаюць.

## Вынікі абсьледваньня краязнаўчай працы на мясцох

*(Аршанскі, Асьвейскі, Віцебскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі і Сіроцінскі раёны).*

Краязнаўчая праца ў пералічаных раёнах да апошняга часу была ў поўным развале. Былыя раённыя краязнаўчыя таварыствы, якія ў большасьці праводзілі працу ў адпаведнасьці з наццэмаўскімі ўстаноўкамі, фактычна самараспусьціліся і сваю дзейнасьць спынілі з восені 1930 г. Праца іх належным чынам мясцовымі організацыямі не правяралася.

Да перабудовы краязнаўчай працы, выходзячы з конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва, спробы ў некаторых раёнах былі зроблены, але не даведзены да канца.

Так, у Полацкім, Сіроцінскім, Дрысенскім і Аршанскім раёнах часткова праводзілася „краязнаўчая пяцідзёнка“, у выніку чаго было зроблена некалькі дакладаў на прадпрыемствах, у колгасах і навучальных установах—аб задачах савецкага краязнаўства, былі дзе-колечы організаваны краязнаўчыя ячэйкі і было складзена часовае раённае бюро краязнаўства. На жаль організаваныя бюро, дзякуючы адсутнасьці належнага кіраўніцтва і праверкі іх працы, нічога не рабілі ў напрамку замацаваньня і далейшага разгортваньня краязнаўчага руху. Амаль такі-ж малюнак бачым па краязнаўчай працы ў Віцебскім і Асьвейскім раёнах. У Расонскім раёне „Краязнаўчая пяцідзёнка“ зусім не праводзілася, а абмежаваліся вылучэньнем упаўнаважанага па краязнаўству. Дапамогі ў працы ўпаўнаважанаму ніхто не аказваў і зразумела праца па разгортваньню краязнаўчага руху ў раёне не праводзілася.

Трэба адзначыць, што ўсе раёны чамусь-та лічылі патрэбным адкладваць далейшае разгортваньне працы па краязнаўству да пачатку навучальнага году, трымаючыся, мусіць, поглядаў, што асноўнымі працаўнікамі па краязнаўству павінны быць настаўнікі. Не абвяргаючы таго, што настаўніцтва павінна прымаць актыўны ўдзел у краязнаўчай працы, трэба, усё-ж сказаць, што стаў-

ка толькі на настаўніцтва будзе няверная, бо задачы савецкага краязнаўства як—„формы садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву з боку савецкай грамадзкасьці шляхам вывучэньня краю і прыстасаваньня вынікаў вывучэньня ў справе яго будаўніцтва“—патрабуюць удзелу ў краязнаўчым руху, пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, шырокіх мас непасрэдных будаўнікоў соцыялізму: рабочых, колгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, адданай справе пролетарыяту інтэлігенцыі, студэнцтва і іншых. Зараз у некаторых раёнах (Віцебскі і Дрысенскі) сур'ёзна ўзяліся за організацыю краязнаўчай справы. Організаваны раённыя бюро краязнаўства, выпрацаваны пляны працы на бліжэйшы час. Галоўным чынам, пляны працы прадугледжваюць організацыйныя моманты: яшчэ большая папулярызацыя савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас, аформленьне і ўчот краязнаўчай сеткі, уцягненьне ў краязнаўчую працу рабочых і колгасьнікаў, увязка краязнаўчай працы з плянуючымі, гаспадарчымі і культурна-асьветнымі ўстановамі і г. д. Віцебскі гарком КП(б)Б прыняў пастанову забясьпечваючую далейшае пасьпяховае разгортваньне краязнаўнага руху ў раёне.

Організаваныя часовыя бюро краязнаўства ў Асьвейскім, Полацкім і Сіроцінскім раёнах, якія прыступалі да правядзеньня організацыйнай працы ў напрамку разгортваньня краязнаўчай справы.

Горш справа ў гэтых адносінах у Расонскім і Аршанскім раёнах, асабліва ў першым, там і зараз вельмі мала думаюць аб разгортваньні краязнаўчай працы. На працягу двух дзён райінспэктар нарасьветы т. Бутармеў, якому была даручана РК КП(б) склікаць ініцыятыўную групу па організацыі часовага раённага бюро краязнаўства, зрабіць гэтага ня здолеў, бо ён кажа „краязнаўства я прызнацца ня люблю“. Нічога ня робяць у гэтым напрамку і профсаюзныя органы Расонскага раёну, нават маючыя адпаведныя дырэктывы з боку ЦСПСБ у гэтым кірунку.

У Аршанскім раёне справу організацыі раённага бюро краязнаўства чамусь-та адкладаюць, праўда ў культпропе РККП(б) ёсьць меркаваньне даручыць організацыю краязнаўчага бюро рэдактару мясцовай газэты т. Жалезьнякову, які гатоў узяцца за справу, але пры ўмове, калі яго вызваляць ад іншых партыйных і грамадзкіх нагрузак.

У заключэньне трэба сказаць, што ўсё-ж такі раённыя організацыі і ўстановы вельмі недастаткова ўдзяляюць увагі разгортваньню краязнаўчай працы, што трэба зьнішчыць у самы бліжэйшы час і толькі пры такой умове можна спадзявацца, што краязнаўчыя організацыі паказаных раёнаў змогуць узяцца за плянавую і сыстэматычную працу па дасьледваньню і вывучэньню сваіх раёнаў.

Т. К.

## Да ўсіх організацый і членаў ячэек Т-ва ПТЭ

Часопіс „Савецкая Краіна“, орган Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук, зьяўляецца масавым навукова-популярным часопісам, які зьмяшчае матар'ялы масавай навукова-дасьледчай працы, організуе масы для актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве праз усебаковае вывучэньне свайго раёну і вядзе жорсткую барацьбу з варожымі антымарксысцкімі плынямі ў навуцы.

У часопісу „Савецкая Краіна“ адводзіцца месца і будзе ўведзены спэцыяльны аддзел для зьмяшчэньня матар'ялаў дасьледча-турыстычных паходаў, экскурсій для адшуканьня сыравіны для станкоў пяцігодкі, на фабрыкі і заводы, у саўгасы, колгасы, МТС, для асьвятленьня разгортваньня пролетарскага турыстычнага руху ў БССР і для зьмяшчэньня мэтодна-кіраўнічага матар'ялу (програм, інструкцый і інш.).

Часопіс „Савецкая Краіна“ павінен быць выпісаны кожнай організацыяй і кожным членам Т-ва ПТЭ. Цэнтральны Савет Т-ва ПТЭ і ЦБК заклікаюць усе пролетарска-турыстычныя організацыі БССР і ўвесь актыў гэтых організацый стаць ня толькі чытачамі „Савецкай Краіны“, але і актыўнымі яе дапісчыкамі, выяўляючы работу мясцовых організацый у справе разгортваньня масавай дасьледчай працы і актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Нам. Старшыні Цэнтральнага Савету
Т-ва ПТЭ Нарановіч.

Старшыня ЦБК В. Серафімаў.

## Пастанова рэдкалегіі часопісу „Савецкая Краіна“

### аб зьмяшчэньні ў № 8 „Савецкай Краіны“ за 1931 год інструкцыі „Аб вывучэньні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў“.

1. Зьмяшчэньне ў часопісу „Савецкая Краіна“ № 8 за 1931 г. інструкцыі „Аб вывучэньні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў“, паданай навуковым супрацоўнікам сэкцыі этнографіі Інстытуту гісторыі І. А. Сербавым нібы ад сэкцыі этнографіі, прызнаць грубейшай палітычнай памылкай.

2. Рэдкалегія адзначае, што ў памянёнай інструкцыі адсутнічаюць якія-б то ні было клясавыя ўстаноўкі; інструкцыя напісана бяз клясавага падыходу і ўлічэньня тых вялізных дасягненьняў і таго новага, што ёсьць у соцыялістычным будаўніцтве па лініі экономікі, організацыі працы, культуры і быту; інструкцыя адбівае нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі ў этнографіі і зьяўляецца ў поў-

ным сэнсе няпісьменнай з пункту погляду задач сучаснай этнографіі і яе марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі.

3. Прасіць сэкцыю этнографіі ў бліжэйшым часе распрацаваць новую інструкцыю па даным пытаньні, разглядзеўшы на сваім паседжаньні і пытаньне адносна тав. Сербава, падаўшага вышэйпамянёную інструкцыю.

4. Адзначыць, што з боку рэдактара часопісу „Савецкая Краіна“ тав. Садоўскага, праз рукі якога праходзіла памянёная інструкцыя, ня выяўлена належная клясавая пільнасьць. Пытаньне аб тав. Садоўскім разгледзець пасьля звароту яго з водпуску.

5. Прызнаць, што за апошні час работа рэдкалегіі па прагляду падаваных для часопісу „Савецкая Краіна“ матар'ялаў у значнай меры аслабла. Работу гэту канечна трэба неадкладна ўзмацніць і праводзіць сыстэматычна.

6. У сувязі з тым, што ў часопісу заўважаны рад недахватаў у сэнсе стылістычнай апрацоўкі матар'ялаў для друку, лічыць неабходным узмацніць і палепшыць работу па апрацоўцы матар'ялаў для часопісу і наогул зьвярнуць большую ўвагу на рэдакцыйна-выдавецкую справу.

Рэдкалегія.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 2647. Заказ № 710. Тыраж 1000 экз. 7 арк.

# Зьмест

*Стар.*



## Рэцэнзіі і бібліографія





*Стар.*

## Афіцыйны аддзел



## Хроніка



---

Цана 50 кап.




# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПРЫЁМ ПАДПІСКІ на 1931

— НА —

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
пры Беларускай Акадэміі Навук

# „САВЕЦКАЯ КРАІНА“

„Савецкая Краіна“—навукова-дасьледчы, навукова-папулярны марксыцка-ленінскі краязнаўчы часопіс—зьмяшчае артыкулы навукова-дасьледчага, навукова-папулярнага, палітычна-масавага, публіцыстычнага, апісальнага характару, а таксама краязнаўчыя нарысы, марксыцка-ленінскую крытыку, рэцэнзіі і бібліографію.

„Савецкая Краіна“—магутны барацьбіт за марксыцка-ленінскую ідэолёгію, за дыялектычны мэтод Маркса-Леніна ў краязнаўстве і навуцы, магутны барацьбіт за генэральную лінію комуністычнае партыі.

„Савецкая Краіна“—ваяўнічы змагар з варожымі марксызму-ленінізму плынямі ў краязнаўстве і навуцы, які ставіць задачу ваяўніча змагацца з контр-рэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам, за пролетарскую навуку і культуру, за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна“—ставіць задачай мобілізацыю шырокіх мас на дасканалае навуковае дасьледваньне вытворчых сіл БССР у інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва і на непасрэдны ўдзел у гэтым будаўніцтве

„Савецкая Краіна“—за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна“—за перабудову ўсёй краязнаўчай працы на новых вытворчых асновах. Кожны завод, кожная фабрыка, кожны саўгас, колгас,—даёш краязнаўчыя ячэйкі для вывучэньня вытворчых сіл у інтарэсах пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

„Савецкая Краіна“—орыентуецца на масавага краязнаўцу. Партыйцы і комсамольцы, беспартыйныя рабочыя, колгасьнікі, батракі, бедната і лепшая частка серадняко ў, студэнцтва, вучнёўская моладзь, вясковая і гарадзкая інтэлігенцыя, адданая справе соцыялістычнага будаўніцтва, актыўна пішэце ў часопіс вашы краязнаўчыя допісы.

Часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА“ выходзіць раз у месяц.

**Кожны завод, кожная фабрыка, кожны колгас, саўгас, вёска, школа, тэхнікум, ВНУ, хата-чытальня, клюб, нардом, чырвоны куток, кожны фабком, заўком, мясцком, кожны профсаюз, кожны настаўнік, навуковы працаўнік, кожны рабочы, батрак, бядняк актывісты, кожны экономісты, культасьветны, коопэрацыйны працаўнік—усе падпішэцеся на 1931 год на часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА“.**

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц — 50 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяца |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** У Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 79, рог Ленінскай), у рэдакцыі часопісу „Савецкая Краіна“ (Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29/35, ЦБ Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.